Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 12 (4658) 23 сакавіка 2012 г.

**Максім ТАНК**

* * *

*Паэзія!*
*Я цябе знаю,*
*Гарэзлівая маладзіца*
*З пасёлка майго,*
*Якая крычала не раз,*
*Заманіўшы ў маліны:*
*— Хутчэй дагані!*

*Крыху сентыментальная,*
*Як усе жанчыны,*
*Што любяць дзяцей*
*І часта цяжарныя ходзяць.*

*Вось і сягоння —*
*Сядзіш ты*
*пад бабкаю жыта,*
*Грудзьмі загарэлымі*
*Корміш малога,*
*Які хоча сонца злавіць.*

*Ніхто не ўгадае,*
*Куды пойдзеш вечарам,*
*Дзе твой прыпынак,*
*Хоць я адчуваю,*
*Што недзе жывеш ты*
*Між полюсамі майго сэрца —*
*Маўчаннем і крыкам.*

1965



# Уладзімір Карызна:
# «Сапраўдная паэзія ўяўляецца мне багіняй…»

Алена КАРП,
фота Кастуся Дробава

**Сусветны дзень паэзіі быў заснаваны ЮНЕСКА ў 1999 годзе і ўпершыню адзначаўся 21 сакавіка 2000 года. Штогод святочная дата становіцца яшчэ адной нагодай падумаць пра адметнасць, развіццё і папулярызацыю паэтычнай творчасці. Сваімі развагамі на гэту тэму падзяліўся паэт, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Карызна.**

**— Паэзія, як правіла, уяўляецца нечым неспасцігальным, загадкавым, звыштонкай матэрыяй. І тым не менш, а можа, якраз таму, многія творцы спрабавалі асэнсаваць гэту няўлоўную стыхію. А што паэзія для вас?**

— Для мяне паэзія — веснавое світанне, якое ўзрушвае думкі, сэрцы, дае сілы быць чалавекам, заставацца ім тады, калі ты надта шчаслівы, і тады, калі табе вельмі нялёгка, калі ледзь выносіць сэрца цяжкія жыццёвыя выпрабаванні. Сапраўдная паэзія ўяўляецца мне багіняй, якой па сіле зрабіць усё, каб чалавек заставаўся чалавекам, каб не страціў сваёй зорнай надзеі, каб быў шчаслівым.

**— Ці існуе пэўны паэтычны кодэкс, пастулаты кшталту пушкінскага “хвалу и клевету приемли равнодушно”, якіх, на вашу думку, варта прытрымлівацца паэту? Якім мусіць быць паэт, несучы тую высокую місію, пра якую вы кажаце?**

— Вядома, чалавекам. Як кажуць, ад Бога. Яго павінны ведаць, любіць, чытаць, верыць і даваяраць яму. Паэт — гэта корань роднай зямлі. Без яго жыццё марнее, слабее нацыя. Згубіць паэта — вялікая, непапраўная страта, бяда. Для яго трэба ствараць умовы. Паэтычная творчасць павінна быць запатрабаванай, чытаемай і любімай.

**— Наколькі для вас як для паэта-песенніка знітаваныя паэзія і музыка?**

— Самі па сабе паэзія і музыка маюць найвялікшае ўздзеянне на душу чалавека, але пры іх знітаванасці эфект павялічваецца, як кажуць у народзе, на разы. Успомніце “Зорку Венеру” Максіма Багдановіча ў незабыўным, я сказаў бы, геніяльным выкананні шырмаўскай капэлы. Нам нельга забываць багатую спадчынную песенную культуру, культуру нашых класікаў, Ісака Любана, Уладзіміра Алоўнікава, Юрыя Семяняўкі і іншых выдатных беларускіх кампазітараў, чые песні некалі кожны дзень гучалі па радыё і тэлебачанні, у шматлікіх канцэртах. Гэтыя песні расцілі дзяцей і моладзь — урэшце, народ. А сёння мы, на жаль, не чуем нашу класіку. Я думаю, што адна з найвялікшых культурных праблем, якая паўстае перад намі, — гэта праблема прапаганды песні, працягу вялікіх традыцый вялікага народа. Іх нельга занядбаць. Так званыя маладыя кампазітары без элементарнай музычнай адукацыі прыдумваюць з дапамогай тэхнікі мелодыю, нейкае прымітыўнае суправаджэнне, і гэта, на вялікі жаль, значнай часткай моладзі ўспрымаецца.



*Асабістыя рэчы першага народнага паэта Беларусі з экспазіцыі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.*

Усім, хто да гэтага мае дачыненне, я думаю, трэба звярнуць увагу: у нас ёсць што паказаць, у нас ёсць усё для таго, каб наша песня, як і раней, расціла, вучыла, загартоўвала душу. Песня мае такія крылы, такі эмацыянальны інтэлект! І ў нашай спадчыне ўсё гэта ёсць. Гэтым трэба даражыць, бо што не цэніцца, тое прападае.

**— Вы шмат казалі пра музычную класіку. А якое месца займае традыцыя ў развіцці паэзіі?**

— Традыцыі ў паэзіі — гэта дзівосныя карані і чароўныя крыніцы, без якіх творцу нельга быць, любіць, хвалявацца, радавацца. Ён не мае права іх ігнараваць, бо за імі — ідэалы і лёс народа, яго гістарычныя і мастацкія шляхі, перамогі, выпрабаванні. Іх могуць адмаўляць толькі Іваны, якія не маюць сваёй калыскі. Традыцыі — гэта тое, на чым трымаецца нацыя, на чым трымаецца зямля, на якой працуе, адпачывае, спявае, радуецца, а часам і сумуе наш вялікі народ.

**— Ужо далёка не новая, неадназначна паўтораная думка, што беларусы — нацыя паэтаў. Наколькі сёння гэты вобраз адпавядае рэальнасці? Ці адчуваеце вы ў сучасным грамадстве цікавасць да паэзіі?**

— Думаецца, што сёння грамадства не вельмі цікавіцца паэзіяй, бо так сталася, што душу чалавека захапіў рубель, а праз яго не відаць і паэзіі, быццам без яе можна пражыць, застацца асобай, чалавекам. Паэзія — гэта песня, гэта душа народа, а бяздушнага не любяць. Тым больш народ не можа быць бяздушным.

У віхуры нашых новых, ды і старых выданняў носіцца шмат, мякка кажучы, пустацвету. Можна надрукаваць кніжку любых вершаў, але гэта не будзе паэзіяй.

Між тым у нашай літаратуры працавалі такія волаты, як Багдановіч, Купала, Колас, Танк, Панчанка… Беларуская паэзія — гэта цэлы космас, гэта неба, гэта вялікая сіла. У жыцці даводзіцца перамагаць і самога сябе, каб з добрага чалавека не стаць дрэнным, такім, у горшым сэнсе гэтага слова, гандляром, эгаістам. З песняй гэтага не будзе. І пакуль будзе верш, будзе і песня, будзе Беларусь, будзе чалавек, якога чуваць здалёк, таму што нашы песні, наша паэзія вядомыя далёка за межамі Беларусі.

**— За чыёй творчасцю вы сочыце? Каго можаце вылучыць з маладых беларускіх паэтаў?**

— З маладых паэтаў, а іх вельмі нямала, я хацеў бы адзначыць Таццяну Атрошанку. Яна захавала ў сваёй паэзіі тое вялікае, шчырае, беларускае, што стварылі нашы класікі. Яна не гоніцца за формай, але яе вершы кладуцца на душу, іх хочацца чытаць. Таццяна вывучыла музычную граматy, засвоіла гармонію і піша песні. Душа мая, душа музыканта, паэта, радуецца, што ёсць у нас творцы, якія працягваюць тое вялікае, што ўжо створана.

Я хацеў бы назваць — ужо не з моладзі — вельмі блізкіх мне па духу, таленавітых паэтаў, такіх, як Віктар Гардзей, Казімір Камейша, Уладзімір Мазго, Васіль Макарэвіч, Валянціна Паліканіна, рускамоўная паэтэса, якую я падтрымліваю і чытаю з задавальненнем. Яна працаўніца, пчолка, часта выходзяць яе кнігі, і не танюткія, а салідныя. І такія ж салідныя ў яе аўдыторыі. Самае важнае, што Валянціна Паліканіна не геройадзіночка, у яе шмат сяброў: і кампазітары, і вакалісты, і паэты. Я не раз выступаў на яе вечарах у самых прэстыжных залах, перад культурнымі, інтэлігентнымі слухачамі, і мне было вельмі прыемна, што ў нас ёсць сяброўства паміж паэтамі, а гэта значыць, што паэзія развіваецца, прыходзіць да сэрцаў усё большай колькасці людзей.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў галоўнага дырыжора Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы Людмілу Яфімаву з юбілеем. Кіраўнік дзяржавы выказаў спадзяванні, што народная артыстка Беларусі, якая так шмат зрабіла для свайго калектыву, і надалей будзе знаходзіцца ў творчым пошуку, "плённа і самааддана служыць нацыянальнай культуры, праслаўляць нашу Айчыну".

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў пісьменніка і грамадскага дзеяча Валянціна Распуціна з 75-годдзем. "Вы — адзін з лепшых прадстаўнікоў той кагорты тытанаў духу, якіх па праве называюць сумленнем народа, — сказана ў віншаванні. — І сёння Ваша праўдзівае слова знаходзіць гарачы водгук у грамадстве, прыкоўваючы ўвагу людзей да сацыяльных і маральных праблем сучаснасці. Мы паважаем Вас за талент і грамадзянскую мужнасць, за пастаянную падтрымку Беларусі".

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выразіў спачуванні родным, блізкім і калегам народнай артысткі РСФСР Людмілы Шагалавай у сувязі з яе смерцю. "Беларускія гледачы любілі Людмілу Аляксандраўну і заўжды ганарыліся ёю як нашай праслаўленай землячкай, чыя творчасць служыла сцвярджэнню ідэалаў гуманізму і дабрыні", — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Граматай Міністэрства культуры Беларусі ўзнагароджана старэйшая супрацоўніца "ЛіМа" Святлана Берасцень, Падзяка міністра культуры Беларусі выказана галоўнаму рэдактару выдання Таццяне Сівец і рэдактару аддзела літаратуры Віктару Гардзею за захаванне культурных традыцый, асабістыя творчыя дасягненні і ў сувязі з 80-годдзем з дня выхаду першага нумара газеты "Літаратура і мастацтва".

✔ Дні культуры Ізраіля ў Беларусі і Дні культуры Беларусі ў Ізраілі будуць праведзены ў гэтым годзе згодна з дамоўленасцю, дасягнутай падчас рабочай сустрэчы Міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі і Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Ізраіля ў Беларусі Іосіфа Шагала. Таксама абмяркоўваліся пытанні супрацоўніцтва нашых краін у сферы кінематаграфіі, тэатральнага мастацтва, музейнай справы і выставачнай дзейнасці.

✔ Філіял Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі створаны ў Наваполацку. Спектаклі і канцэрты будуць праходзіць тут штомесяц на сцэне палаца культуры прадпрыемства "Нафтан". Першы паказ адбудзецца ў канцы красавіка. Наваполацкі філіял — ужо другі па ліку. Першы быў адкрыты ў снежні 2011 года ў Магілёве.

✔ Народны маладзёжны тэатр "Колесо" Цэнтра культуры "Віцебск" стаў пераможцам IX Міжнароднага фестывалю масачных традыцый у Латвійскім Даўгаўпілсе. Удачу віцябчанам прынесла выступленне "Сіняя птушка Беларусі". Першае месца з тэатрам "Колесо" падзяліў фальклорны калектыў з Лівана "Ceiruleits". Другое месца атрымаў творчы калектыў беларускага таварыства Даўгаўпілса "Уздым".

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Перамогуць — найлепшыя!

**Саюз пісьменнікаў Беларусі ўжо шосты раз вылучае кнігі розных кірункаў і жанраў для ўдзелу ў рэспубліканскім конкурсе на лепшы твор года. Конкурс гэты заслужана лічыцца ў нашай краіне прэстыжным. Знак-сімвал перамогі ў ім — памятная статуэтка "Залаты Купідон" — сведчыць пра высокі ўзровень майстэрства творцы. Першы сакратар праўлення СПБ Генадзь Пашкоў распавядае пра асаблівасці правядзення літаратурнага конкурсу ў гэтым годзе.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**— Генадзь Пятровіч, ці паўплывала неяк нейкім чынам абвяшчэнне 2012-га Годам кнігі на ўмовы пісьменніцкага спаборніцтва?**

— У сувязі з правядзеннем Года кнігі да пісьменнікаў — павышаная ўвага, трэба думаць, што кнігі пераможцаў будуць пасля абвяшчэння вынікаў прачытаны вялікай колькасцю суайчыннікаў. Але хто сказаў, што ў іншыя гады да адбору твораў на такі аўтарытэтны конкурс дапушчальна падыходзіць нядбайна?

**— Ці мяняліся неяк конкурсныя ўмовы?**

— Істотных перамен не адбылося. Для разгляду журы будуць прадстаўлены творы наступных жанраў: паэзія, проза, дзіцячая літаратура, драматургія, гумар і сатыра, песенны жанр, публіцыстыка, крытыка і літаратуразнаўства, краязнаўчая літаратура, пераклад. У намінацыях "Паэзія", "Проза", "Дзіцячая літаратура" прысуджаюцца тры прэміі, у астатніх — па адной. Журы мае права не прысуджаць прэміі ў той намінацыі, у якой, на іх думку, не было прадстаўлена сапраўды моцных і вартых твораў, і гэткія выпадкі былі. Да ўдзелу ў конкурсе могуць быць вылучаны творы, напісаныя як адным аўтарам, так і аўтарскім калектывам. Асаблівасцю конкурсу з'яўляецца тое, што лаўрэатам у ім становяцца толькі аднойчы. Пісьменнік, які ўжо мае "Залатога Купідона", не можа змагацца за яго ў наступныя гады. Пераможцы конкурсу па традыцыі будуць узнагароджаны ў верасні ва ўрачыстай абстаноўцы падчас святкавання Дня беларускага пісьменства.

**— Якія творы вылучаны на конкурс сёлета?**

— Іх багата. Цяжка ўсе пералічыць. Назаву па памяці. Зборнікі вершаў Тамары Красновай-Гусачэнкі "У света тени нет...", Алега Салтука "Дзве зары", Міхася Башлакова "Віно адзінокіх", Аліны Легастаевай "Поле жизни моей", Таісіі Трафімавай "Вёска пад ліпамі", Жанны Міlановіч "Напиши мне о счастье", Галіны Самойлы "Зоркі над маўклівай адзінотай" і іншыя. Кнігі прозы Барыса Бележэнкі "Тайны Тяпинского холма", Мікалая Бусько "Сляды ад верасня", Наталлі Касцючэнкі "Верба над омутом", Алены Мінчуковай "Венок судьбы" і іншыя. Дзіцячыя кнігі Міколы Маляўкі "Коласаў абярэг. Дзецям пра Якуба Коласа", Вольгі Нікольскай "Мы — агенты «КолбаФир»...", Міхася Пазнякова "Гульняслоў" і іншыя. Кніга п'ес Фёдара Палачаніна "Зраненае сэрца", кніга гумару і сатыры Юліі Зарэцкай "Шчаслівыя людзі", зборнік песень Івана Цітаўца "Неразгаданы пруг", краязнаўчыя кнігі Анатоля Статкевіча-Чабаганава, Уладзіміра Навумовіча і Ніны Русаковіч, публіцыстычныя працы Мікалая Барысенкі і Славаміра Антановіча, крытычныя і літаратуразнаўчыя — Зіновія Прыгодзіча, Міхася Кавалёва (Слівы), Валерыя Максімовіча. А таксама пераклады Уладзіміра Скарынкіна і Ірыны Качатковай. І гэта далёка не поўны пералік. Але ўсе вылучаныя творы, на мой погляд, вартыя быць прадстаўленымі на конкурс, яркія і цікавыя. А якія з іх прынясуць сваім аўтарам перамогу — пабачым.

## За падзеяй

# Шлях да будучыні

**XII Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Славянскі свет на шляху да будучыні" прайшла ў Мінску ў Рэспубліканскім культурна-асветніцкім цэнтры.**

У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі грамадскія дзеячы, прадпрымальнікі з сямі славянскіх дзяржаў і славянскай абшчыны з Алматы (Казахстан). Адзначаючы рэальныя пагрозы, якія існуюць для сучаснага славянскага свету і якімі трэба лічыць дзейнасць НАТА, зацяжны фінансава-эканамічны крызіс у Еўропе, палітычную дэстабілізацыю ў арабскім свеце, удзельнікі канферэнцыі, навукоўцы-славісты разгледзелі рэальныя магчымасці супрацьстаяння фактарам, якія раз'ядноўваюць славян, і выхавання славянскай моладзі ў духу гонару і шанавання сваёй продкаў, гісторыі, традыцый, культуры, мастацкіх і літаратурных набыткаў.

Аляксей ГАРБУНОЎ

## Імпрэзы

# «Звычайная» біяграфія

**Сярод пісьменнікаў, незаслужана забытых сёння айчынным чытачом, — выдатны творца, літаратуразнаўца, крытык і публіцыст Уладзімір Карпаў. 100-годдзю з дня яго нараджэння была прысвечана вечарына, якая сабрала сяброў, прыхільнікаў, блізкіх творцы ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі.**

У пісьменніка Карпава была "звычайная" франтавая біяграфія. Як у Шамякіна, Быкава і Савіцкага, як у Сіманава і Друнінай, як у большасці савецкіх творцаў яго пакалення, праўдзівых, прынцыповых, гатовых пастаяць за праўду ў мірныя часы гэтаксама, як стаялі калісьці за Радзіму на фронце. У ліпені 1944-га Уладзімір Барысавіч на чале групы аўтаматчыкаў-разведчыкаў увайшоў у вызвалены Мінск. І з гэтага часу сталіца стала яго лёсам і клопатам. Лепшыя мастацкія і публіцыстычныя кнігі яго, у тым ліку бестселер 1960-х "Нямігі крывавыя берагі", былі прысвечаны Мінску. Ён здзейсніў сапраўдны грамадзянскі подзвіг, дамагаючыся надання гораду непахіснай мужнасці самага ганаровага ў савецкія часы звання "Горад-герой".

З успамінамі, якім моцным публіцыстам, якім паслядоўным абаронцам беларускага нацыянальнага прыгожага пісьменства быў Карпаў — супрацоўнік "Советской Белоруссии", "ЛіМа", "Полымя", выступілі тыя, хто ведаў і памятаў яго, — галоўны рэдактар часопіса "Полымя" паэт Мікола Мятліцкі, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, прафесары кафедры беларускай літаратуры і культуры філалагічнага факультэта БДУ Таццяна Шамякіна і Алесь Бельскі, дачка пісьменніка Людміла, сын лепшага сябра Карпава, беларускага празаіка Тараса Хадкевіча, Леанід. Уладзімір Карпаў быў шчаслівым чалавекам, бо зведаў і сапраўднае — на доўгія гады — сяброўства, і вернае — на ўсё жыццё — каханне.

Выступоўцы распавядалі пра яркасць, харызматычнасць, "правільнасць", сапраўдную прыгажосць натуры Уладзіміра Карпава. І падкрэслівалі, між іншым, што проза Карпава заслугоўвае пільнай увагі і шукае сёння свайго даследчыка. Некаторыя кнігі гэтага цікавага, неардынарнага аўтара не страцілі сваёй мастацкай каштоўнасці і могуць быць рэкамендаваны не толькі для перавыдання, але і для ўключэння ў школьную праграму па літаратуры.

Паліна ПРЫГОДЗІНА

## Афіцыйна

Ірына ТУЛУПАВА

# Апекавацца спадчынай

**Пра неабходнасць стварэння Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны гаварылася на калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, якая прысвячалася праблемам прадухілення парушэнняў заканадаўства ў сферы аховы гісторыка-культурных каштоўнасцей. Ініцыятыва павінна быць дэталёва прапрацавана і ўнесена на разгляд у Савет Міністраў Беларусі.**

Пытанне аховы нашай спадчыны выносіцца на суд шырокай грамадскасці не ўпершыню. Не першы раз абмяркоўваецца тэма і з удзелам зацікаўленых асоб. Аднак зрухі ідуць не так хутка, як хацелася б. На сённяшні дзеньназіраецца невыкананне асобных палажэнняў заканадаўства практычна ва ўсіх рэгіёнах.

Цяпер у Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей знаходзіцца 5 425 аб'ектаў. Для іх захавання неабходна і дапамога рэгіянальных праграм. Тым часам у многіх рэгіёнах, асабліва Брэсцкай, Віцебскай, Магілёўскай абласцях, такія праграмы адсутнічаюць. Актуальнай у кантролі пытанняў, вынесенні іх на абмеркаванне ў абласных выканаўчых камітэтах бачыцца роля начальнікаў упраўленняў культуры.

Гаварылася і пра працу на міжведамасным узроўні. Летась па ініцыятыве міністра культуры Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі было падпісана пагадненне паміж міністэрствам і Генеральнай пракуратурай. Яно якраз і накіравана на цеснае ўзаемадзеянне дасведчаных у справе аховы спадчыны структур. Прысутны на калегіі начальнік упраўлення па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Генеральнай пракуратуры Павел Радзіёнаў у якасці яскравага прыклада назваў сядзібу Умястоўскіх (Гродзенская вобласць), уласнікам якой з'яўляецца сельскагаспадарчае прадпрыемства, што не дбае пра захаванне і аднаўленне будынка. Не вытрымліваюць выпрабаванняў часам і фактычна развальваюцца дамы па вуліцы Рэвалюцыйнай у Мінску і інш.

"У нас не настолькі вялікая колькасць каштоўнасцей, каб мы дазвалялі сабе так абыякава да іх ставіцца", — падкрэсліў Павел Радзіёнаў. Шмат пытанняў датычаць гістарычных памяшканняў у цэнтрах гарадоў. Звярталася ўвага на тое, што практычна няма нагляду за размяшчэннем на іх рэкламы. Гаварылася таксама пра сезонныя гандлёвыя павільёны, якія ўстанаўліваюцца блізу гісторыка-культурных каштоўнасцей і фактычна закрываюць першыя паверхі; пра фасады будынкаў і аблічча аб'ектаў; пра тое, што часам няма ўліковых картак, пашпартоў на аб'екты, не створаны зоны аховы.

На пабудовах часта адсутнічаюць ахоўныя дошкі. На калегіі прагучала думка: па першым часе выраб дошак можна даручыць вучням школ — такім чынам падлеткі змогуць далучыцца да агульнага клопату пра спадчыну.

Апошнім часам пачасціліся і просьбы рэгіёнаў аб выключэнні са спісаў ахоўваемых тых ці іншых гістарычных аб'ектаў: быццам бы яны "страцілі адметныя вартасці". Удзельнікі калегіі выказаліся прынцыпова: на пачатку XXI стагоддзя мы не маем маральнага права пакінуць сваю спадчыну без дзяржаўнай апекі. Нават у часы БССР існаваў значна большы спіс помнікаў, і пра іх клапаціліся! Няўжо цяпер, у незалежнай Беларусі, не зможам гэтага зрабіць?

На перспектыву, як вядома, запланавана далучыць да Дзяржаўнага спісу гісторыка-культурных каштоўнасцей яшчэ каля 1000 аб'ектаў — прыкладна па 200 на год.

## Літабсягі

# Прадчуванне цішыні

**Чысцінёй святліцца слова, якое падарыў беларускай літаратуры пісьменнік Янка Сіпакоў. А пакінуў ён пасля сябе сапраўды багатую спадчыну: 55 кніжак паэзіі, прозы, перакладаў, нарысаў, эсэ… Аднак на вечарыне, прысвечанай памяці Івана Данілавіча, што адбылася ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры, гучала больш слоў пра Сіпакова-асобу, чым пра Сіпакова-пісьменніка. Можа, таму, што ў любых жыццёвых варунках ён паводзіў сябе годна, з прыязнасцю ставіўся да ўсіх, з кім яго зводзіў лёс.**

**Ірына КАРЭЛІНА,**
**фота Кастуся Дробава**

У гасцёўні музея не было свабодных месцаў: калегі, сябры, аднакласнікі і проста прыхільнікі шчодрага таленту Янкі Сіпакова прыйшлі ў гэты дзень, каб аддаць даніну памяці творцы, які пісаў як жыў і жыў па тых законах, якія ўхваляў у сваіх кнігах. І аплывала трапяткая свечка на століку сярод лепшых кніг пісьменніка, і праектар высвятляў на экране аблічча мудрага чалавека, і гучалі незвычайна цёплыя словы пра майстра і асобу.

На вечарыне прысутныя шчыра дзяліліся ўспамінамі пра Янку Сіпакова. Шмат гадоў працаваў ён у часопісе “Маладосць” — пра перыяд яго працы ў часопісе “Маладосць” распавялі Уладзімір Дамашэвіч, Генрых Далідовіч, Казімір Камейша.

За знешняй сціпласцю Івана Данілавіча хавалася незвычайная прынцыповасць. Выбітны нарысіст, ён ніколі б не ўзяўся за матэрыял, у якім вымушаны хлусіць або быць няшчырым. Раіса Баравікова ўзгадала пра Янку Сіпакова як пра непахіснага кіраўніка Літфонду Саюза пісьменнікаў. Размяркоўваючы грашовыя дапамогі пісьменнікам, якія патрапілі ў цяжкае матэрыяльнае становішча, ён ні ў якім выпадку не прымаў заявы ад літфондаўскіх супрацоўнікаў.

А ўсяго за месяц да сыходу Іван Данілавіч зрабіў шчодры падарунак Аршанскай бібліятэцы імя Пушкіна — 15 тысяч тамоў кніжак асабістага грунтоўнага, пераважна навуковага кірунку кнігазбору. Была выказана і шчыра падтрымана ўсімі прысутнымі прапанова дабівацца перайменавання Аршанскай бібліятэкі ў бібліятэку імя Янкі Сіпакова.




*Уладзімір Дамашэвіч узгадвае пра сябра і калегу.*

Ірына Масляніцына заўважыла, што своеасаблівым завяшчаннем выглядае сёння апошняя з выдадзеных пры жыцці пісьменніка кніг — “Зубрэвіцкая сага”. Раман — пра стасункі продкаў і нашчадкаў, пра каханне, якое адно толькі і можа ўзняцца над смерцю, бо дае новае жыццё, пра тое, чаму беларусы, якія прайшлі праз безліч разбуральных войнаў, не згінулі як народ.

У апошнім сваім інтэрв'ю на пытанне пра лепшага сябра Янка Сіпакоў адказаў проста: “Цішыня”. Пэўна, прадчуваў, што хутка яна заўсёды будзе побач...

## Артлінія

# Маладыя і розныя

**Ёсць на вернісажах прыгожая завядзёнка: пакуль публіка ў чаканні афіцыйных прамоў шпацыруе па выставачнай зале, рэй вядзе музыка. Гэтым разам яна гучала па-вясноваму ўзрушана, па-юнацку імпэтна і нават дзёрзка — у духу самой экспазіцыі, адкрыццё якой сталася фэстам свежых візуальных вобразаў і яркіх эмоцый.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

Так, музычная прэамбула да рэспубліканскай выстаўкі “Маладзёжная-2012” уразіла сваёй трапнасцю. Прастора Палаца Мастацтва поўнілася акапэльным шматгалоссем; звонкая беларуская вяснянка змянялася вакальнай імправізацыяй, а ў яе экзатычных рытмах і джазавых гармоніях весела “хаваўся” такі знаёмы матыў — “Саўка ды Грышка”. Сапраўды арыгінальны творчы вынік атрымліваецца ў таленавітым жывым спалучэнні нацыянальнай асновы, традыцый класічнай школы і сусветных уплываў. Звярнуўшы ўвагу на гэта, знаны графік і педагог, першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца заклікаў прысутную моладзь да пошуку новых вобразаў, да смелых мастацкіх эксперыментаў. І падкрэсліў, што старэйшае пакаленне чакае ў работах сваіх наступнікаў і вучняў нават свавольства — аднак свавольства не “на злом галавы”, а разумнага, творча абгрунтаванага, пазітыўнага, здатнага развіваць нацыянальнае мастацтва і спрыяць яго прызнанню ў свеце. “Мы ад вас, маладых, не адчэпімся і кожнай вясною будзем прасіць усё новых работ для паказу на гэтай традыцыйнай штогадовай выстаўцы”, — дадаў намеснік старшыні БСМ па выставачнай дзейнасці Сяржук Цімохаў.

“Маладзёжная-2012” — праект, які не мае пэўнай канцэптуальнай, тэматычнай ці жанравай скіраванасці. Можна сказаць, што тут усё — “фармат”. Аднак адбор твораў для экспазіцыі праводзіўся паводле строгіх прафесійных крытэрыяў. Магчымасць паўдзельнічаць у выстаўцы атрымалі мастакі ва ўзросце да 35 гадоў (прычым не толькі члены БСМ), у чыіх работах адчувальны талент, індывідуальнасць, свабода творчага самавыяўлення, імкненне выказаць уласнае светаўспрыманне праз арыгінальную форму, адмысловую тэхніку, небанальнае кампазіцыйнае ці каларыстычнае вырашэнне.

Хочацца зразумець, чым прываблівае партрэтны жывапіс Наталлі Гедрановіч і Наталлі Табушавай, пейзажы Антона Вырвы і Вольгі Шкарубы, нацюрморты



*Лінарыт Яна Жвірбы з серыі “Апошняя пастараль”.*

Веры Ягоўдзік, шкляныя “Усплёск” Дар'і Ціхай і фарфоравыя фігуркі Ганны Мех? Хочаце даведацца, чым інтрыгуюць “Шпілька” Паўла Малаткова, “Таямніца продкаў” Яўгена Каліна і “Гендэрныя стэрэатыпы” Кацярыны Кулацкай ды Вольгі Паўлавай? Паспяшайцеся на выстаўку! Яна працуе па 25 сакавіка.

## Повязі

# Неба над Берлінам

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

**Інстытут імя Гётэ ў Мінску сумесна з Беларускім саюзам мастакоў у сталічным Палацы мастацтва праводзіць выстаўку работ нямецкага фатографа Герыта Энгеля “Берлін. Фотаздымкі”, дзякуючы чаму беларусы ўпершыню атрымалі магчымасць пазнаёміцца з яго работамі. Герыт Энгель прывёз 42 фотаздымкі, зробленыя падчас працы над аднайменным альбомам, выдадзеным у Германіі ў 2006 годзе. Але вядомасць фатографа пачалася раней, з фотапраекта “Манхэтэн. Нью-Ёрк”.**

Герыт Энгель нарадзіўся ў 1965 годзе ў нямецкім горадзе Эсэне. Навучаўся па спецыяльнасцях “Архітэктура” і “Фатаграфія”. Жыве і працуе ў Берліне. Фатограф здымае фасады цэркваў і палацаў, музеяў і тэатраў, віл і заможных дамоў, школ, магазінаў і пасольстваў. Глядзіш на фота, і ўзнікае ўражанне, нібы Герыт Энгель стварае храналагічны даведнік па гісторыі архітэктуры, у якім няма месца суб'ектыўным ацэнкам і забабонам. Фатограф нібыта пазбягае недакладнасці і адначасова захоўвае дыстанцыю. Умела перадае дух часу, якім жывуць будынкі, некаторыя з іх ужо паспелі стаць помнікамі адпаведнай культуры. Так, храналагічны парадак дазваляе прасачыць архітэктурную гісторыю Берліна ад пачатку XIII (царква святога Мікалая, 1230 год) да пачатку XXI ст. (галерэя Хінтэрдэм Гісхаўс, 2008 год).

Гарадскія збудаванні нагадваюць партрэты, у якіх можна разгледзець настрой не толькі асобнага месца, паказанага на фотаздымку, але і ўсяго горада. З такой любоўю можна фатаграфаваць хіба што блізкіх людзей. Берліну, як і кожнай сталіцы, уласціва напружаная дынаміка жыцця. Кадры, якія робіць фатограф, вырываюць з гэтага пастаяннага руху. Герыт Энгель акцэнтуе ўвагу на цэгле і шкле, бетоне і метале, паказвае нязменнае: трываласць і стойкасць архітэктуры. Яна — від мастацтва, таму жыве па сваіх уласных законах.

Неба над Берлінам. Здаецца, яно не змянілася з часоў рэжысёра Віма Вендэрса, які зняў фільм пра анёлаў, што лунаюць над Берлінам. Сваё бачанне горада паказаў нам і Герыт Энгель. Але неба... Яно такім і засталося: светла-шэрага колеру,



*“Замак Пфаўэніназэль” (1797) — работа Герыта Энгеля, прадстаўленая на выстаўцы “Берлін. Фотаздымкі”.*

разбаўленае някідкімі хмарамі. Неба над Берлінам здаецца матавай грунтоўкай на палатне карціны, але мастак дадаў яму колеру, асвяціўшы стужку.

## З-пад пяра

➤ Днямі на прэзідыуме Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі прынята рашэнне аб стварэнні таварыства “Беларусь — Таджыкістан”. Старшынёй таварыства абраны галоўны рэдактар газеты “Звязда” Алесь Карлюкевіч, намеснікамі — Валерый Гедройц і Людміла Цяглава. Варта заўважыць, што значную ролю ў развіцці, пашырэнні беларуска-таджыкскіх сувязей у апошнія гады адыгрываюць пісьменнікі абедзвюх краін. У Душанбэ выходзяць кнігі беларускіх паэтаў, празаікаў. У Мінску словы нашчадкаў Рудакі ў перакладзе на беларускую мову часта друкуецца на старонках літаратурна-мастацкай перыёдыкі.

**Максім ДОЎНАР**

➤ Канцэрт-рэквіем, прысвечаны гадавіне разбуральнага землятрусу і цунамі ў Японіі, прайшоў у сталічным Доме дружбы. Удзельнікамі мерапрыемства сталі прадстаўнікі Пасольства Японіі ў Беларусі, Міністэрства культуры Беларусі, Мінскага гарвыканкама. У праграму канцэрта, падрыхтаванага намаганнямі салістаў оперы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра і музыкантамі Саюза маладых кампазітараў Беларусі, былі ўключаны вядомыя музычныя творы заходнееўрапейскіх класікаў Маснэ, Гендэля, Страдэлы, Моцарта, Манюшкі, а таксама творы сучасных беларускіх кампазітараў Уладзіміра Солтана і Канстанціна Яськова.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

➤ У мінскім выдавецтве “Чатыры чвэрці” выйшла новая кніга Міхася Пазнякова — “Залаты ключык духоўнасці”. Яе склалі выбраныя літаратурна-крытычныя, літаратуразнаўчыя, культуралагічныя, моваэнаўчыя і публіцыстычныя артыкулы, рэцэнзіі на новыя кнігі, выступленні, інтэрв'ю. У полі зроку аўтара — жыццё і творчасць М. Багдановіча, Ф. Цютчава, Ю. Друнінай, У. Гніламёдава, Я. Сіпакова, У. Ліпскага, В. Ткачова, Г. Юрчанкі і многіх іншых творцаў. Пісьменнік разважае пра праблемы кнігавыдання, літаратурнага працэсу, удзяляе ўвагу самым розным пытанням грамадскага жыцця.

**Міхась КАВАЛЁЎ**

➤ 24 сакавіка ў Мінску адбудзецца адбор аўтараў, кампазітараў, выканаўцаў для ўдзелу ў IX Міжнародным фестывалі аўтарскай песні “Пецярбургскі акорд-2012”. У журы ўвайшлі Галіна і Барыс Вайханскія, Алена Казанцава, Ігар Віркоўскі, Вольга Залеская, Аляксандр Баль, Сяргей Ільюшэнка, Уладзімір Цвіка, Вячаслаў Клімовіч, Наталля Якутовіч. З 11.00 да 14.00 пройдзе першы тур. На другі этап — конкурсны канцэрт пераможцаў першага тура — прыхільнікі аўтарскай песні запрашаюцца ў 16.00 у Дом культуры ААТ “Элема” (вул. Трасцянецкая, 5). Уваход вольны.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

➤ Урок роднай мовы ў сталічнай гімназіі № 7 для васьмікласнікаў правяла пісьменніца Ірына Масляніцына. Члены Саюза пісьменнікаў Беларусі — частыя госці ў сценах гімназіі. Яны прыходзяць да гімназістаў, каб распавесці пра кніжныя навінкі, літаратурна-мастацкія перыядычныя выданні Беларусі, дзейнасць Саюза пісьменнікаў і таямніцы творчай лабараторыі літаратара. Гэтым разам размова была вырашана ў фармаце звычайнага ўрока. Паўтараючы з васьмікласнікамі тэму “Напісанне слоў з вялікай літары”, аўтарка шматлікіх кніг па беларускай гісторыі расказала нямала цікавага пра славутых людзей нашага мінулага, паходжанне назваў гарадоў, а таксама раскрыла этымалогію прозвішчаў беларусаў, прапанаваўшы напаследак вучням даведацца пра паходжанне іх уласных прозвішчаў.

**Лізавета ВІХУРА**

Вера ЛЯШУК

# «...І дзяліцца праўдай сваёй»

**Адметнае месца ў творчасці Ніны Мацяш займае зборнік “У прыгаршчах ветру”. Ён падсумоўвае набыткі ў версіфікацыі, культуры паэтычнага слова наогул. Зборнік выразна выявіў імкненне Ніны Мацяш не проста ўзбагаціць беларускую літаратуру сусветнымі паэтычнымі шэдэўрамі праз пераклад іх на родную мову, але і творча выкарыстаць гэтыя набыткі, паказаць іх агульначалавечае значэнне, заўсёдную актуальнасць таго ці іншага аспекту класікі ў канкрэтнай сітуацыі для асобнай нацыянальнай літаратуры. І трэба толькі падзякаваць тым, хтоспрычыніўся да выдання гэтай кніжкі, хто быў упэўнены: яна знойдзе, не можа не знайсці свайго чытача.**

Зборнік “У прыгаршчах ветру” складаецца з уступнага артыкула Генадзя Праневіча “Трымацца скалы любові...”, пяці раздзелаў арыгінальных вершаў і аднаго — перакладаў. Уступны артыкул выяўляе глыбокае пранікненне ў духоўны свет лірычнай гераіні Ніны Мацяш, у адметнасць яе творчага “я”. Заключны раздзел складаецца з трох частак, якім папярэднічаюць невялікія эсэ перакладчыцы. У выданне ўвайшлі перастварэнні паэтаў Плеяды Францыі, новых вершаў Віславы Шымборскай і Ліны Кастэнкі. У эсэ Ніна Мацяш тлумачыць, чаму для перакладу выбрала менавіта гэтых аўтараў, як іх адкрыла для сябе і хто гэтаму паспрыяў, якое значэнне мае іх творчасць для сучаснай беларускай літаратуры.

Эсэ “Час, век, эпоха...” папярэднічае перакладам асобных вершаў некаторых паэтаў Плеяды Францыі. Ніна Мацяш распавядае, што ў сярэднявечнай Францыі моваю навукі і літаратуры была лацінская, а родная лічылася “і непрыгожай, і беднай, ні тэрміналагічна, ні лексічна не распрацаванай”.

Не адмаўляючы вартасцей класічных моў, французскія плеядаўцы XVI ст. былі перакананыя, што калі б вучоныя і паэты стараліся карыстацца роднай мовай, то яна таксама ўзбагачалася б, “а спраўдзіць гэта магчыма і шырэй выкарыстоўваючы тое, што ёсць, і ўводзячы дыялектызмы, і аднаўляючы забытыя словы, і на грунце старых прыдумваючы новыя, і, нарэшце, вельмі асцярожна, абачліва робячы запазычанні з тых жа грэчаскай і лацінскай”. Перакладчыцы блізкая і дарагая пазіцыя французскіх паэтаў, заяўленая імі ў маніфесце паэтычнай творчасці: “...абараніць родную мову ад яе ахайнікаў і праславіць яе, стварыўшы вялікую літаратуру”, з чым французскія плеядаўцы справіліся бліскуча. Такую ж задачу спрабуе вырашыць у арыгінальных творах зборніка і Ніна Мацяш. Відавочная агульнасць тэматыкі і пафасу ўласных і перакладных вершаў; пісьменніца звартаецца да верлібра і санета, імкнецца ўзбагаціць беларускую мову новымі словамі (хлусьба, паблізныя, уталенаваны, высверк, прычары, несмач, змаяваць, шана, лучво).

У эсэ “Чар шарай гадзіны”, прысвечаным перакладам вершаў польскай паэткі Віславы Шымборскай, Ніна Мацяш заўважае, што аўтарка заваражыла яе ўразлівай прастатой аповеду, будзённай гутарковасцю, адсутнасцю дыдактызму, перавагай вольнага верша над класічным, а таксама адметнасцю яе характару — “высакародная, годная, з арганічным непрыманнем любога насілля, ціску або ўціску асобы ці нацыі”.

Украінская паэтка Ліна Кастэнка ўвайшла ў паэтычную творчасць Ніны Мацяш яшчэ ў 80-я гады перастварэннем на родную мову рамана “Маруся Чурай”. Пераклад быў прыхільна сустрэты ва Украіне і ў Беларусі. “Я долю выбрала сама...” — такім радком з верша ўкраінскай паэткі названа эсэ. У ім змешчаны кароткія звесткі з біяграфіі Ліны Кастэнкі, інфармацыя пра тое, чаму для творцы на доўгія 16 гадоў “замкнуліся дзверы ўсіх буйных часопісаў і выдавецтваў”, як яна годна, пераадольваючы матэрыяльныя нястачы, трымалася ўвесь гэты час, мужна пераносіла “абгаворы, шальмаванне і замоўчванне”.

У першым раздзеле арыгінальных вершаў раскрываецца духоўны стан лірычнай гераіні на працягу года — ад вясны да зімы. Настрой паэтычнага суб’екта ў значнай меры вызначаецца парой года, а таксама рэаліямі жыцця, грамадскай атмасферай. Таму чалавеку заўсёды трэба быць гатовым да выпрабаванняў, імкнуцца пераадолець іх, духоўна сталець, верыць, што ўсё ліхое мінецца. Лірычная гераіня ўсведамляе, што Час-лядзень цяжарам кладзецца на душы людзей, а таму трэба не бяздзейнічаць, пазбаўляцца інертнасці, быць верным агульналюдскай маралі, праяўляць мужнасць і духоўную моц.

> *“Ніна Мацяш не прымае пазіцыю людзей, якія тлумачаць адступленне ад спрадвечных законаў маралі эпохай, рэаліямі сучаснага жыцця і пачынаюць спавядаць тое, што заўсёды асуджалася чалавецтвам.*

Не чужымі для лірычнай гераіні з’яўляюцца пачуцці суму, роспачы, адзіноты. Паэтэса разумее, што ўжо ўступіла ў сваю жыццёвую восень, калі гэтыя пачуцці з’яўляюцца дамінантнымі. Гераіня жыве ў прадчуванні свайго адыходу з жыцця, “згарання на перакрыжы любові, надзеі і веры”. Яна духоўна гатовая адысці туды, дзе “ўсё з найбліжэйшага роду”, дзе “схаваны дарог канцы й пачаткі”. Мароз як прыродная з’ява і як паэтычны сімвал, здавалася, пазбавіў наваколле хараства і разнастайнасці, аднак Мілавіца, багіня любові, змяніла сітуацыю, расквеціла краявіды, у наваколлі запанавала “боская спакайнеча”. На такой аптымістычнай ноце заканчваецца першы раздзел.

У другім раздзеле значнае месца займаюць вершы-пасланні, вершы-прысвячэнні. Пераважна ў вершах-пасланнях створаны вобраз адрасата. Хто гэта, можна здагадацца па назвах твораў, радках з іх, асобных дэталях біяграфіі, абыграных імёнах і прозвішчах: Янка Брыль (“Птушкі і гнёзды”), Алесь Разанаў (“Ліхтар”), Васіль Жуковіч (“Змены ў пашпарце”) і інш. У творах, якія маюць канкрэтнага адрасата, акцэнтуецца ўвага на тым, што высока цэніць сама гераіня, што з’яўляецца набыткам чалавечай маралі. Янка Брыль захапляе шырынёй душы, незалежнасцю і самастойнасцю, здольнасцю “трымацца скалы любові ў цёмных вірах стыхіяў”. З Алесем Разанавым паэтэсу роднаць творчыя пошукі, разнастайнасць зацікаўленняў, моцны характар, вернасць самому сабе. Данута Бічэль для лірычнай гераіні — сястра. Яна можа падтрымаць у цяжкую хвіліну, вярнуць шчасце і радасць жыцця. Абедзве высока цэняць творчае і грамадзянскае гарэнне. Верш, прысвечаны паэтэсе з Гарадзеншчыны, заканчваецца аптымістычна:

*Адцемрыцца світанак.*
*Край наш трымаецца*
*на апантаных.*

Да ліку такіх апантаных належаў Францішак Багушэвіч. Шматзначна названы прысвечаны яму верш — “Звон”. Спрадвеку наш народ звонам звеставаў пра набліжэнне бяды, склікаў грамаду, каб яе прадухіліць ці адужаць. У закліку:

*Мову — нашу — нам!*
*Мову — нашу — нам!*
*Мову — нашу...*

рытмічна чуецца набатны звон, які нечакана абрываецца. Недамоўленасць разлічана на тое, каб чытач задумаўся.

У гэтым раздзеле ёсць некалькі вершаў, у якіх раскрываецца ўяўленне лірычнай гераіні пра адметнасць беларускага менталітэту. Відавочнай з’яўляецца паралель паміж чорным буслом і нашым народам: “маўклівы, роўны, немітуслівы”, “не захопнік ён, не ваяр”. І у той самы час:

*Толькі ролі сваёй,*
*Толькі долі сваёй,*
*Толькі волі сваёй*
*Гаспадар.*

> *“Перакладчыцы блізкая і дарагая пазіцыя французскіх паэтаў, заяўленая імі ў маніфесце паэтычнай творчасці: “...абараніць родную мову ад яе ахайнікаў і праславіць яе, стварыўшы вялікую літаратуру”...*

Эмацыйны ўплыў верша ўзмацняецца дзякуючы анафары і эпіфары, а таксама інверсіі. Сэнсавая значнасць слова “гаспадар” падкрэсліваецца тым, што яно вынесена на асобны радок.



У другі раздзел уключаны вершы, у якіх створаны вобразы духоўных калек: падхаліма, пазбаўленага чалавечай годнасці (“Як заўсёды”), зайздросніка, чалавеканенавісніка і паклёпніка (“Чорная кроў”), нядобразычліўца, кусліваага крыўдзіцеля, злосніка (“Выгульванне”), хітруна, які лавіруе паміж дабром і злом, але заўсёды “ўласнай выгады не ўпусціць”, што немінуча прывядзе да зла (“Не грымнуцца б...”). Ніна Мацяш не прымае пазіцыю людзей, якія тлумачаць адступленне ад спрадвечных законаў маралі эпохай, рэаліямі сучаснага жыцця і пачынаюць спавядаць тое, што заўсёды асуджалася чалавецтвам. Дарагія лірычнаму “я” паэтэсы тыя, хто заўсёды гатовы дапамагчы, бескарысліва падараваць цяпло сваёй душы іншым. Яны параўноўваюцца з цяпельцам у полі, з крыніцай у гаі, з купалкай у лузе (“Як ты”).

Ключ да разумення пафасу твораў трэцяга раздзела — у вершы “Дарога”, прысвечаным інаку Мікалаю (у свецкім жыцці Алег Бембель). Ён вызначыў для сябе высакародную мэту, значную і для лірычнай гераіні верша:

*...злучаць, а не разлучаць,*
*звязваць,*
*а не навязваць.*
*І дзяліцца з усімі*
*праўдай сваёй.*

Астатнія вершы прысвечаны травам, кветкам, казуркам, птушкам. Дзьмухавец, малачаінка сонцагаловая захапляе і сваім філігранна пакроеным лісцем, і хараством кветак, і плоднасцю, і неперaборлівасцю. Лірычная гераіня ўсхваляе тыя, хто ва ўмовах несвабоды цягнецца ўверх, да сонца (“Травінка”, “Поўх”). Назіранні за яшчаркай выклікалі ў творцы роздум пра чалавечую душу, якая для многіх ненаяўная, бо яе нельга ўбачыць. Не відаць і следу яшчаркі, хоць яна на вачах перамясцілася з аднаго на другое месца.

Эпіграфам да чацвёртага раздзела значацца радкі:

*Душа ў такой*
*аддалечы лунае,*
*куды зямное*
*смецце не сягае.*

Для лірычнай гераіні *аддалеч* — гэта свет прыроды і мастацтва. Менавіта яны станоўча ўплываюць на чалавека, на яго светаадчуванне і пачуванне. Лісцевая завея, посвіст берасцянкі, шум верхавін дрэў і нават вятрыска здымаюць тугу, душэўны прыгнёт. Клопаты ластаўкі пра сваіх дзяцей пераконваюць, што любоўю можна “стому зняць, жыццё і скон свой апраўдаць”.

Шэсць вершаў створаны пад уражаннем ад карцін літоўскага мастака Чурлёніса — яны выклікалі ў Ніны Мацяш роздум пра вечнае супрацьстаянне дабра і зла, пра неабходнасць змагацца з носьбітамі зла (“Стралок”, “Казка”), пазбаўляцца інертнасці, абыякавасці (“Званы”), усведамляць засцярогі творцаў.

Вянок вянкоў санетаў “Бабіна лета ў Белаазёрску” завяршае арыгінальныя творы ў кнізе “У прыгаршчах ветру” Ніны Мацяш. У ім вытрыманыя ўсе надзвычай строгія патрабаванні, якія ставяцца да такой архітэктанічнай структуры. У творы раскрываецца праблема нараджэння і згасання кахання, пісьменніца разважае пра тыя сляды, які пакідае ў душы гэта пачуццё. Толькі ў пару мудрай сталасці лірычная гераіня здолела напоўніцу ўсвядоміць перажытае ў маладосці, бо наступіў час “з сваёй душы пахібкі выбіраць” — самакрытычна ацаніць і сябе самую. Гэта адкрыла здольнасць і надалей любіць жыццё, захапляцца хараством свету, яго шматграннасцю.

Лірычная гераіня пераканалася, што каханне, перажытае ў маладосці, узбагаціла яе, а ростань асвяціла сталасць радасцю і светлым сумам, паглыбіла ўяўленне пра жыццё:

*Калі б тады не стрэлася*
*з табою,*
*Што б ведала цяпер*
*я аб любові,*
*Аб небе, пекле,*
*смерці — аб жыцці?*

У гераіні ёсць усе падставы і ў час сваёй жыццёвай восені сведчыць: “Свет шчэ ўсё гожы, шчэ ўсё каляровы”.

Мікола МІШЧАНЧУК

# Пошук пры святле Поўні

**Кніга Ірыны Шаўляковай "Сапраўдныя хронікі Поўні" выклікала заўважную цікавасць з боку крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Са старонак "ЛіМа" пра гэта выданне ўжо распавядалі Анжэла Мельнікава і Маргарыта Аляшкевіч. А ў сённяшнім нумары сваімі развагамі дзеліцца прафесар Мікола Мішчанчук.**

Пачаткам маёй аматарскай, яшчэ не прафесійнай крытыкі быў ці не пяты курс філфака: разам з сябрам Яўгенам Адамовічам асмеліўся напісаць юбілейны артыкул пра байкапісца Івана Крылова..

Таго артыкула было ўсяго з гулькін нос, каб не вялізны партрэт амаль на цэлую старонку. Помніцца, хросным бацькам "абнародаванага" тэксту быў Уладзімір Юрэвіч. Пры наступнай сустрэчы (маладыя крытыкі разахвоціліся, яшчэ і эстэтычную вартасць брылёўска-калеснікаўскага фотаальбома з яскравым тэкстам пад назваю "Між тых палёў" паказалі, адкрылі рэцыпіентам) Уладзімір Міхайлавіч цісную рукі аўтарам і з цёплай, лагоднай усмешкай прамаўляў: "Дзень добры, крылаеды". Яго ўсмешка, словы, гэтая добразычлівая сцэнка натхнілі будучага тройчы дыпламаванага філолага на заняткі крытыкай. Заняткі гэтыя ў асноўным прыпадалі на брэжнеўскі застойны час. Куратарамі шматлікіх публікацый у "Нёмане" былі Валодзя Анісковіч і Валодзя Жыжэнка, у "ЛіМе" — Алесь Марціновіч.

Застойны час… У крытыцы — суровая нарматыўнасць, строгія патрабаванні разглядаць творы з пазіцыі асэнсаванасці, партыйнасці, народнасці і, нарэшце, праўдзівасці. А праўдзівасць якраз і была непраўдзівай — у духу часу захвальвання поспехаў, дасягненняў, уяўных, а не рэальных гераічных учынкаў. Адзін крытык прыкладна так раскрываў сакрэты сваёй творчай лабараторыі: "Бяру «балванку» з раней напісанага, замяняю цытаты — і гатовы новы матэрыял: «Галоўнае — прачытаць сам твор: многа часу займае»".

Прызнаюся, я падобным метадам не карыстаўся, затое і атрымаў па шапцы за суб'ектыўнасць, за імкненне прапусціць не толькі праз галаву, але і праз сэрца тое, што ацэньваў: "Вы больш пра сябе пішаце, а не пра настаўнікаў", — сказаў некалі галоўны рэдактар выдавецтва "Народная асвета" пасля знаёмства з рукапісам на той час адзінай кніжкі пра вопыт працы настаўнікаў-філолагаў Сташынскай, Войцік, Рыдлінскай, Туркевіча "Настаўніку — пра настаўнікаў". Заўвагу праглынуў, але не скарыўся: кніжку выдалі ў аўтарскай рэдакцыі, што было рэдкай з'явай і ў 1970-я, і ў 1980-я гады.

Штампы… Штампы… Штампы… Праблісквымі, "прарыўнымі" былі выступленні Рыгора Бярозкіна, Алеся Адамовіча, Рыгора Шкрабы — нашых старэйшых настаўнікаў. Сітуацыю народжанай канцом 1950-х — 1960-мі гадамі "маладзіковай" літаратуры скапіравала і крытыка: сапраўдная, суб'ектыўна-значная, індывідуальная, незалежная ад указанняў пра літаратурны працэс.

Навошта мне спатрэбіўся такі экскурс у мінулае? А на тое, каб падтрымаць (пацвердзіць) арыгінальную канцэпцыю Ірыны Шаўляковай, што выявілася ў назве яе чарговай, таленавіта напісанай кніжкі "Сапраўдныя хронікі Поўні" (Мінск: "Літаратура і Мастацтва", 2011). Так, час Поўні (вобраз-сімвал) у мастацтве слова надышоў. Разнавектарнасць слоўнага мастацтва на найноўшым этапе сталася грунтам разнавектарнасці сучаснай крытыкі. У сваю чаргу разнавектарнасць і мастацкага працэсу, і яго крытычнай ацэнкі абумоўленая аўрай, спрыяльнай для станаўлення і развіцця індывідуальнага (а часам і індывідуалістычнага) фактару. Разнавектарнасць, з'яднаная ў адзінства, цэласнасць, на маю думку, і ёсць вынікам Поўні, што прыйшла на змену Маладзіку.

Крытык, будучы неардынарнай асобай, у вобраз-сімвал Поўні ўкладвае шырэйшы змест. Пагаджаючыся з літаратуразнаўчай ацэнкай двух апошніх дзесяцігоддзяў у развіцці слоўнага мастацтва як "літаратуры пераходнага перыяду", Ірына Шаўлякова зазначае: "У экзальтаваным жа ўяўленні крытыка, не звязанага кодэксам навуковай бесстароннасці, айчыннае прыгожае пісьменства апошніх дваццаці год супадае з адмысловай эпохай Поўні. Гэтая "сімвалічная метафара" вельмі прыблізна вытлумачвае сутнасць складанага сімбіёзу рашучасці, калектыўных надзей, індывідуальных страхаў і самотна-містычных прадчуванняў (наконт лёсу мастакоўскіх летуценняў у роднай рэчаіснасці), з якім увахodзілі ў айчынную літаратуру прадстаўнікі сённяшняга "сярэдзіннага" пакалення — пакаленне "Тутэйшых".

"Вялікае бачыцца на адлегласці" — формула, якая спраўджваецца ў таленавіта напісаных манаграфіях М. Бахціна і А. Адамовіча, Р. Гукоўскага, М. Мушынскага і многіх іншых літаратуразнаўцаў. А як быць, калі адлегласць невялікая? Як быць з той творчасцю, якая толькі што выплаўлена ў "домне" мастакоўскага розуму і роздуму? Тут ужо трэба быць удалым лоцманам, здольным прагназаваць, каб вывесці карабель ісціны ў гавань паміж падводнымі рыфамі. Ірына Шаўлякова канкрэтныя факты сістэматызуе і выводзіць з уласных назіранняў агульную, аб'ектыўную заканамернасць.

Перачытваючы артыкулы, змешчаныя ў кнізе "Сапраўдныя хронікі Поўні", шукаў адказ на пытанне: "А што ж сталася з рэалізмам? Якія яго перспектывы?"

> *"Арыгінальная канцэпцыя Ірыны Шаўляковай выявілася ў назве яе чарговай, таленавіта напісанай кніжкі "Сапраўдныя хронікі Поўні" (Мінск: "Літаратура і Мастацтва", 2011). Так, час Поўні (вобраз-сімвал) у мастацтве слова надышоў. Разнавектарнасць слоўнага мастацтва на найноўшым этапе сталася грунтам разнавектарнасці сучаснай крытыкі.*

Думалася: "Ці можа існаваць мастацтва ва ўмовах істотнага парушэння ці ўвогуле разбурэння гарманічнай суладнасці, сугучнасці?" І знайшоў адказ у зборніку артыкулаў Ірыны Шаўляковай: "Знакі прысутнасці Архаікі (быццам "дробныя", *нібыта* "невыразныя") у нашым Сёння наўрад ці можна пералічыць — проста таму, што яны



бесперапынна множацца, засяваючы "бледную ніву" (А. Разанаў) сучаснасці, якая спакваля ператвараецца ў "філіял" Архаікі, што ў хуткім часе паўстане рэальнасцю далёка не віртуальнаю". Прафесійна ацэньваючы творчасць Алеся Бадака, Алеся Наварыча, Анатоля Казлова, Барыса Пятровіча, Вікі Трэнас, Юрыя Станкевіча і іншых такіх розных аўтараў, крытык прыходзіць да высновы пра рознаступеннае захаванне ў іх творчасці Архаікі, у тым ліку той, што ідзе ад рэалістычнага тыпу творчасці.

Аб'ектыўнасць назіранняў І. Шаўляковай выяўляецца ў тым, што ва ўсіх артыкулах даецца ўраўнаважаная і ўзважаная ацэнка дасягненняў, вышукаў пісьменнікаў, якія ўвасабляюць эпоху Пост (тэрмін даследчыцы): Альгерда Бахарэвіча, Ганны Ціханавай — "паталагаанатамісткі", Джэці (Веры Бурлак) — "самаіраністкі", Усевалада Гарачкі — "паэта-пралетара", іншых аўтараў. Так, даючы ацэнку кнігі Паўла Гаспадыніча "Цэзар будзе жыць", аўтар адзначае такія асаблівасці прозы пісьменніка, як "стылістычныя раскошы", што "зацьмяваюць сюжэтныя штукарствы, якія, нягледзячы на вонкавую ўскладненасць "фантазій" драматызаванымі дыялогамі, пасекундным хранаметраваннем некаторых эпізодаў, прысутнасцю неадменных прозіметрумаў і г.д. і да т.п., уражваюць якраз сваёй аднастайнасцю. Затое ў сферы вобразатворчасці няўрымслівасць аўтара па-за канкурэнцыяй…"

Слушнымі (і надзвычай карэктнымі) у зборніку Ірыны Шаўляковай уяўляюцца ацэнкі артыкулаў, эсэ,ататак, разнажанравых твораў калег-літаратуразнаўцаў і літаратурных крытыкаў. Так, адзначаючы ў цэлым традыцыйнасць (жанравую, кампазіцыйную) кнігі П. Васючэнкі "Ад тэксту да хранатопа", крытык вылучае нетрадыцыйнасць яе зместу, імкненне вядомага аўтара "няпафасна" ўдакладніць "сутнасныя" характарыстыкі літаратурных з'яў (так, Алесь Разанаў атэстуецца <…> як "мэтр нацыянальнага сюррэалізму, творчы спадкаемца Гіёма Апалінэра".

У кнізе аналізуюцца творы аўтараў, якім літаратуразнаўства пакуль мала надае ўвагі: Вальжыны Морт, Наталлі Кучмель, Рагнеда Малахоўскага, Вольгі Гапеевай і інш.). Дзякуючы намаганням крытыка кола ўдзельнікаў спектакля пад назваю "Эга-Мастацтва" пашыраецца.

Неаспрэчная шырыня эрудыцыі Ірыны Шаўляковай, дзякуючы якой беларуская найноўшая літаратура ўпісаная ў еўрапейскі кантэкст. Пра інтэлектуальнасць крытыка сведчыць скарыстаная ў кнізе тэрміналогія: асобасная рэчаіснасць, рэчыўная рэчаіснасць, вонкавая сегментацыя тэксту, "бамбізм", мартальнасць, беларуская самотнасць "кафкіянства", успамінасць, постнеакласічная мастацкая славеснасць, квазіфабулы, інш. Пасля прачытання такіх таленавіта напісаных крытычных, роздумных эсэ самы час складаць слоўнік сучаснай літаратуразнаўчай тэрміналогіі.

Некалькі неабарочныя дэфіцыы на асобных старонках не адыгрываюць дамінантную ролю ў зборніку, што рэцэнзуецца, не зацямваюць аўтарскія высновы.

Пасля ўсяго сказанага вынова напрошваецца сама сабою: у асобе Ірыны Шаўляковай мы маем крытыка, надзеленага талентам першапраходца-эрудыта, якому яшчэ *да-лё-ка* да Поўні, але які пераадолеў маладзіковую мяжу.

Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Пра пытанні без адказаў

**Гэты артыкул атрымаўся ў мяне зусім выпадкова. Пасля таго, як прачытаў у восьмым нумары "ЛіМа" агляд студзеньскіх літаратурных часопісаў. У ім Дзяніс Марціновіч аналізуе маю фантастычную аповесць "Переступив черту". З аднаго боку, такая ўвага прыемная, з другога ж…**

У самым пачатку свайго аналізу пад сімвалічнай назвай "Каму належаць акуляры" Дзяніс Марціновіч адзначае "*стабільна высокі ўзровень празаічнай часткі часопіса*". І тут жа дадае, што "*у кожнага правіла, на жаль, бываюць выключэнні. Іх праявай стала фантастычная аповесць Генадзя Аўласенкі*".

Прачытаўшы такое, я сумна ўздыхнуў. Не атрымалася, выходзіць, у мяне аповесць, нізкі, на жаль, у яе ўзровень.

Далей Дзяніс Марціновіч адзначае, што для аповесці "Переступив черту" характэрна "*імклівае разгортванне сюжэта, лёгкасць аўтарскага стылю, багатая фантазія, здольнасць пісьменніка трымаць чытацкую ўвагу*". Калі нават сам захочаш сябе пахваліць — лепей не скажаш! І дзякуй спадару Марціновічу за такую ўхвальную характарыстыку маёй аповесці!

Працягваю чытаць аналіз далей…

"*Але ў творы хапае і спрэчных момантаў*", — сцвярджае крытык.

Спрэчныя (на думку чытачоў) моманты маюцца ў любым творы, бо колькі чытачоў — столькі меркаванняў. Якія ж канкрэтна спрэчныя моманты знайшоў аўтар крытычнага артыкула ў маёй аповесці?

Вось адзін з іх паводле меркавання Дзяніса Марціновіча:

"*У пачатку аповесці Вольга — слабая істота…* — падкрэслівае крытык. — *Але дастаткова ёй пасядзець аголенай перад люстэркам у позе лотаса, як гераіня пераўвасабляецца ў супергераіню, якая элегантна карыстаецца любой зброяй. Няўжо падобная медытацыя здольная замяніць праходжанне курсаў маладога байца?*"

Апошнім сказам (пра "*курсы маладога байца*") Дзяніс Марціновіч, напэўна, хацеў паказаць, што з пачуццём гумару ў яго ўсё ў парадку. Магчыма, гэта і так, толькі вось мне здаецца, што ён не зусім уважліва чытаў маю аповесць. Бо інакш зразумеў бы, што Вольга ператварылася ў супергераіню пасля таго, як злілася з акулярамі ў адзінае цэлае, а гэта было яшчэ да медытацыі! А калі іх адзінства распадаецца і акуляры зноў апынаюцца ў руцэ дзяўчыны, яна адразу ж становіцца ранейшай "слабай істотай".

Так што "курсы маладога байца" ў нашай арміі няхай застаюцца, замяняць іх позай лотаса, ды яшчэ і ў аголеным стане не трэба (гэта я ўжо дэманструю ўласнае пачуццё гумару).

Ну, а з цытатамі кшталту "*яшчэ некалькі дзясяткаў кіламетраў — і гераіня дабегла б да Ціхага акіяна*" або "*ці не прасцей было адразу скокнуць ва Уладзівасток, а не даць лемурам спаліць усю сібірскую тайгу? Расіянам і так хапае экалагічных праблем*", нават спрачацца неяк няёмка. Пакіну, як кажуць, без каментарыяў…

Зразумейце мяне правільна: я не супраць крытычнага аналізу ўласных твораў! Наадварот, толькі "за"! Аналізуйце, крытыкуйце, рабіце заўвагі. Але ж усё гэта павінна быць лагічна абгрунтавана.

"*Тым большым расчараваннем стаў фінал,* — адзначае напрыканцы спадар Марціновіч і дадае: — *Аўтар пакінуў большасць пытанняў без адказаў*".

Гэта, відаць, і ёсць галоўны аргумент, які, на думку Дзяніса Марціновіча, "*не дазваляе назваць твор аўтарскім поспехам*".

Што я магу сказаць на гэтае апошняе абвінавачанне? Тое толькі, што мая аповесць, хоць паважаны крытык і назваў яе "*фантастычным дэтэктыўным баевіком*" — ніякі не дэтэктыў, дзе на апошніх старонках усё становіцца зразумелым: і хто забойца, і як ён рыхтаваў свае злачынствы, і які пралік усё ж дапусціў.

У фантастычнай літаратуры крыху іншыя крытэрыі, і вельмі б хацелася, каб крытыкі, якія аналізуюць фантастычныя творы, гэта ўлічвалі.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Слова краязнаўцы



**Міхась МАЛІНОЎСКІ, даследчык беларускай гісторыі, расказвае пра свой шлях у краязнаўства:**

— Мой жыццёвы шлях пралёг праз дзіцячы дом і школу, якія знаходзіліся на станцыі Парэчча каля Гродна. І нездарма згадваю Парэчча. Тут захаваўся першы чыгуначны вакзал у Беларусі, дзе служыў тэлеграфістам да Першай сусветнай вайны паэт, пісьменнік, перакладчык і краязнаўца Іван Піліпаў (Язэп Нялепка). У маім жа прытулку працаваў старшым піянерважатым будучы пісьменнік і вучоны Янка Радкевіч. Творцы, людзі Парэчча, наваколле паспрыялі майму шляху ў краязнаўства.

У 1962 годзе быў зачынены Ашмянскі раённы краязнаўчы музей імя Францішка Багушэвіча, а ўсё яго багацце звезлі ў Ашмянскую школу-інтэрнат. Лёс склаўся так, што мяне перавялі ў гэту школу-інтэрнат, бо дзіцячы дом расфарміравалі. Дырэктар школы падвёў мяне, дзесяцікласніка, да вялікай групы экспанатаў і сказаў, што я буду дырэктарам музея… Два гады паралельна з вучобай выконваў абавязкі дырэктара, навуковага супрацоўніка, наглядальніка фонду, экскурсавода і вартаўніка музейных каштоўнасцей. Колькі цікавага прынесла мне гэта праца! У верасні, калі вучыўся ў адзінаццатым класе, зрабіў першае краязнаўчае падарожжа ў вёску Муравана-Ашмянку Ашмянскага раёна. Казалі, што там калісьці мясцілася друкарня, — вось мяне і пацягнула туды.

Амаль трыццацігадовая служба ў розных рэспубліках Савецкага Саюза толькі садзейнічала маёй празе да краязнаўства. Вяртанне на Бацькаўшчыну пачалося са знаёмства з апантанымі краязнаўцамі — Рыгорам Родчанкам, Яўгенам Гучком, Уладзімірам Барысюком, Васілём Жылко і інш. Асабліва ганаруся перапіскай з вучоным і паэтам, які шмат гадоў натхняў мяне, — Кастусём Цвіркам. Першыя свае думкі выклаў у нарысе "Станцыя майго дзяцінства", а потым іх назбіралася на кнігу "Квадра творчасці, альбо Чатыры сшыткі". Мая дарога па Краіне краязнаўства і сёння бяжыць шпарка. Убачыла свет каля 20 выданняў. Спадзяюся, будуць і новыя адкрыцці ў гэтай галіне.

## І паўстане храм!

Кафедральны сабор на Замкавай гары ў Тураве, фундамент якога стаў турыстычным аб'ектам, быў разбураны сем стагоддзяў таму. Тады ж, паводле падання, і прыплылі каменныя крыжы па Дняпры і Прыпяці з Кіева ў Тураў. Сабор спрабавалі аднавіць у пачатку ХХ стагоддзя, але падчас Першай сусветнай вайны сродкі, сабраныя на будаўніцтва храма, пайшлі на лячэнне салдат. Узнаўленне сабора ў гонар святцеляў Кірылы і Лаўрэнція Тураўскіх пачалося год таму, у дзень памяці Кірылы Тураўскага. Цяпер у храме вядзецца ўнутранае аздабленне, зацверджаны праект іканастаса і ўжо завяршаецца аздабленне фасадаў. Асвячэнне сабора запланавана на 2013 год.

**Бажэна СТРОК**

## Музейны ўнікат

# Геаграфічны летапіс

**Старадаўнія геаграфічныя карты прадстаўлены на незвычайнай выстаўцы "Беларусь: картаграфічныя крыніцы XVI — XVIII стагоддзяў" у адной з залаў Нясвіжскага замка князёў Радзівілаў. "Гэта першая з некалькіх выставак, якія пройдуць у замку ў рамках акцыі «Культурная сталіца», — зазначыў дырэктар Нацыянальнага музея-запаведніка "Нясвіж", кандыдат гістарычных навук Сяргей Клімаў.**

**Соф'я ЛЮБАНЕЦ, фота аўтара**

На выстаўцы прадстаўлена 16 старадаўніх картаграфічных крыніц, большасць з якіх — з прыватнай калекцыі старшыні Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА ў Беларусі Уладзіміра Шчаснага. Пяць экспанатаў — з фондаў музея-запаведніка. Гэта так званая "Радзівілаўская карта", датаваная 1673 годам, і чатыры карты сярэдзіны XVII стагоддзя з выявамі ваяводстваў Вялікага Княства Літоўскага, зробленыя прыдворным картографам Людовіка XIII Нікаласам Сансонам д'Абэвілем.

Асобна трэба адзначыць карту "Еўропа" славутага заснавальніка картаграфічнай навукі Герарда Меркатара, рэканструкцыю якой па факсіміле канца XIX стагоддзя выканаў кандыдат гістарычных навук, буйнейшы спецыяліст па картаграфіі земляў Вялікага Княства Літоўскага Леў Казлоў. Гэту карту Меркатар зрабіў у 1554 годзе для імператара Карла V Габсбурга, а апошні арыгінал, на жаль, быў страчаны падчас Другой сусветнай вайны.

Леў Раманавіч можа шмат распавесці пра ролю Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі, пры фінансаванні якога польскім гравёрам Томашам Макоўскім была створана лепшая карта Вялікага Княства Літоўскага тых часоў, пра тое, што да падзелу Рэчы Паспалітай у Еўропе з'явіліся карты, дзе землі ад Брэста да Полацка пазначаліся словамі "Russia Alba", што значыць "Белая Русь", і пра многія іншыя цікавыя моманты.



*Кандыдат гістарычных навук Леў Казлоў знаёміць наведвальнікаў са старадаўнімі картамі.*

Галоўнае значэнне старадаўніх картаграфічных крыніц у тым, упэўнены Леў Казлоў, што яны паказваюць свет, у якім мы жывём, такім, якім ён быў сотні гадоў таму. Гэта своеасаблівы геаграфічны летапіс, які адкрывае ўважліваму воку мінулае нашай Радзімы ў яго развіцці і дапамагае захаваць гэтае мінулае для нашчадкаў.

## Пуцявіны

# Па хатыніцкіх матывах

**Нарадзіўся і вырас я на Палессі ў вялікай вёсцы Хатынічы. У трылогіі Якуба Коласа "На ростанях" яна ўпамінаецца ў якасці валаснога цэнтра Хатовічы. Сюды з Цельшына (сёння Люсіна) не раз ездзіў па справах малады настаўнік. Тут ён займеў сяброў, наведваў мясцовыя вечарыны. Мусіць, лёсам мне было наканавана прайсціся па коласаўскіх сцяжынках.**

**Іван ЯРАШЭВІЧ**

### Адны з песняром сцяжынкі

Назіраў Колас жураўоў на цельшынскім балоце Стары Пруд. Я ж тут збіраў журавіны, каб зарабіць капейчыну, дзівіўся вялікай колькасці прыгожай птушкі — больш нідзе не бачыў столькі!

Возера Краснае. Станцыя пад такою ж назвай. Тут Колас садзіўся ў цягнік, калі ехаў на Стаўбцоўшчыну. Ля возера шпацыраваў з каханай дзяўчынай. Мне ж давялося ля станцыі грузіць жвір, калі хлопцам падзараблялі ў Міжкалгасбудзе на будоўлі хатынаўскага клуба.

Праз Пакамар ездзіў будучы вялікі творца па цельшынскай дарозе ў валасную управу. Любаваўся векапомнымі барамі, Шведавай гарою. Мне таксама гэтыя мясціны не толькі вельмі вядомыя, але і дарагія, любыя. Тут збіраў грыбы і ягады. З маяка, які стаяў на Шведавай гары, захапляўся дзівоснымі краявідамі.

І сёння я адчуваю коласаўскі дух на гэтых сцяжынках, не знікае ён і сам з маіх думак. Даведаўся я пра паэта ў 1956 годзе на ўроку літаратуры, калі настаўніца распавяла пра жыццё, творчасць песняра і прачытала некалькі яго вершаў. Асабліва ўразіў яе расказ пра тое, што Колас наведваў нашу вёску. Мне не верылася, я нават перапытаў настаўніцу. Яна ж не толькі пацвердзіла гэты факт, але і дадала, што ў нас жывуць людзі, якія сябравалі з ім. Захацелася даведацца больш, пачуць аповеды землякоў.

Знайшоў аднавяскоўцаў, якія добра памяталі Песняра, і пачуў шмат цікавага. Распытаў і сваіх сваякоў. Вось так і з'явіліся першыя замалёўкі, а потым і артыкулы, вершы пра паэта. Прынамсі, апавяданне "Васіль Чурыла" напісана па хатыніцкіх матывах. Па-першае, у вёсцы жыла вялікая сям'я па мянушцы Чуракі. Па-другое, амаль такую ж гісторыю расказваў мне дзед, пры гэтым падкрэсліў, што здарэнне адбылося з адным з Чуракоў.

Мне пашчасціла і ў другім рэгіёне прайсціся па слядах слыннага сына беларускага народа. Лічу, адбылося гэта не выпадкова. У 1968 годзе стаў працаваць выкладчыкам Смілавіцкага прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча. Восенню нашы навучэнцы дапамагалі мясцовай гаспадарцы капаць бульбу. Неяк на полі я разгаварыўся з пажылым чалавекам, які наглядаў за буртамі. Майму здзіўленню не было межаў: мужчына з празвішчам Мініч у мінулым быў любімым вучнем Якуба Коласа ў Верхменьскім народным вучылішчы. Менавіта пра яго цёпла і з любоўю згадваў Пясняр. На наступную сустрэчу Мініч прынёс вучнёўскі сшытак, у якім, па яго словах, рукою Якуба Коласа былі выпраўлены памылкі. Мужчына вельмі даражыў гэтым сшыткам.

### Змена назвы павінна выспець

У чэрвеньскай газеце "Раённы веснік" упершыню былі надрукаваны мае краязнаўчыя распрацоўкі і артыкулы. А ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" пабачыла свет кніга "Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах". Першыя крокі да яе напісання зрабіў у сярэдзіне 70-х гадоў мінулага стагоддзя, калі зацікавіўся паходжаннем назвы горада Чэрвень. У кнізе расшыфраваў назвы ўсіх населеных пунктаў нашага раёна — іх больш як дзвесце. У часопісе "Народная асвета" два гады таму выйшаў мой гістарычны артыкул, прысвечаны гісторыі Смілавіцкага сельскагаспадарчага прафесійнага ліцэя.

Выступаў у друку са сваім бачаннем лёсу нарабаваных Напалеонам у Расіі скарбаў. У часопісе "Акно" змясцілі артыкул "Побеждённый Наполеон взял у России-Победителя колоссальную контрибуцию", а ў часопісе "Нёман" надрукавалі яго скарочаны варыянт "Так где же сокровища Наполеона?".

У калектыўным зборніку Чэрвеньскага раённага краязнаўчага музея "Матэрыялы краязнаўчай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 65-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне" апублікаваны артыкул "Партызанская медыцына ў гады Вялікай Айчыннай вайны 1941 — 1945 гг." Летась убачыла свет выданне "Книга памяти государственного учреждения образования «Средняя общеобразовательная школа № 1 городского посёлка Смиловичи»". Гэта першая спроба ў Мінскай вобласці скласці гісторыю школы. Цяпер працую над гісторыяй роднай вёскі Хатынічы.

Другі напрамак у маёй краязнаўчай дзейнасці — расшыфроўка прозвішчаў, у першую чаргу Чэрвеньскага рэгіёна. У раённай газеце надрукаваны ўжо шэраг артыкулаў. Хопіць матэрыялаў на цэлую кнігу. У тым жа "Раённым весніку" змешчаны артыкулы пра вымушанае перасяленне яўрэяў і беларусаў у 1927 годзе ў неабжытыя вобласці СССР.

На мой погляд, краязнаўства не толькі канкрэтызуе глабальныя гістарычныя працэсы, але і цэліць іх пласты, вылучае адценні. Ёсць, на маю думку, яшчэ адна вельмі важная функцыя — не кідацца ў крайнасці. Мясцовыя краязнаўцы змагаюцца як за вяртанне забытых імёнаў, так і за захаванне існуючых тапонімаў. Сапраўдныя радзімазнаўцы заўжды супраць махання шабляй. Змена назвы павінна выспець — толькі тады яна будзе паспяховай і своечасовай.

*Незабыўнае*

# Памяць вайны: з першых вуснаў

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

**На Пухавіччыне добра памятаюць пра вёскі, якія разам з жыхарамі былі спалены ў Вялікую Айчынную вайну. У ліку тых, хто патрапіў у самае полымя, — панадсіслацкая Беразянка і яе насельнікі. У Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі сярод іншых дакументаў знаходзяцца пратаколы допыту сведкаў жахлівай трагедыі. 22 верасня 1944 года ўпаўнаважаны Пухавіцкага раённага аддзела НКУС Іван Калістратавіч Крывашэеў запісвае паказанні дзвюх тагачасных калгасніц калгаса "Пуцілавец", якія жылі ў вёсцы Зацітава Слабада. Прадставім словы памяці нашых землякоў. Тым болей што запіс рабіўся, лічы, па свежых слядах. Бяда здарылася 7 жніўня 1943 года.**

Вось што паведаміла Марыя Якаўлеўна Карлюкевіч (нарадзілася 15 верасня 1900 года): "7 жніўня 1943 года на нашу вёску Беразянка напаў карны атрад з раз'езда Блужа. Прыехалі яны на досвітку. Дачка мая 18 гадоў, як і другія маладыя дзяўчаты, дома ніколі не начавала. Яны баяліся нечаканай начной аблавы для адпраўкі ў Германію, а таму начавалі ў лесе. Дома была я адна. Убачыўшы праз акно немцаў, я хутка пачала апранацца. Праз некалькі хвілін забягаюць двое — з чарапамі чорнымі на шапках — і адразу пачалі шнырыць па хаце. Адкрылі шафу, пачалі забіраць вопратку. Адчынілі сундук — хапаюць бялізну, палатно, што пад руку трапляе. Пачалі мяне з хаты выштурхоўваць. А на двары, я бачу, — ужо карову з хлява выводзіць немец. Пагналі мяне з астатнімі маімі суседзямі да свірна. Паставілі каля нас варту. Астатнія немцы — чалавек 40 — 50 — з хат маёмасць выносяць, кароў выганяюць, кур страляюць. Кішэні ва ўсіх туга набітыя. А ў некаторых прама з-за пазухі хусткі жаночыя шарсцяныя тырчаць. Агледзелі яны наш свіран, нешта паміж сабою перагаварылі і пагналі нас да былой канюшні — вялікай калгаснай будыніны, у якой быў складзены ўвесь наш ураджай. Адбілі замок, загналі нас усіх туды. Было нас 60 чалавек. Некалькі хвілін мы чулі толькі адзіночныя стрэлы. Праз шчыліну бачылі, як падбягаюць немцы і падпальваюць будыніны. Затым наш хлеў пачаў напаўняцца дымам. І мы ўбачылі, што салома загарэлася з абодвух бакоў. Я з другімі людзьмі, якія стаялі каля варот, кінулася ламаць затворы. Пад націскам людзей вароты адчыніліся, і мы выскачылі на двор. Але па нас пачаў страчыць кулямёт, некалькі чалавек павалілася, астатнія кінуліся назад у хлеў. Дзверы за намі зачыніліся. Тады я кінулася да вакна. Бачу, жанчыны, якія ў стане былі трымацца на нагах, выкідваюць у акно дзяцей і лезуць самі. Сукенка на мне пачала гарэць. Вочы раз'ядае дым. Сабраўшы апошнія сілы, я таксама выскачыла ў акно. Я не адчувала болю ад ран на руках і нагах, не чула ніводнага стрэлу, крыкаў, бегла, колькі было сіл. Прыйшла ў сябе ў балоце. Вакол стаяла цішыня. Я з цяжкасцю дабралася да Беразянкі. Прыйшла да таго часу, калі партызаны і тыя, хто застаўся жывымі, капалі магілу для 37 чалавек, якія загінулі ў той дзень. Вечарам усе ацалелыя беразянкаўцы пайшлі з партызанамі за рэчку, у лес".

У гісторыка-дакументальнай хронікі Пухавіцкага раёна "Памяць" у раздзеле "Ахвяры вайны" ёсць спіс жыхароў вёскі Беразянка, якія загінулі ў вайну. Спаленымі ў 1943 годзе лічацца 17 чалавек. Дзе ж астатнія? Як спаленыя ў вёсцы Беразянка пазначаны і некаторыя жыхары суседняй Зацітавай Слабады. Яшчэ шэраг жыхароў Зацітавай Слабады пазначаны як спаленыя, але без указання месца трагедыі. Калі палічыць усіх, то атрымліваецца 41 чалавек. Праўда, некаторыя прозвішчы падаюцца двойчы — і ў дачыненні да Беразянкі, і ў звязку з Зацітавай Слабадой. Атрымліваецца, што сем паўтораў можна выкрасліць. Выходзіць, што вядомыя — згодна з "Памяццю" — імёны 345 чалавек. Сярод іх — і зусім малыя дзеці: Ількевіч Віктар Мікалаевіч нараджэннем з 1940-га, Ількевіч Мікалай Мікалаевіч — з 1937-га, Скарабагаты Віктар Міхайлавіч — з 1941-га, Карлюкевіч Галіна Уладзіміраўна — з 1942-га, Майко Васіль Мікалаевіч — з 1939-га, Майко Вольга Аляксееўна — з 1936-га...

У партызанскай брыгадзе "Полымя" змагалася з ворагам Яніна Ігнатаўна Крайнік, якая ў партызанскіх газетах і часопісах выступала з вершамі пад псеўданімам Лілія Лясная. На трагедыю лясной вёскі яна адгукнулася творам "Якубу Коласу" (у падзагалоўку: "Голас з Беразянкі"): "Абгарэўшыя печы жахліва глядзяць, // Нават птушкі аголеных нерваў баяцца, // Пралятаючы над вёскай, жалобна крычаць, // Цяжка слёзы стрымаць нам і гора забыцца, // Папалілі звяры нашу працу і пот. // Гэткіх здзекаў, што толькі маглі нам прысніцца, // Шчэ ніколі не чуў беларускі народ".

Але ж вернемся да сведчанняў відавочцаў. У той жа дзень, 22 верасня 1944 года, следчы Іван Крывашэеў апытвае Зосю Васільеўну Шчэрбу (нарадзілася ў 1908-м). І вось што яна ўспамінае праз год пасля трагедыі: "Я жыла ў Беразянцы 5 гадоў. Наша вёска акружана лясамі. Усяго ў нас было 18 хат, а нас жыхароў — 100 чалавек. Калі арганізаваліся партызанскія атрады, то 18 мужчын з нашай вёскі пайшлі ў партызаны. Немцы да нас ехаць баяліся, і мы рэдка іх бачылі. Увосень 1943 года немцы пачалі ўмацоўваць чыгуначную лінію і на раз'езд Блужа, які знаходзіцца ад Беразянкі за 5 км, паставілі вялікі атрад. Былі там немцы, былі і мадзьяры. І вось 7 жніўня 1943 года на досвітку нашу вёску акружыў карны нямецкі атрад. Толькі я запаліла печ і пачала мясіць хлеб, як бачу праз акно — едзе на веласіпедах паўз нашу хату і праз колькі хвілін забягаюць да нас немец-перакладчык і па-руску гаворыць: "Хутчэй бярыце дзяцей і выходзьце!" А дзеці нашы яшчэ спалі. Пачалі мы будзіць дзяцей, у гэты час забягае другі немец і адразу пачаў крычаць на нас і выштурхоўваць з хаты. Я і сястра мая Саша ўзялі на рукі малодшых дзяцей, старэйшыя пайшлі побач. Ідзём да цэнтра пасёлка і бачым, што з усіх хат выганяюць людзей. Маці мая несла вядро малака — толькі што падаіла карову. Выштурхаў і яе, перакуліў малако і пагнаў яе паперадзе сябе.

Мы ўсе думалі пра тое, што нас збіраюцца везці ў Германію, але пасля ўбачылі, што народ зганяюць да свірна. Немцы адбівалі замкі на дзвярах. Тут мы зразумелі, што яны нас туды хочуць загнаць. І немцы пагледзелі свіран і вырашылі, што ўсе там не змесцяцца. Пагналі нас тады да вялікага калгаснага хлева, куды быў складзены яшчэ не абмалочаны хлеб, сена. Адбілі і там замкі. Усяго сабралася нас 60 чалавек. Тут ужо ўсе мы зразумелі, што нас будуць жывымі паліць. Пачалі плакаць дзеці, жанчыны кідаліся на калені і прасілі хаця б дзяцей адпусціць. Але немцы нікога не шкадавалі. Зачынілі дзверы і падпалілі праз акно салому ўнутры хлева з абодвух канцоў. Акрамя таго, пачалася страляніна — і салому падпальвалі ў розных месцах. Пасля я зразумела, што гэта былі запальныя кулі. Што рабілася ў гэты час з людзьмі — і ўявіць немагчыма. Задыхаючыся ў дыме, да мяне падбегла мая дачка і скрозь слёзы пачала са мною развітвацца. Сын мой Коля, якому было тады 5 гадоў, раптам пачаў крычаць: "Мама, кідай мяне ў акно!" Паглядзела я і бачу, што некаторыя жанчыны сапраўды кідаюць сваіх дзяцей у акно, высечанае высока ў сцяне. Падбегла і я з Колем, падсадзіла яго і ён выскачыў. Азірнулася вакол сябе — і нічога не магу разгледзець, толькі адчуваю, што дачкі маёй няма. А крыкі і стогны вакол такія, што моцна каго і па голасу адрозніць нельга. Рашыла і я выскачыць у акно. Як я лезла, як скокнула, як паднялася — і зараз не ўспомню. Помню толькі, што, калі ступіла на зямлю, вакол была страляніна. Кінулася я ў лес — кулі свісталі вакол, а я нічога не бачу. І бегла так, пакуль сіл хапала. Павалілася на зямлю, паляжала і зноў пабегла. Спынілася за некалькі кіламетраў ад Беразянкі. Паглядзела я ў бок вёскі — стаіць дым і полымя над ім шугае. Зразумела я, што ўся Беразянка гарыць. Так яно і было. Спалілі ўсю нашу вёску. Загінула ў агні 37 чалавек. Забралі ўсю нашу маёмасць, скаціну. Да канца дня тыя, хто выратаваўся, сабраліся каля сваіх хат. Прыйшлі з-за рэчкі партызаны. Пачалі апазнаваць сваіх родных, па гузіках ад адзення, рэштках абутку. Некаторыя трупы былі знойдзены ў лесе — гэта былі расстраляны ўцекачы з хлева. У брацкую магілу мы паклалі 37 чалавек. У Евы Майко згарэла 5 дзяцей. Прайшло болей года — а яна яшчэ не можа прыйсці ў сябе пасля страты. У Марусі Купрэевай — два сыны і маці. Самой ёй удалося ўцячы яшчэ з дому. У партызана суседа майго Карлюкевіча Аляксея загінула жонка з двума малымі дзецьмі. Згарэла і другая мая суседка — Аўдоцця... Два сыны яе — у Чырвонай Арміі, засталіся два ўнукі, якія таксама выратаваліся праз акно. Усяго выратавалася ў той дзень 23 чалавекі".

Трагедыя Беразянкі, пра якую мне ўдалося даведацца з дакументаў, знойдзеных у Расіі вядомым беларускім архівістам Вячаславам Селяменевым, — трагедыя адной з многіх пухавіцкіх вёсак. І цяпер, амаль праз 70 гадоў, не ўсё мы ведаем пра гэтыя жахлівыя ваенныя часіны.

*У аб'ектыве*

# Французская спадчына

**Прынята лічыць, што гісторыя фатаграфіі пачалася ў Парыжы ў 1839 годзе, калі вучоны Франсуа Арго напрарочыў гэтаму вынаходніцтву вялікую будучыню. Выстаўка "100 × Францыя", якая адкрылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, — гэта аповед пра гісторыю фатаграфіі, фотамастацтва і французаў.**

Ульяна БЯЛОВА

Экспазіцыя дэманструе французскую спадчыну праз рэтраспектыву 100 фатаграфічных работ. Іх аўтары — знакамітыя майстры Нісефор Ньепс, Шарль Нэгр, Гюстаў Ле Грэй, браты Бісон і фотамастакі, якія рэдка выстаўляюцца, — Эдуар Бальдзю, Агюст Калар, а таксама ананімныя аўтары. Фотаздымкі зроблены ў розны перыяд — пачынаючы з канца XIX стагоддзя і да нашых дзён. Выстаўка, як энцыклапедыя, адкрывае старонкі гісторыі развіцця фатаграфіі, напрамкаў фотамастацтва, адлюстроўвае не толькі навуковы прагрэс, але і працэсы, якія адбываліся ў грамадстве, — урбаністычныя, сацыяльныя і палітычныя змены.

Сустракаюцца тут і знакамітыя работы фатографаў-піктарэалістаў (Канстан Пюё), сюррэалістаў, гуманістаў (Брасай, Андрэ Кертэс, Рабэр Дуано), фотажурналістаў (Жанін Ньепс і Сабін Вайс). Пераходзячы ад адной работы да іншай, можна прасачыць, як мянялася стаўленне да фатаграфіі. У Ман Рэя, Доры Маар і Рауля Юбака фатаграфія — не звычайнае адлюстраванне, а прадмет творчасці. Такім чынам аўтары выстаўкі падкрэсліваюць жыццядольнасць і перспектыву фотамастацтва, фотадакументалістыкі. На іх думку, здымак можа быць і вынаходніцтвам, і мастацтвам, і памяццю. Экспазіцыя абяцае шмат творчых адкрыццяў уважліваму і ўдумліваму гледачу. Фатаграфіі былі адабраны з трох буйнейшых сусветных збораў. Сваімі калекцыямі падзяліліся Нацыянальная бібліятэка Францыі, Музей д'Арсэ і Цэнтр Пампіду ў Парыжы. У праекце таксама ўзялі ўдзел Міністэрства культуры Францыі, Парыжская вышэйшая школа выяўленчых мастацтваў, прыватныя калекцыянеры, французскія фатографы.

Як зазначыў дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Сяргей Вечар, экспазіцыя ладзіцца ў межах Дзён франкафоніі ў Беларусі (свята французскай культуры і мовы). Сёлета з 3 па 23 сакавіка аддзел супрацоўніцтва і культуры Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь арганізаваў шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных музыцы, мастацтву, літаратуры, тэатру і кіно. Дыпламатычныя і консульскія прадстаўнікі франкафонных краін у Мінску ўпершыню аб'ядналі свае намаганні для арганізацыі праграмы Дзён франкафоніі ў Беларусі.



*Аляксандр Фэр'е. Вежа Сэн-Жак, Парыж, каля 1864 г.*

У сталіцы выстаўка працягнецца да 25 сакавіка, пасля экспазіцыя перамесціцца ў Гомель, дзе гледачы змогуць пазнаёміцца з ёю з 27 сакавіка па 29 красавіка.

*Да ведама*

# Стогадовы глянец

Раіса МАРЧУК

На пачатку XX стагоддзя глянцавыя часопісы, якія так любяць пагартаць нашы сучасніцы, выглядалі інакш. Выданні тых часоў былі менш ілюстраваны, але больш напоўнены цікавымі і змястоўнымі артыкуламі — і сто гадоў таму жанчын хвалявалі пытанні моды і прыгажосці. У гэтым можна ўпэўніцца, завітаўшы на выстаўку ў Музей гісторыі горада Гомеля, дзе ўвесь сакавік дэманструюцца часопісы "Женщина и хозяйка" за 1916 — 1917 гады. Тут можна не толькі ўбачыць друкаваныя рарытэты, але і пачытаць рэпрынтныя копіі некаторых экспануемых нумароў.

Чаму жанчыны выбіралі менавіта гэта выданне? Адказ навідавоку — у часопісах было ўсё і нават больш: выкрайкі для пашыву модных сукенак, касметычныя рэцэпты, апавяданні, вершы, парады па дамаводстве і вырабе неабходных у гаспадарцы прадметаў, рэцэпты танных і смачных страў. Да таго ж у кожным нумары друкаваліся адказы на пытанні чытачак і даваўся аналіз характараў паводле почырку. Перагортваючы старонкі амаль стогадовых выданняў, упэўніваешся, што для жанчын ва ўсе часы няма неактуальных тэм.

Каб аднавіць атмасферу пачатку XX стагоддзя, экспазіцыю часопісаў дапоўнілі прадметамі дамскага ўжытку, якія карысталіся попытам у модніц тых часоў.



Мар'ян Дукса

## З кнігі «Птушка вечнасці — душа»

### *Трава і памяць*

Міхасю Казлоўскаму

*Густой траве хапае сіл*
*на кожным лапіку абжыцца.*
*Наўскрай дарог, наўскрай магіл*
*грунтоўна, пышна лапушыцца.*

*Трыумф спраўляе над зямлёй,*
*хаця стрыгуць яе і паляць.*
*Паўсюдна зарастае ёй*
*няўдзячная людская памяць…*

*Паўзі, трава, у глыб вякоў,*
*ды ты не можаш без прычыны*
*закрыць пясок святых грудкоў,*
*дзе ціха спяць сыны Айчыны.*

*Паўзі сабе, але наўскрай*
*іх нескаронага бяссмерця.*
*Усё ж праз іх наш родны край*
*адчуў, што б'ецца яго сэрца.*

*Хоць дзірванее ўсё наўкруг,*
*карэнне точыцца густое,*
*ды іх, самотных, светлы дух*
*пануе ўсё ж над травастоем.*

*Перамагчы жадае сон*
*і выявіць сваё найменне.*
*Жадае з намі сёння ён*
*хоць нейкага паразумення.*

*Ён не аглух і не патух,*
*з'яўляецца з нябёс нятленных.*
*Штурхае ціха гэты дух*
*кроў нашу, стоеную ў венах.*

*Яго не аплясці траве.*
*Хоць і блукае ў паняверцы,*
*але ж усё-ткі ён жыве*
*у нашым расхістаным сэрцы.*

*І што ў дрымучых думках рух*
*мы адчуваем — ён прычына…*
*Нас дастае нястомны дух*
*былых апосталаў Айчыны.*

* * *

*Штораз прыходзіць*
*моцнае прагненне —*
*адкідваючы самазабыццё,*
*уважліва праверыць сачыненне*
*пад назваю "Уласнае жыццё".*

*Яго праветрыць, як пакой курылкі,*
*хоць са спазненнем, а паліць вазон…*
*За дужкі часу вынесці памылкі*
*і ўсе агрэхі змарнаваных дзён.*

*Душа ці доля — хто ты, архітэктар,*
*і што ты заўтра выбудуеш мной?*
*Як мала — спазнаваць,*
*што ты карэктар*
*таго, што ўжо накрэсліў за спіной.*

*І ты цяпер пытаеш асцярожна:*
*скажы, мой лёс, вялікі чараўнік,*
*ці зробіцца ён картаю дарожнай —*
*перапісаны мною чарнавік?*

* * *

*Ты помніш, свята, пра маю душу,*
*і чым жыве яна, ці папытала?*
*Пакінь яе ў спакоі, папрашу,*
*на плошчу не гані з майго квартала.*
*Ты, свята, надта радасць не штурмуй,*
*не надзімай яе, як шар з калоны.*
*Хоць музыкі скразной цэнтральны буй*
*бесцырымонна рвецца ў мікрафоны.*
*Мой слых гул-поцчак, можа, і кране,*
*хоць ад яго стаю далекавата…*
*Праскочыла, прабегла паўз мяне*
*зусім не мной абвешчанае свята.*

* * *

*Хоць дождж, хоць снег на плечы,*
*язык здранцвеў і ссох,*
*асуджаны ты бегчы,*
*хоць гэта гвалт для ног.*

*У добры фініш верыш?*
*Хіба магчымы — збой?*
*Маршрут ужо не зменіш*
*на фінішнай прамой.*

*Душа ўжо ў вечнасць лучыць —*
*жыць нельга два разы.*
*А раптам Бог уручыць*
*хоць нейкія прызы.*

*Было замнога браку*
*ў жыцці, грахі былі.*
*Цяпер падоўгу плакаць*
*ужо няма калі.*



Фота Кастуся Дробава

## Дэбют



Надзея Філон

Пазнаёміўшыся з вершамі гамяльчанкі Надзеі Філон, парадаваўся, што студэнтка 4 курса філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф. Скарыны мовай паэтычных твораў абрала менавіта беларускую, праз мілагучнасць і прыгажосць якой, як прызнаецца паэтэса, лягчэй выказаць свае асабістыя пачуцці.

**Мікола ШАБОВІЧ**

* * *

*Ляцяць сняжынкі белыя ў паветры,*
*Знаходзяць свой прытулак на зямлі.*
*Ды толькі зноў між намі кіламетры*
*Дарогай чорнай, дружа, праляглі...*

*Той шлях не зацярушыць завіруха,*
*Пад націскам завей не знікне ён.*
*Цямнее сцежка ў сэрцы ціхай скрухай...*
*Ляжаць сняжынкі белым дываном.*

* * *

*Для тваёй малітвы хопіць неба,*
*Бог заўсёды слухае цябе.*
*І, калі з'яўляецца патрэба,*
*Да Яго звяртайся ты ў мальбе.*

*Размаўляй… З Ім многа слоў не трэба,*
*Сэрца перад Богам разгарні.*
*Для малітвы нам патрэбна неба,*
*Там — прытулак вечнай цішыні.*

* * *

*Дождж прайшоў… Зноў дарога мокрая.*
*Засталіся лужыны брудныя.*
*Гэта след свой пакінулі кроплі —*
*То рашучыя, то марудныя.*

*Яны крочылі з неба чыстыя,*
*Але ў лужынах з брудам змешаны.*
*Больш няма пачуцця празрыстасці,*
*Быццам якасці страцілі лепшыя.*

*Але сонца на кроплі з пяшчотаю,*
*Заглядзелася раптам у лужыну,*
*Бы ў люстэрка, знянацку, употайкі, —*
*Там шчаслівыя зайчыкі кружацца.*

* * *

*Чырвоны дыск за хмару закаціўся*
*І знік за ёй так нерашуча-сціпла.*
*І раптам промень сонечны прабіўся,*
*І шэрасць у імгненне з неба знікла.*

*А глеба ў нечаканасці знямела —*
*Такога сустракаць не давялося:*
*Маленькі промень шчыра і нясмела*
*Прагнаў і шэрасць, і журбу з нябёсаў.*

### *Маці*

*Пра турботны свой дзень,*
*дзе й хвіліны няма адпачынку,*
*Не пачуеш ніколі ні скаргі, ні крыўды ў адказ.*
*Усміхнецца табе,*
*бы малая гарэза-дзяўчынка,*
*І нясмела заўважыць,*
*як хутка бяжыць гэты час...*
*Праляцелі гады*
*і маршчынкамі леглі на твары,*
*Нечаканае срэбра кранула твае валасы.*
*Як свае, ты здзяйсняла*
*дзіцячыя светлыя мары,*
*З асалодаю чула удзячныя іх галасы…*

* * *

*Восень піша нам апавяданне*
*У паветры зноў лістком кляновым,*
*І яе халоднае дыханне*
*Сапраўды нам падаецца новым.*

*Золатам кладзецца на сцяжынку —*
*За радком радок, за словам слова.*
*Восень тчэ, нібыта павуцінку,*
*Нам штогод сюжэт са зместам новым.*

*Дождж
ыкам дапіша сказ апошні*
*Па застылай глебе стукам кропель.*
*І над заімжэлай шэрай пожняй*
*Кіне нам лістотаю шматкроп'е…*

### *Мара*

*Чалавечая мара —*
*Гэта сон, летуценне.*
*Бы няўлоўная хмара*
*Ці надзеі здзяйсненне.*

*Гэта позірк дзіцяці*
*І лагодныя вочы,*
*Ласка шчырая маці,*
*Ззянне зорак уночы.*

*Гэта хваля кахання*
*Ад вачэй і да сэрца,*
*Асалода спаткання —*
*І душа ўскалыхнецца.*

*Мара – гэта натхненне,*
*Непарыўнае з дзеяй.*
*Майго лёсу імгненне,*
*Маіх крылаў надзея…*



Вера Міхно

* * *

*Празрыста-сонечны*
*зімовы дзень,*
*Прырода патанае ў белізне,*
*І толькі нерэальна сіні цень,*
*Нібы адбітак неба,*
*лёг на снег.*

* * *

*Заўсёды, спрадвеку*
*Жыццё чалавека*
*Бяжыць у трывогах*
*Па цяжкіх дарогах,*
*у справах руцінных,*
*У думках няспынных,*
*З надзеяй, урэшце,*
*Да шчасця дабегчы.*

* * *

*Не варта імкнуцца*
*Любоўю сваё прывязаць,*
*Ці пільны наладзіць нагляд,*
*Ці трымаць у руках.*
*Абдымкі сяброў*
*Не павінны*
*кайданамі стаць,*
*Знішчаюць любоў*
*Недавер'е,*
*няволя і страх.*

* * *

*Вось анёл нявінны!*
*Сэрца б'ецца гулка.*
*Як калісьці сына —*
*Прытуліла ўнука.*

*Ён такі адкрыты,*
*Да забаў ахвочы.*
*Не бяда, што крыкам*
*Патурбуе ўночы.*

*Калыханкі, казкі,*
*Гавару як з роўным.*
*Ад пяшчоты-ласкі*
*Маладзею зноў я.*

*Не паспею войкнуць,*
*Выйдзе ён з пялёнак.*
*Чым не волат-хлопец*
*Мой Раман-рамонак?!*

*Мне з ім так цудоўна!*
*Будзе ўнук жаданы*
*Для мяне галоўным*
*У жыцці раманам.*

* * *

*Без снегу снежань…*
*Што гэта з зімой?!*
*Хоць хмара шэрым*
*Кажухом з авечай воўны*
*Навісла нізка-нізка*
*Над зямлёй,*
*Прыкрыць няма чым*
*Галізну зямлі ўсё роўна.*
*Накінь, зіма,*
*На плечы футра ёй,*
*Каб шыкаваць магла*
*Да дзён вясны чароўнай.*

## Вітрына

Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара

# Баранавіцкі трохкутнік

### Малы, ды ўдалы

Калі вы скажаце жыхару горада, што набылі нешта ў магазіне "Мысль", ён абавязкова прыгадае іншую назву крамы — "Букініст". Менавіта так яна называлася да 1999 года. Тады ў адпаведнасці з новым грамадзянскім кодэксам было ўведзена патрабаванне, каб у межах адной вобласці не было кнігарняў з аднолькавымі назвамі. І паколькі ў Брэсце на той час ужо працаваў свой "Букініст", кнігарні ў Баранавічах давялося змяніць назву і адмовіцца ад гандлю букіністыкай.

— Магчыма, гэта і лепш, бо на букіністычнай кнізе вялікага тавараабароту не зробіш, — разважае загадчыца кнігарні Людміла Будзько. — Людзі, якія хочуць прадаць старыя выданні, да нас усё роўна ішлі б. Да таго ж, у жыхароў горада прыкладна аднолькавыя кнігі ў хатніх бібліятэках, а набыць хочацца нешта новае, вось і атрымалася б замкнёнае кола.

Плошча гандлёвай залы кнігарні "Мысль" — усяго 38 квадратных метраў, і, як сцвярджае Людміла Васільеўна, тут нагрузка на метр квадратны, напэўна, самая вялікая ў Беларусі. Гэта не дзіўна, бо, нягледзячы на малы памер, крама досыць папулярная сярод гараджан. І хоць у горадзе, дзе амаль восем год таму пачаў працаваць універсітэт, лагічна было б зрабіць стаўку на вучэбную літаратуру, асабліва ў сезон падрыхтоўкі да выпускных і ўступных экзаменаў, не адными падручнікамі жыве крама. Так, па словах яе загадчыцы, цяпер актыўна набываюць класіку, рускую, замежную, і, што асабліва радуе, беларускую: творы Івана Шамякіна, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Кандрата Крапівы, Васіля Быкава. Карыстаецца папулярнасцю і краязнаўчая літаратура, асабліва актыўна турысты купляюць альбомы "Наследие Беларуси" і "Баранавічы". Лепш за ўсё прадаюцца кнігі выдавецтваў "Вышэйшая школа", "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", РВУ "Літаратура і Мастацтва".



*Скульптура з савой каля магазіна "Кнігі".*

**Існуе мноства легенд, звязаных з таямніцамі Бермудскага трохкутніка. Магчыма, яны нейкім чынам суадносяцца з загадкавай формай, што аб'ядноўвае тры чароўныя пункты ў прасторы, бо і ў адным з самых буйных транспартных вузлоў краіны — Баранавічах, у цэнтры горада, таксама ёсць свой містычны трохкутнік.**
**Распавесці гісторыю? Ды калі ласка! Кожны, хто трапляе ў межы яго ўплыву, абавязкова… набывае кнігу. Так, я не памылілася, бо вяршынямі гэтай загадкавай фігуры з'яўляюцца кнігарні "Мысль", "Книжный мир", "Книги", размешчаныя зусім побач, літаральна на адлегласці 300 метраў адна ад адной. У розны час яны то былі эканамічна самастойнымі, то працавалі ў складзе "Брэсткнігі", цяпер уваходзяць у сетку крам ААТ "Белкніга", але нязменным застаецца адно — увага наведвальнікаў. З 1992 года ў Баранавічах налічвалася пяць кніжных магазінаў, але сёння "на плыву" засталіся толькі тры. Містыка? Магчыма. Каб адчуць усю магію гэтых кнігарняў, я вырашыла наведацца ў Баранавічы.**

Калі паразважаць з эканамічнага пункту гледжання: тры магазіны аднолькавага профілю размешчаны на малой адлегласці адзін ад аднаго… Якая жорсткая канкурэнцыя павінна быць паміж імі! Якая барацьба за пакупніка! Але на гэту заўвагу Людміла Васільеўна адказвае з усмешкай:

— Мы прывыклі працаваць у такіх умовах. Раней, калі былі самастойнымі, спаборнічалі з магазінам "Книги" і ў хуткасці набыцця новай літаратуры, і ў выніках працы, цяпер жа працуем у межах адной гандлёвай сеткі і нават дапамагаем адно аднаму.

### Замест золата — кнігі

І гэта не метафара! Бо калі ісці далей па вуліцы Леніна ў бок стадыёна, то абавязкова трапіш у "Книжный мир". Шмат год таму тут быў ювелірны магазін. Цяпер — кніжны, адзіны ў горадзе, дзе акрамя новых кніг гандлююць букіністыкай.

— Наведвальнікі звычайна адразу кіруюцца да стэлажа са старымі кнігамі, — распавядае загадчыца Наталля Пліскевіч. — Увогуле ў горадзе шмат зацікаўленых гэтай справай асоб. Нехта хоча набыць патрэбнае выданне танней, нехта — атрымаць грошы за старыя кнігі, што бессэнсоўна стаяць на паліцы. Але самой кнігарні ад букіністыкі прыбытку зусім няма, нават тыя 25 працэнтаў ад кошту, што мы бяром за рэалізацыю, не вартыя дадатковай нагрузкі на супрацоўнікаў — прыняць кнігі, аформіць, запісаць у накладную…

Што да зніжэння чытацкай актыўнасці, Наталля Рыгораўна катэгарычна не згодная з гэтай заўвагай. Бо выніковы працы кнігарні ўказваюць на адваротнае. Сюды прыходзяць самыя розныя пакупнікі — ад малады да сталых — і набываюць усе — ад брашур па медыцыне, садоўніцтве і кулінарыі да сур'ёзных псіхалагічных і філасофскіх раманаў. Знаёмыя супрацоўнікі і з маркетынгавымі прыёмамі. Так, у кнігарні цяпер працуе выстаўка-продаж, на якой прадстаўлены кнігі айчынных выдавецтваў, што пабачылі свет некалькі год таму. Цяпер яны досыць танныя, і, раскладзеныя на спецыяльным століку, прывабліваюць больш увагі, чым калі проста стаяць на паліцы. "Пакупнікам увесь час трэба паказваць новыя кнігі, — разважае Наталля Рыгораўна. — Гэты закон працуе! У нас з гэтага століка штодзень прадаецца каля дзясятка кніг, хоць такія ж выданні ўжо досыць доўга стаяць на паліцах".

Жыхары Баранавіч, калі вы хочаце пачытаць, але не жадаеце набываць кнігу, смела кіруйцеся ў "Книжный мир". Такія наведвальнікі, як вы, тут часта ладзяць "чытацкія канферэнцыі" — адкрыюць нейкае выданне зранку і да вечара чытаюць. Баіцеся, што выганяць? Дарэмна! "У такіх выпадках нават хочацца прапанаваць чалавеку кавы, бо нічога не еў цэлы дзень", — з усмешкай зазначае Наталля Пліскевіч.



*Пакупніца ў гандлёвай зале кнігарні "Мысль".*

### У госці да савы

Каб завяршыць падарожжа па трохкутніку, засталося наведаць толькі адзін магазін — "Книги", бадай, самы вялікі ў Баранавічах. Ён жа самы актыўны, бо супрацоўнікі штогод ладзяць выязны гандаль падчас гарадскіх свят. Ён жа самы знакаміты, бо з'яўляецца ўладальнікам многіх узнагарод, у іх ліку — дыплом Міністэрства інфармацыі краіны як "Лепшы кніжны магазін" па выніках працы ў 2008 годзе.

Кнігарня працуе з 1959 года, але гарадская легенда, звязаная з ёй, зусім новая, яна датуецца прыкладна 2009 годам. Тады ў межах праграмы ўпрыгожвання горада каля магазіна была ўстаноўлена скульптурная кампазіцыя з савой, якая сядзіць на дрэве. Месца для яе было абрана невыпадкова. Фігура разумнай птушкі каля кнігарні павінна была стаць не проста аздобай, але і сімвалам мудрасці, імкнення да навукі. Ды праз некалькі месяцаў пасля ўстаноўкі і ўрачыстага адкрыцця скульптуры… саву скралі. Гэта падзея атрымала шырокі рэзананс. Злодзеі спалохаліся і выкінулі скульптуру на сметнік. Цяпер яна, адрэстаўраваная і ўжо трывала замацаваная, зноў запрашае наведвальнікаў у кнігарню.

Сава стала нават абярэгам магазіна. "Нягледзячы ні на што, кнігі ўсё роўна прадаюцца добра", — падкрэсліла загадчыца кнігарні Святлана Рыферт. Ды і супрацоўнікі адказна ставяцца да справы. Тут пастаянна дзейнічае выстаўка-продаж "Кнігі нашых землякоў", а такія выданні заўсёды папулярныя ў жыхароў горада. Ладзяцца і тэматычныя выстаўкі-продажы, а ў асартыменце магазіна прадстаўлены навінкі ўсіх дзяржаўных выдавецтваў. Але, напэўна, сакрэт поспеху не ў асартыменце, а ў стаўленні да пакупніка. У "Книгах" могуць адкласці патрэбнае вам выданне — да пенсіі, зарплаты, свята, калі вы хочаце зрабіць сабе ці блізкаму чалавеку падарунак. А пакрыўдзіць супрацоўнікаў можна толькі адным спосабам — спробай сфатаграфаваць старонкі даведнікаў, рашэбнікаў, падручнікаў.

## Кнігазварот+

Чэслава ПАЛУЯН

**Як заўсёды, у сярэдзіне сакавіка ва Усерасійскім выставачным цэнтры адбылася Нацыянальная выстаўка-кірмаш "Кнігі Расіі". Сёлета яна прайшла пад дэвізам "Знайдзі кнігу!". Але лозунг актуальны вось ужо пятнаццаць год. Менавіта столькі разоў кнігараспаўсюджвальнікі, выдаўцы, пакупнікі сустракаліся ў Маскве, каб пазнаёміцца з навінкамі, заявіць пра планы, акрэсліць перспектывы развіцця галіны, а таксама падвесці вынікі працы. Цэнтральным экспанентам форуму стала Рэспубліка Саха (Якуція). Не засталіся ўбаку ад міжнародных кніжных спраў і беларускія выдаўцы.**

Падчас адкрыцця форуму кіраўнік агенцтва "Роспечать" Міхаіл Сеславінскі падкрэсліў, што сёлетні форум адзначаны трывожнымі ноткамі. Так, агульны тыраж кніг, выдадзеных у 2011 годзе, знізіўся на 5 працэнтаў у параўнанні з аналагічным паказчыкам 2010 года, пры гэтым колькасць назваў выданняў павялічылася на адзін працэнт. Зменшылася і колькасць удзельнікаў выстаўкі. Нягледзячы на гэта, форум стаўся досыць прадстаўнічым: у ім прынялі ўдзел каля 400 арганізацый, якія прапанавалі больш як 150 тысяч найменняў кніг.

Традыцыйна на выстаўцы былі прадстаўлены і беларускія дзяржаўныя выдавецтвы: РВУ "Літаратура і Мастацтва", "Пачатковая школа", "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі", "Беларусь", "Вышэйшая школа", "Народная асвета", "Мастацкая літаратура", "Адукацыя і выхаванне", са сваімі навінкамі завіталі ў Маскву і прадстаўнікі прыватных выдавецтваў "Макбел" і "Попурри". Як адзначыла па вяртанні з расійскай сталіцы намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут, айчынныя выданні карысталіся вялікім попытам сярод наведвальнікаў выстаўкі. Цікавіла ў першую чаргу дзіцячая, гістарычная, краязнаўчая літаратура, кнігі, прысвечаныя беларускім народным рамёствам, падручнікі па дакладных навуках, карты гарадоў і абласцей. Іх пакупнікі — розныя: мамы з дзецьмі, дзядулі і бабулі з унукамі, навукоўцы. Ужо склалася і група пастаянных аматараў беларускай кнігі: яны штогод наведваюць выстаўку і ў першую чаргу шукаюць наш стэнд.

Выстаўка-кірмаш "Кнігі Расіі" лічыцца дзелавым форумам, арыентаваным на спецыялістаў. Таму асабліва яркім можна назваць трохдзённы бізнес-форум "Кніга+", прысвечаны інавацыям у кніжным бізнесе. Знаходкай стала і акцыя "Кнігазварот", што праходзіла цягам усіх дзён выстаўкі: так, на спецыяльным стэндзе кожны з гасцей форума мог абмяняць прынесеную з сабой кнігу на любое выданне, прадстаўленае на асобным стэлажы.

*Запрашэнне да тэмы*

# Персанальнай энцыклапедыі «Максім Танк» — быць!

**Беларусь у некаторай ступені з'яўляецца лідарам у стварэнні і выданні персанальных энцыклапедычных слоўнікаў. Фаліянты пра Я. Купалу, Ф. Скарыну, М. Багдановіча (пералічваю па часе выдання) сталі падзеяй увогуле для славянскага свету, для міждзяржаўнай энцыклапедычнай прасторы. Шкада, што, акрамя інфармацыйнай засяроджанасці, не вельмі ўважліва адносіцца да іх з'яўлення і прысутнасці ў нацыянальнай культуры перыядычны друк. Асабліва відаць гэта па энцыклапедыі "Максім Багдановіч". А між тым падрабязны іх разгляд, дэталёвае рэцэнзаванне дапамаглі б абазначыць перспектывы, выявіць магчымыя хібы, пралікі. Няўжо мінуў час уважлівых чытачоў?..**

**Васіль СНУСЦІК**

І тым не менш Беларусь — лідар... Так, не існуе трывалага вызначэння "Персанальная энцыклапедыя". Давайце тады, маючы перад вачыма хаця б згаданыя беларускія прыклады, паспрабуем сфармуляваць найбольш дакладнае вызначэнне. Такім чынам, персанальная энцыклапедыя — слоўнік ці даведнік, у якім сабрана максімальная колькасць звестак пра вартую шырокай грамадскай увагі асобу. Магчыма, нехта прапануе іншае азначэнне. Калі ласка, давайце разам абгрунтоўваць існуючую ўжо з'яву. Дык хіба не з'яўляюцца "вартымі шырокай грамадскай увагі" такія постаці беларускай нацыянальнай культуры, як Якуб Колас, Аркадзь Куляшоў, Уладзімір Караткевіч?! Як кажуць, спіс прапаноў можна доўжыць. А можна і сканцэнтраваць увагу на 3 — 4 дзеячах культуры, асветы і агульнымі намаганнямі рэалізаваць творчыя праекты. Альбо — хаця б пачаць іх рэалізацыю з разлікам на тое, што пачатае ўсё ж будзе завершана. Няхай сабе і наступнікамі.

Дарэчы, адзін з праектаў мог бы быць супольным. Чаму б за рэалізацыю падрыхтоўкі энцыклапедыі "Адам Міцкевіч" не ўзяцца навукоўцам і энцыклапедыстам Беларусі, Польшчы, а мо нават Літвы, Расіі, Францыі і Украіны?..

А гэты год, які з'яўляецца юбілейным для Максіма Танка (першае стагоддзе яго прысутнасці ў вечнасці!), можа стаць падставай для пачатку работы над персанальнай энцыклапедыяй, прысвечанай волату беларускай паэзіі. Патрэба ў такім выданні мне бачыцца па розных прычынах. Па-першае, не выклікае ніякіх сумненняў, як мне падаецца, сама асоба. Пачаў друкавацца ў 1932 годзе. Адпрацаваў у літаратуры больш як паўвека. Народны паэт Беларусі. Герой Сацыялістычнай Працы. Лаўрэат Ленінскай прэміі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Амаль 20 гадоў быў галоўным рэдактарам часопіса "Полымя". Больш як 20 гадоў — старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Па-другое, Максім Танк праявіў сябе сапраўдным абаронцам паэзіі як віду мастацкай дзейнасці перад рознымі павевамі часу. У творчасці нашага легендарнага суайчынніка выявілася шмат лёсавызначальных для беларускай паэзіі адметнасцей. Максім Танк, здаецца, бачыў увесь мастацкі свет. І яго голас, голас святой Нарачы, роднай Пількаўшчыны, голас Беларусі, праз слова Танка пачулі многія народы. Толькі асобнымі кнігамі вершы беларускага паэта выходзілі на рускай, англійскай, арабскай, балгарскай, іспанскай, казахскай, літоўскай, латышскай, літоўскай, кітайскай, каракалпакскай, малдаўскай, польскай, серба-лужыцкай, славацкай, таджыкскай, туркменскай, узбекскай, украінскай, чэшскай, эстонскай мовах. Звярнуўшыся да асобы Максіма Танка ў фармаце энцыклапедыі, можна было б надаць новую вагу аўтарытэту нацыянальнай паэзіі. Ды і паэзіі ўвогуле. Па-трэцяе, для таго, каб заняцца танкаўскай персанальнай энцыклапедыяй, ёсць і шырокія крыніцазнаўчыя магчымасці. Пра класіка напісаны шэраг кніг. Завяршаецца выданне новага шматтомнага Збору твораў. Відавочна, у юбілейны год рыхтуюцца новыя манаграфічныя даследаванні.

Нядаўняя работа выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" над энцыклапедыяй "Максім Багдановіч" сведчыць, што ў краіне ёсць магутны творчы і выдавецкі цэнтр для рэалізацыі падобнай задачы. Работа над энцыклапедыяй "Максім Танк", несумненна, прыцягнула б увагу літаратуразнаўцаў, культуролагаў з іншых асяродкаў. Найперш — з Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Пасля — музейшчыкаў, краязнаўцаў. Ёсць спадзяванні, што такога кшталту энцыклапедычны праект ускалыхнуў бы і правінцыйныя навуковыя асяродкі.

А газета "Літаратура і мастацтва" альбо часопісы "Полымя" ці "Роднае слова" маглі б першыя артыкулы друкаваць у якасці абмеркавання. Канечне ж, сёння іншы час патрабуе і ўкаранення новых тэхналогій. Энцыклапедыя "Максім Танк" у папяровым выглядзе магла б суправаджацца і электроннымі дадаткам. Галоўнае — напоўніцу сабраць даследчыцкі танказнаўчы матэрыял і выкарыстаць яго. А чытач, паверце, знойдзецца!

*З нагоды*

# Са скарбонкі вершаванага слова

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Алены Міхаленкі**

**Мінскія гарадскія ўстановы культуры адзначылі Сусветны дзень паэзіі шэрагам мерапрыемстваў. Раскажам пра некаторыя з іх.**

Прыхільнікі паэтычнага слова і супрацоўнікі розных устаноў сталіцы старанна рыхтаваліся да свята. **15 сакавіка** вечарына "Вясна. Любоў. Каханне", арганізаваная Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, прысвечаная Міжнароднаму жаночаму дню і Сусветнаму дню паэзіі, прайшла ў пятай мінскай гарадской публічнай бібліятэцы. У мерапрыемстве ўдзельнічалі Алена Міхаленка, Святлана Яўсеева, Ала Чорная, Вольга Сакалова, Жанна Міланoвіч, Таццяна Лейка, Алена Сініца, Аліна Легастаева, Ала Левіна, Лізавета Палеес, Наталля Касцючэнка, Вольга Норына, Наталля Капа. Вялі мерапрыемства беларускія акцёры Алена Шабат і Яўген Піменаў. Творы чыталі аўтары. Артыстычна выконвала песні на вершы Вольгі Сакаловай Тамара Кашчава. Ад імя моцнай паловы чалавецтва жанчын віншавалі ўзнёслымі радкамі Анатоль Зэкаў і Міхась Башлакоў. Сюрпрызам для ўдзельніц свята прагучалі іх творы на беларускай мове, прадэкламаваныя перакладчыкам Міколам Шабовічам і пакладзеныя на музыку Дзмітрыем Пятровічам.



*На вечарыне ў 5-й мінскай гарадской публічнай бібліятэцы выступае Анатоль Зэкаў.*

* * *

**21 сакавіка** літаратурна-музычны вечар пад назвай "Слова — радасць, слова — чары" прайшоў у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Сёлета да імпрэзы далучыўся Дзяржаўны Лермантаўскі музей-запаведнік "Тарханы", дзякуючы якому наведвальнікі Коласавага дома змаглі пазнаёміцца з выстаўкай работ фотамастака Вячаслава Івашчанкі "Кругом родные всё места". Музей Коласа падрыхтаваў да імпрэзы выстаўку матэрыялаў, што адлюстроўваюць асаблівую творчую повязь вялікіх паэтаў: кнігі М. Лермантава з асабістай бібліятэкі Коласа, яго пераклад на беларускую мову паэмы "Дэмон", рукапіс ліста, дзе Колас разважае пра ролю Лермантава ў сусветнай літаратуры і інш. Была распачата грамадска-літаратурная акцыя "130 прысвячэнняў Песняру". Свае вершы прачыталі Віктар Шніп, Мікола Мятліцкі, Мікола Маляўка, Казімір Камейша, Мікола Жыгоцкі. "У гэтай акцыі могуць узяць удзел усе жадаючыя. У Коласавым доме чакаюць вашы паэтычныя радкі, прысвечаныя класіку", — паведаміла дырэктар музея Зінаіда Камароўская.

* * *

Грамадска-культурная акцыя "Чытаем Купалу разам", падтрыманая прадстаўнікамі Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, выкладчыкамі і студэнтамі сталічных ВНУ, школьнікамі і настаўнікамі, работнікамі буйных прадпрыемстваў краіны, сабрала аматараў паэтычнага слова ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы **22 сакавіка**. Вершы народнага паэта Беларусі чыталі і спявалі прадстаўнікі розных прафесій і рознага ўзросту: паэтэса Таццяна Сівец, барды Алесь Камоцкі і Сяргей Антонаў, акцёр і рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі, супрацоўнікі Дэпартамента аховы Цэнтральнага раёна г.Мінска і фірмы "Кансультант", фальклорны гурт "Квецень", навучэнцы лінгвагуманітарнага каледжа, псіхолаг, дырэктар школы.

*Азбука Морзэ*

**Вольга НОРЫНА, Кацярына БЯДУЛІНА**

● У межах акцыі "Пісьменнікі дзецям", распачатай Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ сумесна з Камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама, беларускую кнігу — творы класікаў і сучасных аўтараў, навукова-пазнавальныя выданні, а таксама кнігі замежных аўтараў — атрымаюць бібліятэкі школ і гімназій, у якіх сябры СПБ правядуць урокі літаратуры, творчыя сустрэчы. Як паведаміў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Міхась Пазнякоў, акцыя прымеркавана да Года кнігі, юбілеяў Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка. Яна ахопіць больш як 20 навучальных устаноў. Мэты акцыі — прыцягненне ўвагі да кнігі, знаёмства школьнікаў з аўтарамі і супрацоўнікамі перыядычных літаратурных выданняў "Нёман", "Полымя", "Маладосць" і інш., выяўленне юных талентаў і прыцягненне іх у літаб'яднанне, якое дзейнічае пры СПБ. Найлепшыя творы маладых будуць прапанаваны для друку ў беларускіх перыядычных выданнях і альманаху "Маладзік", які пачне выдавацца з гэтага года Мінскае гарадское аддзяленне СПБ.

▬ Вершы Анатоля Аўруціна, Святланы Кражавай і іншых беларускіх паэтаў увайшлі ў альманах "Петербургские строфы-2011", які пабачыў свет у Выдавецкім Доме "МИРС" горада на Няве. Міжнародны літаратурна-мастацкі альманах выдаецца з 2009 года, прадстаўляючы чытачу творчасць не толькі расійскіх, але і замежных аўтараў. Як адзначае ў прадмове рэдактар-укладальнік М. Анікін, ідэя стварэння альманаха была выклікана істотнай неабходнасцю выдання, што адлюстроўвала б работы тых аўтараў, якія паспяхова працуюць у галіне сур'ёзнай літаратуры, нягледзячы на адсутнасць дзяржаўнай падтрымкі, інфармацыйную блакаду і "гламурную экспансію".

● Літаратурная сустрэча з паэтам Андрэем Скарынкіным адбылася ў кніжным магазіне "Прэзентацыя". Падчас імпрэзы былі прэзентаваны зборнік паэзіі "Маттиолы", што пабачыў свет ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі". У зборнік увайшлі лепшыя вершы, створаныя паэтам на працягу трыццаці гадоў творчага жыцця. Як прызнаецца сам аўтар, гэта больш лірычныя вершы, у якіх — увесь лёс аўтара. "Некаторыя лічаць, што лірыка — гэта абавязкова каханне і ўсе цяжкасці ўзаемаадносін паміж мужчынам і жанчынай. Аднак гэта бясконцыя пошукі самога сабе і адказы на пытанні, з якімі сутыкаешся на працягу жыцця", — падкрэсліў Андрэй Скарынкін. Адказваючы на пытанне, чым для яго з'яўляецца паэзія, Андрэй Уладзіміравіч адзначыў: "Паэзія — гэта лёс. Тут няма гульні, трэба быць шчырым, сапраўдным, прамым, заўжды даваць волю сваім пачуццям, не хаваючы іх".

▬ "Калі параўнаць напісанне рамана з рыбаю, я дакладна ведаю, якія ў яе галава і хвост, гэта значыць, пачатак і заканчэнне гісторыі, але як будзе выглядаць хрыбет, якімі будуць плаўнікі і якімі колерамі стане зіхацець луска, — адкрыецца толькі ў працэсе", — падзялілася сакрэтам творчай кухні Наталля Батракова на сустрэчы з чытачамі ў мінскай шостай публічнай бібліятэцы і прызналася, што кахае і пакутуе разам са сваімі героямі. На прэзентацыі новай кнігі "Миг бесконечности" Наталля Батракова прыемна здзівіла прыхільнікаў. Яна не толькі адказала на пытанні чытачоў і агучыла ўласныя вершы, але і выканала некалькі песень. ІПА "Рэгістр", што выдала новы раман пра каханне (над ім пісьменніца шчыравала пяць гадоў), прадаставіў удзельнікам мерапрыемства магчымасць набыць і ўжо вядомыя творы Н. Батраковай.

# Соломон + Клеопатра = любовь?

Нестор ГЕРОДОТОВ

**Чьим именем пугают своих детей профессиональные служители музы Клио? Кто в глубине души наверняка мечтал получить Нобелевские премии по математике и истории (если бы они, разумеется, существовали)? Чья концепция перевернула с ног на голову всё прошлое человечества? Представляем читателям "Кніжнага свету" книги Анатолия Фоменко, вышедшие при участии ООО "Харвест".**

### Звезда математики

Редкий случай, но Анатолий Фоменко, известный едва ли не каждому любителю истории, является приверженцем совершенно другой науки — математики. Уроженец Донецка, он закончил механико-математический факультет МГУ, защитил кандидатскую и докторскую диссертации. Преподаёт в своей Alma mater, возглавляя кафедру дифференциальной геометрии и её приложений. Фоменко является автором более 250 научных публикаций по математике, в том числе 27 монографий, 10 учебников и учебных пособий, которые переводились на ряд иностранных языков. Под его руководством были защищены 9 докторских и более 25 кандидатских диссертаций.

Исследования Фоменко получили несомненное признание академической общественности. Он академик Российской академии наук (РАН), Российской академии естественных наук и Международной академии наук высшей школы, лауреат Государственной премии России. В разные годы занимал должности члена Экспертного совета Высшей аттестационной комиссии (ВАК) по математике, члена Президиума ВАК, заместителя академика-секретаря Отделения математики РАН.



Тем не менее среди гуманитариев Фоменко получил наибольшую известность как создатель "Новой хронологии" — концепции, согласно которой существующая хронология исторических событий ошибочна и требует пересмотра.

### Как возникла «Новая хронология»

Первые работы по кардинальному пересмотру хронологии были известны ещё в XVII — XVIII веках. Например, некоторые учёные пытались доказать, что вся античная литература была написана в средние века. Долгое время их взгляды не имели приверженцев. Но в дело вмешался случай. В начале 1880-х годов народник Николай Морозов, участвовавший в организации покушений на императора Александра II, был приговорён к пожизненному заключению. Его он отбывал в Петропавловской и Шлиссельбургской крепостях. Читая "Апокалипсис" ("Библия" была единственной разрешённой в крепости литературой), Морозов, по собственному признанию, решил, что "истинным источником этого древнего пророчества было одно из тех землетрясений, которые нередки и теперь в Греческом Архипелаге". Пытаясь установить по предполагаемым астрономическим указаниям в



тексте дату события, он пришёл к выводу, что текст написан в 395 году до н.э. Вскоре выяснилось, что реальное событие произошло на 300 лет позже. Однако вместо того чтобы признать свою ошибку, Морозов решил, что вся существующая хронология исторических событий неправильна и требует пересмотра. Получив после революции 1905 года свободу, он издал книгу "Откровение в грозе и буре", где изложил свои взгляды.

В дальнейшем Н. Морозов анализировал датировку древних астрономических событий. В итоге он пришёл к следующей хронологии истории: I век н. э. — каменный век, II век — бронзовый, III век — железный, после чего возникла "латино-эллинско-сирийско-египетская империя". По мнению Морозова, в Древнем Египте, Сирии, Греции и Риме происходили одни и те же события и действовали одни и те же люди (под разными именами).

Разумеется, никто не принял эту теорию всерьёз. Одну из критических рецензий написал историк Николай Никольский, кстати, стоявший у истоков зарождения БГУ. В ней он использовал термин "новая хронология", который был в 1995 году взят на вооружение Анатолием Фоменко и его соавтором Глебом Носовским.

### В игру вступает Фоменко

Анатолий Фоменко познакомился со взглядами Морозова в середине 1970-х годов. По его инициативе на мехмате МГУ был прочитан курс по этой теории, а затем образовался кружок для изучения проблемы. Оттолкнувшись от исследований Морозова, использовав работу американского физика Роберта Ньютона и интерпретировав имеющиеся у него данные по-своему, Фоменко также пришёл к выводу, что ряд затмений произошёл в более позднее время, а значит вся хронология мировой истории в корне не верна.

Первоначально Фоменко и его сторонники пытались завоевать академическое сообщество, выступая на конференциях и публикуясь в малотиражных изданиях. Однако никто — ни историки, ни археологи, ни математики, ни физики, ни астрономы — не принял взглядов Фоменко. Его теория была отнесена к лженауке.

Потерпев неудачу, автор "новой хронологии" решил пойти "в народ". В 1995 году вышла книга "Новая хронология Руси, Англии и Рима", в 1996-м — "Империя. Русь, Турция, Китай, Европа, Египет. Новая математическая хронология древности". С того времени практически каждый год выходило новое издание, доказывающее рассматриваемую концепцию. Коммерческие тиражи, активная реклама в СМИ, а также сенсационный ракурс рассмотрения истории принесли Анатолию Фоменко фантастическую популярность.

### Античности как не бывало

В настоящее время в рамках серии, посвящённой изложению взглядов "новой хронологии", вышло более 100 книг общим тиражом более 800 тысяч экземпляров. Среди них такие издания, как **"Тайна русской истории"**, **"Античность — это Средневековье"**, **"Небесный календарь древних"** и **"Империя"**. Каковы же основные положения этой теории?

Согласно Фоменко, о достоверной, нефальсифицированной истории человечества можно говорить лишь начиная с XVIII века, поскольку лишь с этого времени сохранилось достаточное количество непротиворечивых письменных источников. Период с IX—X веков менее достоверен. Этот тезис основывается на неверной датировке письменных источников, дублировании ряда событий и фальсификации по приказу государства, церкви и ряда других влиятельных сил.



Поскольку ранее IX—X веков никаких письменных источников нет, авторы "новой хронологии" отрицают существование древних государств, античности и раннего Средневековья. Более того, основные события, происходившие в разных странах, на самом деле дублировались в разных письменных источниках. В реальности в Средние века на территории практически всей Европы и Азии и даже Америки якобы существовало русско-ордынское государство с центром на территории Древней Руси: "Великая Русская империи".

### Не судите, да не судимы будете?

Как уже отмечалось выше, "новую хронологию" не признаёт ни одна научная дисциплина. Для оппонентов этой теории замыслы А. Фоменко продолжают оставаться загадкой. Достаточно неожиданное мнение высказал лингвист Андрей Зализняк: "Признаюсь, я сам не могу до конца отделаться от мысли, что для А. Т. Фоменко его сочинения на гуманитарные темы — это забавный, хотя и изрядно затянутый, фарс, мефистофелевская насмешка математика над простофилями гуманитариями, наука которых так беспомощна, что они не в состоянии отличить пародию от научной теории. Если это так, то главные кролики этого изысканного эксперимента — его (А. Т. Ф.) последователи".



Тем не менее не будем делать скоропалительных выводов. Возможно, среди читателей "Кніжнага свету" найдутся люди, которые искренне поверят, что хан Батый и русский князь Ярослав, отец Александра Невского, — одно лицо. Что знаменитую царицу Клеопатру на самом деле любил царь Соломон (поскольку он и Юлий Цезарь также являются одним и тем же персонажем). Что древние фракийцы, франки и турки являются одним и тем же народом. Что восстание Пугачёва и война за независимость США были войнами с участием "ордынской" Руси, которая продолжала существовать до того времени. Им мы искренне желаем приятного чтения.

## Гид для экотуриста

Юзефа ВОЛК



Что может быть общего между областью Каппадокия в Турции и норвежскими фьордами, Красным морем и южноамериканским архипелагом Анавиланас, Ниагарским водопадом и плато Тасилин-Аджер, что находится в Алжире? Каждый из этих памятников природы уникален, а рассказ о них (и о многих других замечательных местах), дополненный яркими снимками, можно найти на страницах одного издания — **"Самые красивые места мира"**, энциклопедии серии "Самые красивые и знаменитые".

Кому может быть интересна такая книга? Думаю, многим. Родителям, которые стараются развивать своих детей, рассказывать им о чудесах нашей планеты. Детям, даже если они ещё не умеют читать, а лишь рассматривают фотографии. К тому же сегодня, когда люди начинают всё более остро ощущать свою оторванность от природы и стремятся прикоснуться к вечной красоте, очень популярным становится экотуризм. Он отличается от обычного тем, что главным становится созидание, постижение увиденного и наполнение гармонией, которую излучают заповедные места, сохранившие свою первозданность.

На свете не так уж мало уголков природы, способных впечатлить даже самого требовательного эстета. Некоторые из них не нарушены человеческой деятельностью, потому что были труднодоступны, иные сейчас взяты под защиту с целью охраны.

Горные пики, лесные дебри, бесконечные равнины, синие озёра, моря, реки разных стран и континентов можно увидеть на страницах данного издания. Его стоит полистать хотя бы для того, чтобы знать, что такая невероятная красота существует. Или для того, чтобы и вам захотелось побывать в этих и многих других прекрасных уголках планеты. Ведь не все чудеса могут уместиться на 120 страницах книги.

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 15 декабря 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям |
|---|---|---|---|---|---|
| ООО «Цифровая типография «Колорадо» | 220013, г. Минск, ул. П. Бровки, д. 8А, ком. 40 | 190632113 | 02330/0630741, выд. 09.12.2005 № 178, прод. 08.11.2010 № 176 | 09.12.2015 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ЧУО «Центр повышения квалификации руководящих работников и специалистов «БАМЭ-Экспедитор» | 220030, г. Минск, ул. Первомайская, 14, к. 308А | 190539181 | 02330/541, выд. 09.12.2005 № 178, прод. 21.12.2010 № 206 | 09.12.2015 | справочное |
| ООО «Саторис» | 220017, г. Минск, ул. Кунцевщина, 26 | 190391854 | 02330/0630742, выд. 09.12.2005 № 178, прод. 08.11.2010 № 176 | 09.12.2015 | производственно-практическое, издание для досуга |
| ЧУП по оказанию инженерно-технических услуг «Инженерный центр» общественного объединения «Белорусское общество инженеров-механиков» | 220030, г. Минск, ул. Комсомольская, д. 11, к. 19 | 190579809 | 02330/0630755, выд. 09.12.2005 № 178, прод. 21.12.2010 № 206 | 09.12.2015 | производственно-практическое, правочное |
| ИП Грушевский В.А. | 225409, г. Барановичи, ул. Советская, 100-66 | 290426921 | 02330/0630757, выд. 09.12.2005 № 178, прод. 21.12.2010 № 206 | 09.12.2015 | издание для досуга |
| ООО «Издательство Гревцова» | 220020, г. Минск, ул. Смолячкова, д. 16, ком. 211 | 190644743 | 02330/0003937, выд. 10.02.2006 № 21, прод. 18.02.2011 № 28 | 10.02.2016 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное, издание для досуга |
| ИП Шупикова О.Е. | 220000, г. Минск, Логойский тракт, 19, корп. 4, кв. 157 | 190284884 | 02330/0003872, выд. 10.02.2006 № 21, прод. 13.01.2011 № 6 | 10.02.2016 | издание для досуга |
| ЧУП по оказанию услуг «Простыя леки» | 220053, г. Минск, ул. Нововиленская, д. 12, кв. 38 | 190638591 | 02330/0003871, выд. 10.02.2006 № 21, прод. 13.01.2011 № 6 | 10.02.2016 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |
| ИП Скиндер О.М. | 220114, г. Минск, пр. Независимости, 143, корп. 1, кв. 58 | 190525143 | 02330/0003886, выд. 06.03.2006 № 38, прод. 18.02.2011 № 28 | 06.03.2016 | справочное, издание для досуга |
| ООО «Типография Макарова и К» | 220000, г. Минск, ул. Ф. Скорины, д. 40, комн. 211 | 190452979 | 02330/555, выд. 06.03.2006 № 38, прод. 14.03.2011 № 36 | 06.03.2016 | научно-популярное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ИП Вараксин А.Н. | 220017, г. Минск, пр. газеты «Звязда», д. 67, кв. 11 | 100343635 | 02330/0003899, выд. 06.03.2006 № 38, прод. 14.03.2011 № 36 | 06.03.2016 | научное, научно-популярное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ЧТПУП «Издательство «Антея» | 220012, г. Минск, ул. Чернышевского, д. 10А, комн. 600 | 190599907 | 02330/0003922, выд. 06.03.2006 № 38, прод. 18.02.2011 № 28 | 06.03.2016 | издание для досуга |
| УО «Могилевский государственный учебный центр подготовки, повышения квалификации, переподготовки кадров, консультирования и аграрной реформы» | 213410, г. Горки, пр. Интернациональный, 11 | 700100848 | 02330/0003902, выд. 06.03.2006 № 38, прод. 14.03.2011 № 36 | 06.03.2016 | научное, производственно-практическое, справочное |
| ИП Шарков В.В. | 220007, г. Минск, ул. Бакинская, 12-112 | 101334387 | 02330/0003921, выд. 06.03.2006 № 38, прод. 18.02.2011 № 28 | 06.03.2016 | издание для досуга |
| ЧИУП «Агриус» | 223037, Минская обл., Минский р-н, Петришковский с/с, д. Шубники, ул. Сказочная, д. 2 | 190590782 | 02330/0003900, выд. 06.03.2006 № 38, прод. 14.03.2011 № 36 | 06.03.2016 | справочное |
| ОДО «Бизнес-информ» | 220013, Минск, ул. Мележа, 1, офис 312 | 190673847 | 02330/570, выд. 06.03.2006 № 38, прод. 18.02.2011 № 28 | 06.03.2016 | справочное |
| УПКП «Могилевская областная укрупненная типография имени Спиридона Соболя» | 212030, г. Могилев, ул. Первомайская, 70 | 700008828 | 02330/0003901, выд. 07.04.2006 № 56, прод. 14.03.2011 № 36 | 07.04.2016 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ЧИУП «Кнігазбор» | 220112, г. Минск, ул. Я. Лучины, 38-93 | 190682416 | 02330/0003924, выд. 12.05.2006 № 74, прод. 08.04.2011 № 62 | 12.05.2016 | научно-популярное, производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ИП Авдеева Л.С. | 220018, г. Минск, ул. Якубовского, д. 48, корп. 1, кв. 87 | 190458275 | 02330/0003925, выд. 12.05.2006 № 74, прод. 19.05.2011 № 90 | 12.05.2016 | издание для досуга |
| ИП Дмитриев И.Н. | 220092, г. Минск, пр. Пушкина, д. 34, кв. 34 | 100536952 | 02330/0003935, выд. 12.05.2006 № 74, прод. 19.05.2011 № 90 | 12.05.2016 | производственно-практическое, справочное |
| УО «Белорусский государственный университет культуры и искусств» | 220001, г. Минск, ул. Рабкоровская, 17 | 100286677 | 02330/0003939, выд. 02.06.2006 № 87, прод. 19.05.2011 № 90 | 02.06.2016 | научное, производственно-практическое, учебное |
| Учреждение "Редакция газеты «Транспортный вестник»" | 220034, г. Минск, ул. Чапаева, 5, к. 309, 310, 316, 317, 318, 403 | 100286889 | 02330/0003947, выд. 31.07.2006 № 115, прод. 15.07.2011 № 123 | 31.07.2016 | справочное |
| ООО «Научно-информационный центр-БАК» | 220002, г. Минск, ул. Кропоткина, д.44, офис 603А | 190708719 | 02330/0003948, выд. 31.07.2006 № 115, прод. 15.07.2011 № 123 | 31.07.2016 | производственно-практическое, справочное |
| ГУ «Брестский областной центр гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья» | 224030, г. Брест, пл. Свободы, 11, корпус Б | 200050587 | 02330/0003950, выд. 31.07.2006 № 115, прод. 15.07.2011 № 123 | 31.07.2016 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ИП Печенко А.Г. | 220104, г. Минск, ул. П. Глебки, 84-203 | 190693945 | 02330/0003954, выд. 31.07.2006 № 115, прод. 15.07.2011 № 123 | 31.07.2016 | научное, научно-популярное, литературно-художественное |
| ОДО «МИРИАЛ» | Минский район, п. Колодищи, ул. Тюленина, 10-7 | 190712712 | 02330/606, выд. 31.07.2006 № 115, прод. 12.08.2011 № 136 | 31.07.2016 | справочное |
| ЧПУП «Интегралполиграф» | 220108, г. Минск, ул. Корженевского, д. 16, к. 101 | 100423241 | 02330/611, выд. 20.10.2006 № 142, прод. 07.10.2011 № 183 | 20.10.2016 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ООО «ТОППРИНТ» | 220040, г. Минск, ул. М. Богдановича, д. 155, комн. 1013Б | 100364530 | 02330/614, выд. 20.10.2006 № 142, прод. 07.10.2011 № 183 | 20.10.2016 | справочное, издание для досуга |
| ООО «Аргументы и факты в Белоруссии» | 220013, г. Минск, ул. Б. Хмельницкого, д. 10А, офис 205 | 190739736 | 02330/0131893, выд. 03.01.2007 № 1 | 03.01.2012 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |
| ГУ «Республиканский научно-практический центр радиационной медицины и экологии человека» | 246042, г. Гомель, ул. Ильича, 290 | 490179584 | 02330/619, выд. 03.01.2007 № 1, прод. 03.11.2011 № 198 | 03.01.2017 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ООО «РИА-Натали» | 220141, г. Минск, ул. Купревича, д. 7, комн. 328 | 190598132 | 02330/0131898, выд. 03.01.2007 № 1 | 03.01.2012 | справочное, издание для досуга |
| ТП ЧУП «СВОБОДНЫЙ СТИЛЬ» | 220039, г. Минск, ул. Чкалова, д. 12, комн. 416 | 690026009 | 02330/0131899, выд. 03.01.2007 № 1 | 03.01.2012 | издание для досуга |
| УО «Высший государственный колледж связи» | 220114, г. Минск, ул. Ф. Скорины, 8/2 | 100211963 | 02330/622, выд. 03.01.2007 № 1, прод. 03.11.2011 № 198 | 03.01.2017 | научное, учебное, справочное |
| ГУ «Национальный центр интеллектуальной собственности» | 220034, г. Минск, ул. Козлова, 20 | 190310695 | 02330/0131906, выд. 03.01.2007 № 1 | 03.01.2012 | официальное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ООО «Форт Принт» | 220040, г. Минск, ул. М. Богдановича, д. 155, корп. 9, офис 2 | 190712804 | 02330/0131904, выд. 03.01.2007 № 1 | 03.01.2012 | справочное, издание для досуга |
| Информационно-аналитический центр при Администрации Президента Республики Беларусь | 220004, г. Минск, пр., Победителей, 7 | 102314393 | 02330/0131908, выд. 08.02.2007 № 24 | 08.02.2012 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ГНУ «Объединенный институт машиностроения Национальной академии наук Беларуси» | 220072, г. Минск, ул. Академическая, 12, к. 210 | 190410065 | 02330/0131910, выд. 08.02.2007 № 24 | 08.02.2012 | научное, производственно-практическое, справочное |
| РО «Свято-Успенский Жировичский ставропигиальный мужской монастырь д. Жировичи Слонимского района Гродненской области Белорусской Православной Церкви» | 231822, Гродненская обл., Слонимский район, п. Жировичи, ул. Соборная, 57 | 500009676 | 02330/0150220, выд. 08.02.2007 № 24 | 08.02.2012 | духовно-просветительное, справочное |
| УО «Могилевский государственный университет продовольствия» | 212027, г. Могилев, пр. Шмидта, 3 | 700036606 | 02330/0131913, выд. 08.02.2007 № 24 | 08.02.2012 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ООО «Водолея» | 220050, г. Минск, ул. К. Либкнехта, д. 45, комн. 10 | 190615984 | 02330/0131911, выд. 08.02.2007 № 24 | 08.02.2012 | справочное, издание для досуга |
| ОО «Белорусский союз музыкальных деятелей» | 220030, г. Минск, ул. Я. Купалы, 17/30 | 102305079 | 02330/0131924, выд. 12.03.2007 № 41 | 12.03.2012 | справочное, издание для досуга |
| ПТ ЧУП «Белэлектро-М» | 220033, г. Минск, пр. Партизанский, 2 (литер В 5/кп), к. 502 | 190080025 | 02330/0131925, выд. 12.03.2007 № 41 | 12.03.2012 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

**Што ні літара — то характар, што ні лагатып — то вобраз. Маленькі знак можа змяшчаць у сабе глабальную метафару, а ўзор шрыфту ўспрымацца як зашыфраваная прыпавесць. Прысвечаная Году кнігі выстаўка "Літарт-2012", што разгарнулася ў сталічным Палацы мастацтва, спраўджвае свой дэвіз: "Фэст літары".**




*Уладзімір Цеслер "Знакі" (лічбавы друк).*



*Блінец з літарай.*

# Літары элегантныя, артыстычныя, мудрыя і дасціпныя

Арганізавалі шостую рэспубліканскую мастацкую выстаўку шрыфту і каліграфіі "Літарт" Беларускі саюз мастакоў, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі саюз дызайнераў і Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў. Прэтэндэнтаў на ўдзел у экспазіцыі, якая складалася на конкурснай аснове, не абмяжоўвалі ў фармаце работ, іх тэматыцы, матэрыяле ўвасаблення. І ўрэшце на свяце літары апынуліся практычна-функцыянальныя і артава-эстэцкія, стылізавана-кансерватыўныя, у духу рэтра, і падкрэслена крэатыўныя выявы графічных знакаў, ініцыялаў, лагатыпаў, узоры аўтарскага прыўкраснага пісання, постмадэрнісцкія алюзіі, жарты і знаходкі ў сферы нетрадыцыйных вобразна-фармальных кампазіцый (у тым ліку інсталяцый і артаб'ектаў), інспіраваных "таемным жыццём" друкарскіх, камп'ютарных і рукатворных літар. Побач са славутымі айчыннымі дызайнерамі-шрыфтавікамі, мэтрамі каліграфіі дэманструюць свае работы студэнты кафедраў графічнага дызайну і станковай графікі БДАМ. На фэсце літары прадстаўлена больш як дзве з паловай сотні твораў!

Фестывальнаму духу выстаўкі адпавядала і яе адкрыццё. Тут можна было паслухаць мужчынскі вакальны гурт "Ваганты" і "літарамузыку" вершаказаў Алеся Разанава ў аўтарскім выкананні, пацікаваць за пластычным перформансам "жывых літар" і нават пачаставацца... эксклюзіўнымі сімваламі свята! Якім чынам? У вірлівым шматлюддзі немагчыма было абмінуць чалавека-творцу, чыё цела, адмыслова расфарбаванае ў пунсова-фрэзавы колер і аздобленае карункамі тату, безумоўна ж, уяўляла сабой прыцягальны ўзор бодзіарту. Творца сядзеў за столікам, трымаючы напагатове мастакоўскі пэндзлік. Праваруч узвышаўся стос бліноў. Раз-пораз чалавек за столікам набіраў на пэндзлік белую фарбу і артыстычным жэстам пакідаў у цэнтры бліна некалькі штрыхоў: можа, нейкі друкарскі знак, можа, літару, можа, іерогліф, можа, аўтограф ад "боства творчага агню". Уладальнік незвычайнага дарунка са шчаслівым тварам адыходзіў убок... А тым, хто з недаверам пазіраў на "шэра-бура-малінавыя" бліны, людзі дасведчаныя тлумачылі: "Не бойцеся, частуйцеся: цеста для бліноў "таніравалі" бурачковым сокам, а "фарба" ў місе — звычайная смятана. Вельмі смачна!"

Выступілі на вернісажы старшыня Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў, рэктар БДУ культуры і мастацтваў Барыс Святлоў; кансультант Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Валерый Рагалевіч; старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч і яго першы намеснік Рыгор Сітніца; удзельнік выстаўкі — прадстаўнік адной з найстаражытных школ каліграфіі, госць з Кітая Лі Цзо; старшыня Беларускага саюза дызайнераў Дзмітрый Сурскі; загадчык кафедры графічнага дызайну БДАМ Вячаслаў Сямянько ды легендарны прафесар, якога называюць бацькам беларускай каліграфіі, ініцыятар праекта "Літарт" Павел Семчанка. Гаварылі пра маштаб і разнастайнасць гэтай творчай акцыі, якая паказвае відавочныя вынікі развіцця айчыннай школы каліграфіі, тыпаграфікі, шрыфтавага дызайну. Адзначалі агромністыя магчымасці і сённяшнюю запатрабаванасць відаў выяўленчага мастацтва, прадстаўленых на выстаўцы. Выказвалі пажаданне, каб высокае майстэрства і творчая разняволенасць, уласцівыя нашым вядучым мастакам і дызайнерам, шырэй распаўсюджваліся ў выдавецкай практыцы, вызначалі аблічча беларускіх кніг.



*"Кніжны" чалавек.*

Ад узораў мануальнага каліграфічнага пісьма да лічбавага друку, ад малюнка тушшу на паперы да жывапіснай экспрэсіі акрылавых мазкоў на палатне... Шырокі абсяг тэхналогій, тэхнік, аўтарскіх прыярытэтаў сведчыць і пра глыбокія гістарычныя карані мастацтва "літарапісання", і пра яго актуальнасць, і пра жыццяздольнасць, перспектыўнасць яго традыцый. У экспазіцыі суседнічаюць каліграфічныя цуды Паўла Семчанкі, Усевалада Свентахоўскага, віртуозныя творы Юрыя Якавенкі, Юрыя Тарэева, Аляксандра Кулажэнкі, Уладзіміра Цеслера, акцыдэнтныя шрыфты Сяргея Саркісава, кельцкія ініцыялы Паўла Татарнікава і акрылавыя палотны Андрэя Савіча. Тут убачыш "Каліграфію кахання" Дзмітрыя Сурыновіча, "Дзядоў" Генадзя Мацура, "Літары, распнутыя на крыжы" Уладзіміра Васюка, філасофскую трыяду Сержука Цімохава "Сонца, Зямля, Сонца", трыпціх Уладзіміра Правідохіна "Прыступкі", дзе з візуальнай вытанчанасцю злучаюцца ў вобраз паэтычнае слова і малюнак. Старонкі "Песні пра зубра" Міколы Гусоўскага, узноўленых Сяргеем Пісарэнкам, ініцыялы, створаныя Міколам Купавам да энцыклапедычнага даведніка "Ф.Скарына і яго час" нагадваюць пра нашу кніжную спадчыну, а "Літ-арх" Антона Баранава — пра знакавыя помнікі архітэктуры.

Выстаўка "Літарт-2012" працуе да панядзелка і дае нам магчымасць паназіраць за незвычайнымі праявамі свету літар, лічбаў і знакаў, захапіцца майстэрствам іх стваральнікаў, паразважаць над парадоксамі мастацкіх ідэй.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота Кастуся Дробава

Сёння і заўтра на сцэне НАВТ оперы і балета Беларусі выступаюць госці з Грузіі. У сямі балетных пастаноўках ажывуць сцэнічныя вобразы, створаныя знакамітымі харэографамі розных пакаленняў: Джорджам Баланчыным, Іржы Кіліянам, Трэем Макінтайрам, Аляксеем Ратманскім, Міхаілам Фокіным. Гэтыя творы — "Мацартыяна", "Між небам і зямлёй", "Дуа канцэртант", "Падзенне анёлаў", "Спакусы маньерызму", "Варыяцыі Бізэ", "Лебедзь, які памірае" — пакажа Тбіліскі акадэмічны тэатр оперы і балета. У дуэце з легендарнай салісткай Нінай Ананіяшвілі ў спектаклі "Мацартыяна" выступіць народны артыст Беларусі Ігар Артамонаў.

Карнавальная ноч у Парыжы? Чаму ж не! Перажыць яе незабыўныя прыгоды можна двойчы, патрапіўшы 25 і 26 сакавіка на прэм'еру класічнай аперэты Ферэнца Легара "Граф Люксембург". Гэтым спектаклем напярэдадні Міжнароднага дня тэатра парадуе публіку Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр, а менавіта — аўтар версіі лібрэта і рэжысёр-пастаноўшчык Сусана Цырук, дырыжор-пастаноўшчык Алег Лясун і яго калега Марына Траццякова, балетмайстар Аляксандра Ціхамірава (Расія), сцэнограф Любоў Сідзельнікава, мастак па касцюмах Таццяна Каралёва (Расія), мастак па святле Аляксей Тарасаў (Расія), хормайстар Святлана Пятрова і сузор'е артыстаў.

Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа паставіў спектакль "Леаніды не вернуцца на зямлю" паводле аднайменнага твора Уладзіміра Караткевіча. Аўтар інсцэніроўкі і рэжысёр — Міхась Краснабаеў.

Выстаўка жывапісных работ Ганны Гоманавай "Арт-вааж" запрашае ў захапляльнае падарожжа па свеце — ад Германіі да Мексікі, ад Нідэрландаў да Кубы, ад Італіі да Тайланда... Прынамсі, атмасферу такой незвычайнай вандроўкі адчуваюць наведвальнікі сталічнай галерэі "Ла-Сандр-арт", дзе адкрылася экспазіцыя. Маладая мастачка, творчая спадкаемца беларускіх жывапісцаў Уладзіміра і



*Ганна Гоманава "Вечаровая мелодыя (Егіпет)".*

Леаніда Гоманавых, сваіх таленавітых дзеда і бацькі, ужо вядомая сакавітымі, жыццярадаснымі нацюрмортамі, маляўнічымі пейзажамі. Серыя новых яе карцін, сярод якіх "Музей мадам Цюсо (Англія)", "Прадавец меднага посуду (Балгарыя)", "Карыда (Іспанія)", уражвае арганічным спалучэннем дэкаратыўнасці з псіхалагічнай распрацоўкай вобразаў.

Да Міжнароднага дня тэатра рыхтуецца прэм'ера "Інтымнай камедыі" Ноэла Каўарда. Вядомую курортную гісторыю "любоўнага квартэта" пакажа Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага. Стваральнікі спектакля — рэжысёр Валянціна Ераснькова, сцэнограф Андрэй Меранкоў, мастак па касцюмах Таццяна Лісавенка, кампазітар Аляксей Ераснькоў, харэограф Яўген Карняг. У ролях — Сяргей Чакярэс, Аксана Лясная, Настасся Шпакоўская ды іншыя артысты.

## З нагоды

# Трансфармацыя рэчаў

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва прайшла выстаўка "Прастора дызайну". Яна прысвячалася 35-годдзю факультэта дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.**

Наведвальнікі змаглі пабачыць работы былых і сённяшніх студэнтаў. Экспазіцыя змяшчала інтэр'ерныя і тэхнічныя аб'екты, аўтамабілі, макеты будынкаў, вырабы з металу і тэкстылю ды інш. Адкрывалі выстаўку дэкан факультэта Крысціна Стрыкелева і рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхал Баразна. Міхал Рыгоравіч, у прыватнасці, зазначыў: "Дызайн — гэта нешта маладое, нестандартнае, гэта інтэлектуальная барацьба".

Экспанаты выстаўкі яшчэ раз пераканалі ў тым, што нават калі мы не захапляемся дызайнам, не заўважаць яго вакол сябе немагчыма, як і ў тым, што адпаведная размяшчэнне неардынарных рэчаў спрыяе камфортнаму існаванню чалавека ў прасторы.

Дар'я ШОЦІК

# Дарагі дружа… баян!

**Гэта быў не проста аншлаг, а той самы выпадак, калі, як кажуць, яблыку не было дзе ўпасці. Аматары мастацтва, вядомыя прафесіяналы і юныя выканаўцы сабраліся ў новай сталічнай канцэртнай зале "Верхні горад", каб зноў пабачыць і пачуць майстроў ігры на баяне і акардэоне, сустрэцца з вядучымі настаўнікамі-музыкамі, атрымаць асалоду ад цудоўнай праграмы.**

**Лідзія СКАЧКО,
аспірантка Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі,
фота Кастуся Дробава**

Канцэрт стаўся ўвасабленнем ідэй і памкненняў Асацыяцыі беларускіх баяністаў і акардэаністаў *(далей АББіА)* Беларускага саюза музычных дзеячаў. Вельмі важна адзначыць плённы ўнёсак і ў правядзенне гэтага свята мастацтва, і ў ажыццяўленне іншых праектаў АББіА сапраўднага энтузіяста — Сяргея Перапечы, дырэктара дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 1 імя Л. П. Александроўскай. Яго велізарная энергія, выдатныя арганізатарскія здольнасці ў спалучэнні з высокім прафесіяналізмам выклікаюць шчырае захапленне.

За гады існавання АББіА здзейснена вялікая колькасць канцэртаў у многіх гарадах Беларусі, што, безумоўна, паспрыяла прапагандзе баяннага і акардэоннага мастацтва. Праграмы ўдзельнікаў гэтых канцэртаў заўсёды вылучаюцца разнастайнасцю: ахопліваюць і класіку розных часоў, і апрацоўкі народных мелодый, і творы сучасных кампазітараў, якія параўнальна нядаўна ўвайшлі ў музычнае жыццё.

Новая праграма атрымалася цікавая, захапляльная і запамінальная. Гучалі сучасныя творы, кожны з якіх быў па-свойму адметны і варты ўвагі — як выканальніцкай, так і слухацкай. Ды і фармат канцэрта быў незвычайны: свае выканальніцкае мастацтва дарылі слухачам настаўнікі. Гэта педагогі сталічных музычных навучальных установ, прычым пераважна — лаўрэаты рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Выступленням папярэднічаў невялікі "інфармацыйны блок" пра выканаўцаў, выдатна падрыхтаваны і агучаны вядучай канцэрта — разумнай, тактоўнай і абаяльнай Таццянай Афонінай.

І галоўнае — усіх артыстаў, якія выходзілі на сцэну ў той вечар, аб'ядноўвала гарачая любоў да музыкі. Гэта любоў, шчырасць, адкрытасць, жыццярадаснасць свяціліся ў позірку, выяўляліся ў гучанні твораў і перадаваліся публіцы.

З кароткай прамовай звярнуўся да прысутных прафесар, заслужаны артыст Беларусі, старшыня АББіА Мікалай Сеўрукоў. Ён падкрэсліў асаблівае значэнне баяна і акардэона ў свеце сучаснага музычнага мастацтва, а таксама звярнуў увагу на некаторыя вынікі дзейнасці АББіА. Мікалай Іванавіч зазначыў: "Існаванне нашай асацыяцыі, галоўная мэта якой заключаецца ва ўсебаковай падтрымцы нацыянальнага баяннага і акардэоннага выканальніцкага мастацтва, паказала, што мы рухаемся ў правільным кірунку, што АББіА зрабілася культурным стрыжнем для баяністаў і акардэаністаў усёй Беларусі. Менавіта дзякуючы актыўнай і плённай працы асацыяцыі з'явілася магчымасць правядзення такіх цікавых і змястоўных мерапрыемстваў". Прафесар паведаміў і пра найбліжэйшыя планы АББіА, сярод якіх, напрыклад, — правядзенне ў Гомелі традыцыйнага абласнога адкрытага конкурсу "Мой сябра — баян". Гэта захапляльнае спаборніцтва зусім юных выканаўцаў на баяне і акардэоне — выхаванцаў дзіцячых музычных навучальных устаноў з усёй Беларусі.



*Старшыня АББіА прафесар Мікалай Сеўрукоў.*

Хто ж быў героем баянна-акардэоннай імпрэзы ў зале "Верхні горад"? Тэмбравую непаўторнасць і высокую выканальніцкую культуру прадэманстравалі творчыя калектывы ДМШМ № 19 "Сувенір" (кіраўнік А. Ражкоў), ДМШМ № 20 "Дамінанта" (кіраўнік Т. Камянюк), ДМШМ № 4 "Ad libitum" (кіраўнік Н. Паўлава). Незабыўнае ўражанне зрабілі выступленні салістаў: настаўніка ДМШМ № 17 Л. Скачко і выкладчыкаў Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М.І.Глінкі Р. Кудзіна і К. Тарас. Яны здзівілі публіку глыбінёй, шчырасцю і эмацыянальнай напоўненасцю выканальніцкай інтэрпрэтацыі твораў.

Асаблівай падзеяй сталася з'яўленне на сцэне (ужо ў ролі выканаўцы) прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі М. Сеўрукова. Маэстра прадэманстраваў высокае майстэрства, бліскучы прафесіяналізм. Апладысменты, воклічы "брава!" — публіка патрабавала працягу, не адпускала баяніста, і ўрэшце на "біс" прагучала "Канцэртная п'еса" вядомага беларускага кампазітара А. Пажарыцкага, які прысутнічаў у зале.

Маляўніча і каларытна выступілі дуэты з ДМШМ № 19 "Subito" — Н. Іванова і А. Чыстая, ДМШМ № 1 — В. Іванюк і В. Шымчак, ДМШМ № 17 — І. Укражэнка і М. Маршэўская. А квартэт ДМШМ № 7, у якім відавочнымі лідарамі былі У. Чэрнікаў і А. Кот, ужо адным сваім з'яўленнем выклікаў працяглыя апладысменты — і, трэба сказаць, глядацкія чаканняў не падмануў: у гэтым ансамблі спалучаліся тэхнічнасць, артыстызм і радасць ад стасункаў з публікай.

Яскравым фінальным акордам канцэрта сталася выступленне дуэта "Экспрэсія" ў складзе выкладчыкаў БДАМ і ДМШМ № 10 А. Дараганава і І. Дараганавай. Яны літаральна загіпнатызавалі залу сваім майстэрствам. А іх выступленне ўжо ў складзе трыа — да дуэта далучыўся настаўнік ДМШМ № 9 П. Дараганаў — выклікала сапраўдны шквал эмоцый! Публіка доўга не адпускала музыкаў са сцэны, ганаруючы бурнымі авацыямі іх віртуознае і высокапрафесійнае выканальніцтва.

Халоднай абыякавасці не было месца ў той вечар ні на сцэне, ні ў зале. Публіка разыходзілася задаволеная, хоць і трохі стомленая (праграма доўжылася больш як дзве гадзіны!). Неверагодны поспех канцэрта пераканаўча пацвердзіў, што баяннае і акардэоннае выканальніцтва — жывы пласт мастацтва, які запатрабаваны і бурна развіваецца сёння, дорачы нам усё новыя адкрыцці.

Пра такія падзеі можна гаварыць і пісаць шмат! Аднак ніякі артыкул не здатны перадаць сапраўдную моц і прыгажосць мастацтва. Можна толькі пажадаць АББіА далейшых удалых праектаў, а слухачам — новых сустрэч з таленавітымі выканаўцамі.

# Брэсцкі «камертон года»

**Наталля ВАСІЛЁНАК**

**Міжнародны фестываль класічнай музыкі "Студзеньскія музычныя вечары" з поспехам прайшоў у Брэсце ўжо дваццаць чацвёрты раз. Яго арганізавалі брэсцкія абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты, Беларускі саюз музычных дзеячаў, Брэсцкае абласное музычнае таварыства.**

Вітаючы ўдзельнікаў фестывалю, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка адзначыў: "Добрыя пачынанні абавязкова маюць свой багаты плён. Пацвярджэннем таго з'яўляюцца "Студзеньскія музычныя вечары", традыцыі якіх былі закладзеныя вялікімі музыкантамі, знакамітымі артыстамі, чые шляхі невыпадкова прайшлі праз брэсцкую зямлю, бо менавіта тут яны заўсёды адчувалі цеплыню і ўдзячнасць адданых класічнаму мастацтву гледачоў. Сёння Брэстчына можа ганарыцца фестывалем, які стаў сапраўдным упрыгожаннем культурнага жыцця краіны, укладам у скарбніцу нацыянальнай культуры".

Заснавальнік, нязменны дырэктар, мастацкі кіраўнік фестывалю, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Лілія Батырава сабрала гэтым разам каля 500 музыкантаў з 12 краін. Сярод іх — знакамітыя айчынныя калектывы: Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Аляксандра Анісімава, Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі, прафесара Міхаіла Дрынеўскага, Аркестр народных інструментаў імя Л. Іванова (Магілёўская абласная філармонія) пад кіраўніцтвам Мікалая Алданава, народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў, Камерны аркестр Брэсцкай абласной філармоніі пад кіраўніцтвам Аляксандра Мартыненкі, Сімфанічны аркестр Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы пад кіраўніцтвам Аляксандра Сасноўскага, Сімфанічны аркестр Брэсцкага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Р. Шырмы пад кіраўніцтвам Людмілы Жабінскай, ансамбль флейтыстаў "Сірынкс" пад кіраўніцтвам Ніны Аўраменкі, арт-група "Беларусы" і інш.



*Нацыянальны акадэмічны народны хор пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхася Дрынеўскага.*

Фестывальную праграму ўпрыгожвалі выступленні народнага артыста СССР Зураба Сaткілавы, народнага артыста Расіі Захара Брона, яго сына Даніэля Брона і яго ж вучаніцы-вундэркінда, дзесяцігадовай скрыпачкі з Японіі Моне Хаторы, спявачкі, заслужанага дзеяча польскай культуры Ханны Самсон, хору з Нідэрландаў "Трынітаціс"...

Незабыўныя дні фестывалю, напоўненыя музыкай, сустрэчамі, знаёмствамі з цікавымі артыстычнымі асобамі сталі камертонам, на які арыентуецца далейшае музычнае жыццё горада над Бугам. А нястомны кіраўнік фестывалю ўжо плануе яго працяг.

## Нашы юбіляры



**Уладзімір Паўлавіч ПЕРЛІН** — загадчык секцыі альта, віяланчэлі і кантрабаса Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор канцэртнага аркестра каледжа, заслужаны артыст Беларусі;



**Уладзімір Мікалаевіч БУДАЙ** — артыст Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г.І.Цітовіча, заслужаны артыст Беларусі;



**Мірон Іванавіч БУЛА** — загадчык кафедры баяна і акардэона Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, прафесар, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;



**Яраслаў Аляксандравіч ВАЛАСЮК** — загадчык цыклавой камісіі Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі, намеснік старшыні Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў і мандаліністаў БСМД, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі;



**Любоў Мікалаеўна БОНДАРАВА** — выкладчык Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі;



**Аляксандр Аляксандравіч МАЛЯРОЎ** — выкладчык Гомельскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў імя Н.Ф.Сакалоўскага, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Асацыяцыі беларускіх баяністаў і акардэаністаў БСМД.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.

**Тэлефоны:**
*(017) 222-37-33 — працоўны;*
*(029) 507-55-05 — МТС;*
*(029) 699-32-00 — Velcom.*

*Культурная сталіца-2012*

# У Нясвіжы — як у Парыжы

**Мастацтва дае магчымасць вандраваць у часе і прасторы. Праўда, у такім завочным падарожжы вас нехта суправаджае. Але калі спадарожнік мае што сказаць, не адмаўляйцеся.**

**Алена ДРАПКО**

Тое, што фотамастаку Віктару Данілаву ёсць чым падзяліцца, — неаспрэчны факт. Яго фотавыстаўка “Скарбы Нясвіжа”, што адкрылася днямі ў галерэі “Панарама” Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, — яскравае таму сведчанне. Праект створаны ў рамках падтрымкі рэспубліканскай акцыі “Нясвіж — культурная сталіца Беларусі 2012 года”.

— Раней успрыманне горада было на ўзроўні звычайнага чалавека, які па тых ці іншых прычынах наведвае яго альбо жыве ў ім. Новы Нясвіж — іншы, і таму апавядаць пра яго таксама трэба нетаропка, — падзяліўся думкамі фатограф Данілаў. — А для гэтага неабходна знайсці цэласны вобраз. Каб яго стварыць, трэба адшукаць сваё ўлюбёнае месца, сваю пару года, магчыма, нават згадаць нейкага любімага літаратурнага героя — тады становіцца цікава, нараджаюцца гісторыі. У фотаздымках я прапанаваў гледачу цэлую палітру вобразаў, праз якія сёння можна “прачытаць” былую рэзідэнцыю знакамітых Радзівілаў.

Знаёмства з творчасцю Віктара Данілава стане добрай нагодай завітаць у край, пра які з гонарам кажуць: “У Нясвіжы — як у Парыжы”. Бо аўтар змог адлюстраваць усю прыгажосць гэтага маленькага беларускага горада. Праект выкліча цікавасць у тых, хто неабыякавы да гісторыі нашай краіны і



Зімовы дзень у Нясвіжы.



Вясельныя кантрасты.



Прыгажосць і хараство барока: інтэр’ер касцёла Божага Цела.

хоча ўзнавіць у памяці мясціны, дзе некалі бываў, пра якія чуў і з якімі звязаныя пэўныя падзеі жыцця ўсяго грамадства. Яны знайшлі адлюстраванне ў фотаздымках. І гэта шчаслівая магчымасць убачыць Нясвіж вачамі мастака, які глядзіць на горад з розных ракурсаў, прыкмячае яго непаўторнасць і паўнату жыцця незалежна ад пары года. Экспазіцыя змяшчае каля 60 фотаработ, прысвечаных палацава-паркаваму комплексу, касцёлу Божага Цела, помнікам гісторыі, дзеячам культуры і рэлігіі, а таксама сучасным святам і падзеям Нясвіжа.

Віктар Данілаў з тых творцаў, якія ўмеюць праяўляць сябе рознабакова, не здаваць свае пазіцыі. Наадварот, з гадамі павялічваецца яго імпэт, узрастае майстэрства, экспрэсія ў творчасці. На імпрэзе з нагоды адкрыцця выстаўкі мастака, фатографа, выкладчыка яго віталі і дзяліліся ўражаннямі Фёдар Ястраб, Уладзімір Рынкевіч, Алена Даўгаполава, Васіль Касцючэнка ды многія іншыя.

А ўсіх жадаючых перанесціся ў старажытны беларускі горад, прайсціся па зале, дзе храналагічнасць пераплятаецца з дакументальнасцю, і пры гэтым застацца адзін на адзін з сапраўдным мастацтвам, чакаюць на дваццаць другім паверсе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 27 сакавіка.

*Фота з экспазіцыі.*

*Наша спадчына*

# Спрадвечныя крыніцы

**Тамара КАЛІНІНА, загадчыца аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

**Супрацоўнікі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна сумесна з Магілёўскім абласным краязнаўчым музеем імя Е. Р. Раманава правялі агляд-прэзентацыю фальклорна-дакументальнай экспазіцыі “З крыніц спрадвечных”.**

За многія гады свайго існавання беларусы стварылі багатую і самабытную культуру, якая грунтуецца на ўстойлівых народных традыцыях. З цягам часу яны склаліся ў зладжаную і гарманічную сістэму жыццёвых правіл і маральных норм, звычаяў і абрадаў, якія сталі магутнай маральна-ахоўнай сілай. Нягледзячы на неспрыяльныя гістарычныя ўмовы і выпрабаванні лёсу, традыцыі і культура зноў і зноў адраджаліся і працягваюць жыць ва ўсёй сваёй разнастайнасці.

Арганізатары экспазіцыі, якая праходзіць у межах рэспубліканскай грамадска-культурнай акцыі “Беларусь у маім сэрцы” і будзе дзейнічаць у бібліятэцы да верасня, вырашылі з дапамогай кніжна-ілюстрацыйных выданняў, прадметаў побыту, дэкаратыўна-мастацкіх вырабаў прадставіць духоўны свет беларускага народа, яго багатую і невычэрпную спадчыну.

Удзельнікам імпрэзы прэзентавалі кніжныя выданні, размешчаныя ў трох тэматычных раздзелах, прысвечаных міфалогіі і фальклору беларусаў, традыцыйным промыслам і рамёствам, засярodзіўшы ўвагу на кнігазборах, у якіх адлюстравана фальклорная і мастацкая спадчына Магілёўшчыны. Унікальныя матэрыялы змешчаны ў кнізе “Опыт описания Могилевской губернии…”, з часу выдання якой сёлета спаўняецца 130 гадоў. Гэта каляндар народных звычаяў і абрадаў: вяселле, радзіны, хрэсьбіны, талака, дажынкі, гульні, у ім апублікавана каля 500 беларускіх народных песень каляндарнага цыкла, вясельных, рэлігійных твораў, прыводзіцца таксама апісанне спектакля батлейкі “Цар Ірад”.



*Дакументальна-прадметная экспазіцыя ў Магілёўскай абласной бібліятэцы.*

Упершыню прадстаўленыя выданні знакамітых беларускіх этнографаў і фалькларыстаў: Е. Раманава “Белорусский сборник” (1885 — 1912), “Катрушницкий лемезень. Условный язык дрибинских шаповалов” (1901), “Очерк быта нищих Могилёвской губернии и их условный язык [“любецкий лемент”] (1891); І. Насовіча “Белорусские пословицы и поговорки” (1852), “Сборник белорусских пословиц” (1874); П. Шэйна “Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края” (1887 — 1902), электроннымі копіямі якіх папоўніўся фонд аддзела зусім нядаўна.

Выстаўку дапаўняюць цікавыя гістарычныя фотадакументы, з якіх можна даведацца, як выглядалі сяляне Магілёўскай губерні, а таксама ўбачыць прадметы іх побыту, дэкаратыўна-мастацкія вырабы. З вялікай цікавасцю госці імпрэзы слухалі загадчыцу філіяла этнаграфіі Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея С. Рыбакову, якая распавяла пра багацце аўтэнтычнай мастацкай спадчыны Магілёўшчыны, асаблівасці развіцця промыслаў і рамёстваў нашага краю, якія працягваюць жыць і развівацца.

Віктар АРЦЕМ'ЕЎ

# «Сваё мінулае гартаю з першае старонкі буквара...»

**Нарыс "Бібліятэка паэта Аляксея Пысіна" я напісаў яшчэ ў 1993 г. Але па тым часе ў Беларусі пра бібліятэкі пісьменнікаў не распавядалі. А нядаўна "ЛіМ" надрукаваў, і вельмі цікава, матэрыял пра бібліятэку Якуба Коласа. Відаць, настала і мая чарга.**

## Зразумець незвычайнае

Мне пашанцавала быць побач з выдатным нашым нацыянальным паэтам Аляксеем Пысіным аж чвэрць стагоддзя. Быў калі-нікалі і ўдзельнікам папаўнення яго асабістай бібліятэкі, сведкам таго, як ён карыстаўся кнігамі, як чытаў іх. Да ўсяго яшчэ: Аляксей Пысін, калі вучыўся ў Палужскай дзесяцігодцы, працаваў там школьным бібліятэкарам, мусіць, з год ці крыху болей, за пяць рублёў у месяц. Успамінаў пра гэту працу з гонарам і годнасцю.

Нарадзіўся Аляксей Пысін 22 сакавіка 1920 года ў вёсцы Высокі Барок Краснапольскага раёна. У сталым узросце паэт занатаваў у адным з вершаў: "Я сваё мінулае гартаю з першае старонкі буквара".

Першай настаўніцай Алёшы Пысіна была Ефрасіння Анішчанка. Асабліву ўвагу яна надавала каліграфіі, выразнасці чытання, бо разумела, што навучыць дзяцей прыгожа і ўпэўнена пісаць і чытаць літары і склады — гэта важныя прыступкі чалавека да асабістай адказнасці, да самастойнай працы. Менавіта ў пачатковай школе закладзены падмурак выразнага каліграфічнага почырку Аляксея Пысіна — журналіста і паэта.

Родная вёска Высокі Барок, па прызнанні паэта, стала для яго "Вялікім народным універсітэтам з факультэтамі роднай мовы, народнай песні і народнага жыцця". У бацькоўскай хаце Пысіных, якая замяняла школу і хату-чытальню, доўгімі зімовымі вечарамі збіраліся аднавяскоўцы. Дымілі цыгаркамі, вязлі гамонку, уголас чыталі. Аляксею Пысіну праз дзясяткі гадоў успомнілася, што гэта былі байкі Д. Беднага, апавяданні М. Горкага, А. Серафімовіча. Яшчэ ў маленстве чуў ён вершы М. Лермантава і Т. Шаўчэнкі. А са школьных чытанак запалі ў душу Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гурло, Янка Журба, Міхась Чарот і Андрэй Александровіч. Будучы ўжо выдатным паэтам, ён не згубіў дзіцячай непасрэднасці і юнацкага захаплення той пары. Пра гэта сведчаць яго радкі ў маім альбоме "Кніга і чытанне. Экспромты пісьменнікаў". А. Пысін першым зрабіў у ім запіс: "Кніга — гэта шчаслівае імгненне адкрыцця свету і сябе ў гэтым свеце як істоты, якая можа адчуць і зразумець незвычайнае, прыгожае.

Кніга — гэта магчымасць заўсёды перажыць узрушанасць, радасць далучэння да вялікага, нібы зноў адкрытага свету, у якім ты зноў нараджаешся, жывеш".

## Ён бачыў, як "пласт зямлі кладзецца..."

У вучнёўскія гады Аляксей Пысін кнігамі зачытваўся. Школьных падручнікаў, хрэстаматый (на той час школьнай бібліятэкі ў Высокім Барку яшчэ не было) яму яўна не хапала. Аднакласнік Міхаіл Малінін расказаў: "Шалухоўскі хлопец быў тады не толькі маім харошым другам, але і маім першым бібліятэкарам. Усё цягнуў мне з дому кніжкі «Руслан і Людміла» Пушкіна, «Рэспубліка ШКІД» Панцялеева і Чарных..."

А яшчэ любіў Алёша прыроду. Любіў шчыра, да самазабыцця, як майскую раніцу, пасыпаную срэбрам расы. Вясковае наваколле ён параўноўваў з цікавай і бясконцай кнігай. Поле, лес, луг, рэчка, крынічка здаваліся яму жывымі істотамі, надзейнымі сябрамі. Бывала, пойдзе адзін за ваколіцу і ўсё назірае, слухае... Ён бачыў, як "пласт зямлі кладзецца, як колас гнецца", чуў шаптанне лоз, пах суніц. "Размаўляў з барознамі, з зарою, разумеў спяванне мудрых пчол".




## Любімыя пісьменнікі і кнігі

З беларускіх класікаў больш за ўсё А. Пысін любіў паэтаў Максіма Багдановіча, Янку Купалу, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанку. З сучасных паэтаў на першым месцы ў яго быў Рыгор Барадулін.

— Самы блізкі быў для мяне і застаецца Максім Багдановіч — сваёй высокай думкай, формай паэтычнай, усім-усім. А наогул ва ўсіх паэтаў трэба вучыцца, — гаварыў Аляксей Васільевіч у інтэрв'ю журналісту У. Бардзілоўскаму.

Аляксей Васільевіч захапляўся прозай Максіма Гарэцкага, Уладзіміра Караткевіча, Івана Мележа, Янкі Брыля. Помню, калі ён поштай атрымаў першы том пяцітомніка збору твораў Янкі Брыля, той дзень стаў як свята. З сучасных празаікаў на першае месца ставіў Уладзіміра Караткевіча.

З рускіх паэтаў асаблівыя сімпатыі выклікала ў Аляксея Пысіна творчасць Мікалая Рубцова. Помню, выйшаў у свет у 1978 годзе зборнік яго вершаў. А. Пысін набыў яго, патэлефанаваў мне: "Купі!" З нагоды любіў паўтараць радкі паэта з верша "Элегія":

*Стукну по карману — не звенит.*  
*Стукну по другому — не слыхать.*  
*Если только буду знаменит,*  
*То поеду в Ялту отдыхать.*

Менавіта ў Ялту. Гэтых радкоў з верша ў купленым мною зборніку не было. Іх я знайшоў пазней у іншым зборніку, які купіў ужо па сваёй ініцыятыве. Але там значыцца: "в Гагры". Відаць, Пысін запомніў цытаваныя радкі да выхаду ў свет зборніка. Можа, і ад самога М. Рубцова.

Вучыўся А. Пысін у Пушкіна і Лермантава, Твардоўскага і Коласа, Сафокла і Гамера (у ягонай бібліятэцы былі кнігі і гэтых аўтараў), Гарэцкага, Быкава, Астаф'ева і ў многіх іншых. Вучыўся ўсё жыццё.

Бібліятэка паэта А. Пысіна не вызначаецца аб'ёмам і колькасцю тамоў. Збіраў ён тыя кнігі, якія яму надта ўжо спадабаліся ці да аўтараў якіх ставіўся з асабліва шчырай прыязнасцю. А кнігі-дарункі з аўтографамі былі яму як успамін або нават як рэліквія. Назбіралася ў бібліятэцы паэта трохі больш як тысяча экзэмпляраў.

## Дух паэзіі

Апошнія пяць гадоў з Аляксеем Васільевічам сустракаліся мы даволі часта, дватры разы на тыдзень. Здаралася заходзіць да яго на кватэру. Не помню выпадку, каб паэт не падышоў да кніжных паліц і не ўзяў адну-дзве кнігі. То разгорне том БелСЭ, то слоўнік, то зборнік фальклору, то томік паэта. Браў у рукі кніжку і тады, калі ведаў тэкст на памяць (цытаваў заўсёды без памылак і скажэнняў). Яму хацелася, каб субяседнік убачыў словы сваімі вачыма, каб патрымаў кнігу. Нярэдка прасіў прачытаць уголас. Асабліва свой новы верш. На той час такі вось метад мяне крыху здзіўляў.

На відным месцы ў бібліятэцы паэта — фотапартрэт Янкі Купалы. У канцы 50-х і пачатку 60-х гадоў гэты партрэт (зрабіў яго, пэўна, фотакарэспандэнт Мікалай Сідарау) займаў месца ў рэдакцыі газеты "Магілёўская праўда" над рабочым сталом літсупрацоўніка А. Пысіна. Аляксей Пысін справядліва лічыў Купалу сваім настаўнікам, па ім зваряў і свае творы, прысвяціў яму васьмірадковы верш "Да партрэта Янкі Купалы":

*Між самых крэўных, самых блізкіх*  
*Яго партрэт, знаёмы ўсім.*  
*І дзеці з самае калыскі*  
*Паэта прызнаюць сваім.*  
*Такім і быў ён... Задуменны,*  
*Даступны і негаваркі,*  
*Ўвайшоў у дом, у круг сямейны,*  
*Як уваходзяць сваякі.*

Мне здаецца, што дух паэзіі Янкі Купалы заўсёды вітаў і цяпер застаецца ў кватэры сям'і Пысіных.

...Беларуская Савецкая Энцыклапедыя ў 12 тамах і паказальнік да іх выдзяляюцца сярод іншых выданняў. Аляксей Васільевіч гаварыў: "Без яе не абысціся", — і пацвярджаў свае меркаванні канкрэтнымі прыкладамі з томам у руках. Параіў мне: "Купі! Не пашкадуеш."

Купіў. І сапраўды, пазней не раз быў удзячны паэту за параду.

За БелСЭ ідуць слоўнікі: польска-рускі, латышска-рускі, украінска-рускі і украінска-беларускі, тлумачальны слоўнік беларускай мовы, слоўнікі беларускіх гаворак. Асабліва цаніў паэт "Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны" І. Бялькевіча, выдадзены ў Мінску ў 1970 годзе. Пры выпадку заўсёды гартаў яго, знаходзіў арыгінальныя словы. У друкарні зрабіў для яго новую вокладку. Захоўваў "Беларускі каляндар" на 1980 год — выданне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Ухваляў, як ставяцца беларусы ў Польшчы да сваёй роднай мовы. Шкадаваў, што такога календара няма ў нас.

Як рэдкасцю даражыў паэт трэцім томам "Живописной России" пад рэдакцыяй П. Сямёнава. Выдадзена была гэта кніжка яшчэ ў 1882 годзе М. Вольфам. Аляксея Васільевіча вабілі старонкі пра гісторыю, геаграфію і культуру Магілёўшчыны. Чытаў пранікнёна, з захапленнем. Паэт усёй душой любіў народныя песні, казкі, прымаўкі. Таму кнігі з серыі "Беларуская народная творчасць" для яго з'яўляліся ў пэўным сэнсе настольнымі.

Замежных (ці, як цяпер гавораць, з далёкага замежжа) аўтараў кніг не багата: Сервантэс, Дантэ, Гюго, Гейнэ, Амар Хаям, Шэкспір, Сафокл, Гамер. Паэта цікавіла серыя мініяцюрных кніжак.

Ёсць кнігі з аўтографамі Янкі Брыля, Максіма Лужаніна, Ігара Шклярэўскага ды іншых.

Каталог сваёй бібліятэкі А. Пысін не вёў. Адмовіўся (яму прапаноўвалі зрабіць бясплатна) ад штэмпеля "Уласная бібліятэка А. В. Пысіна". Пэўнага парадку ў расстаноўцы кніжак на паліцах таксама не было. Але ён ніводнага разу не шукаў патрэбную кнігу доўга: любую знаходзіў і даставаў імгненна.

Кнігі Аляксею Пысіну былі дарадцамі і сябрамі.

---

**Валянціна ЛУКАШОВА,**  
**загадчыца Аршанскай гарадской бібліятэкі імя Максіма Горкага**

# Край, імёнамі слаўны

Бібліятэкі Аршанскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы лічаць адной з галоўных сваіх задач накіраваць усю працу на прапаганду беларускай кнігі. І дзеля гэтага вырашылі прапанаваць карыстальнікам гарадской бібліятэкі імя Максіма Горкага выстаўку "Край, імёнамі слаўны" пра жыццё і творчасць беларускіх пісьменнікаў Віцебшчыны — хацелася зрабіць "своеасаблівую панараму літаратурнага жыцця", каб кожны меў магчымасць пазнаёміцца з творчай палітрай краю.

На Віцебшчыне нарадзіліся славутыя асветнікі беларускай зямлі. Тут гучала высакароднае слова Сімяона Полацкага і Еўфрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Васіля Цяпінскага, Вацлава Ластоўскага, Спірыдона Собаля. Віцебскі край узгадаваў Яна Баршчэўскага, Міхася Лынькова, Уладзіміра Дубоўку, Петруся Броўку, Янку Сіпакова, Уладзіміра Караткевіча ды шмат іншых, можа, менш вядомых, але шчырых рупліўцаў роднай літаратуры.

Кніжная выстаўка мае чатыры раздзелы. Першы з іх — "Пісьменнікі Віцебшчыны" — знаёміць з творчасцю сучасных літаратараў. На выстаўцы асобна прадстаўлены паэтычныя зборнікі Тамары Красновай-Гусачэнкі "Осень молодая", "Белое пламя листа", "Спас", верш "Молитва", які найбольш палюбіўся чытачам. Зборнік "У света тени нет" карыстаецца попытам сярод наведвальнікаў бібліятэкі і з моманту паступлення ў фонды выдаваўся больш як 40 разоў.

Таксама прапануем чытачам кнігі ўласнага карэспандэнта газеты "Віцебскі рабочы", пісьменніка, лаўрэата прэміі "Залатое пяро" Уладзіміра Сауліча. Напрыклад, "Антэі Прыдзвіння" — зборнік апавяданняў пра сучасную вёску, пра людзей, якія там жывуць.

Не менш цікавым будзе знаёмства і з творчасцю Генадзя Катлярова. Мы прапануем яго новую кнігу "Хроника вражды".

Краязнаўцаў зацікавяць кнігі Ігара Пракаповіча: "Парфорсные пламя ваніе ў Паставах" (споведзь пра малавядомыя старонкі дзейнасці ў Паставах у пачатку XX стагоддзя Вышэйшай практычнай кавалерыйскай школы, у якой навучаліся знакамітыя асобы, такія, як А.Брусілаў — вядомы рускі генерал, атаман П. Красноў і г.д.) і "Пошукі забытага шляху" (распавядаецца пра старадаўні водны шлях, які праходзіў праз рэкі Дзвіна, Дзісна, Нарачанка, Вілія).

Аматары беларускай паэзіі змогуць адкрыць для сябе такіх аўтараў, як Алесь Жыгуноў ("Ля цяпельца зары"), Вольга Русілка ("Ажына"), Алег Салтук ("На вейцы веку"). Іх кнігі чытач знойдзе ў другім раздзеле выстаўкі — "Беларусь у маім сэрцы. Паэзія Віцебшчыны".

Мы імкнуліся нагадаць пра пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў Оршы. Ім прысвечаны трэці раздзел выстаўкі: "Я — родам з Аршаншчыны". Тут размясціліся кнігі Янкі Сіпакова "Ахвярны двор", "Зялёны лісток на планеце Зямля", Генадзя Казака "Сонца маё Беларусь", Канстанціна Нілава "Душы і сэрца камертон". Многія — падарункі аўтараў, з аўтографамі.

На паліцы ёсць таксама кнігі нашага славутага земляка Уладзіміра Караткевіча.

Чацвёрты раздзел "Пісьменнікі — дзецям". Да прыкладу, кнігі Галіны і Сяргея Трафімавых — добрыя дапаможнікі па розных галінах ведаў: "Звёздные загадки", "Азбука юного пешехода", "Азбука юного пассажира", "Они не должны исчезнуть", "Детям о СПИДе и докторе Неболит".

# Канстытуцыі Беларусі: 20 унікальных дакументаў

**Ірына ТУЛУПАВА**

**Такая экспазіцыя падрыхтавана ў аддзеле старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Матэрыялы адлюстроўваюць станаўленне дзяржаўнасці і яе прававое забеспячэнне на землях сучаснай Беларусі за больш як тысячагадовую гісторыю.**

— Літаратуры па дадзеным пытанні ў нашай бібліятэцы багата, і выставак, прысвечаных ёй, прайшло ўжо шмат, — патлумачыў загадчык аддзела Валерый Герасімаў. — Але нечым здзівіць чытача мы яшчэ можам. Таму для новай экспазіцыі адабралі найбольш цікавыя дакументы. Роўна дваццаць. А ўсяго іх больш як 300.

Менавіта такая колькасць дакументаў сабрана ў апошнім праекце, які Прэзідэнцкая бібліятэка Беларусі ажыццяўляе сумесна з Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь, — "Гісторыя канстытуцыйнага права Беларусі".

У межах праекта выдадзены тры CD-дыскі: "Помнікі гісторыі права Беларусі: тэматычны банк даных прававой інфармацыі". У першым выпуску, які з'явіўся ў 2009 годзе, каля 100 дакументаў (менавіта помнікаў канстытуцыйнага права Беларусі). Імі ахоплены ўвесь перыяд існавання права на нашых землях пачынаючы ад першых беларускіх протадзяржаў, якія існавалі ўжо ў перыяд з V па VIII ст. Затым — Полацкага, Тураўскага, Смаленскага княстваў, ВКЛ і гэтак далей да пачатку савецкага перыяду і стварэння сучаснай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Прадстаўлены акты Рэчы Паспалітай, паўстання 1794 года, акты Расійскай імперыі ў дачыненні да Беларусі, акты перыяду аднаўлення беларускай дзяржаўнасці і БНР.

Другі дыск змяшчае 132 дакументы, у трэцім іх яшчэ больш: тэма знаходзіць працяг у адпаведных дакументах. Гэта канстытуцыйныя законы, міжнародна-прававыя акты, юрыдычная літаратура.

Акрамя таго, Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь выпусціла самастойны дыск, які называецца "Гісторыя канстытуцыйнага права Рэспублікі Беларусь". У ім сабраны бібліяграфічныя запісы на манаграфіі, зборнікі навуковых прац, артыкулы ў газетах і часопісах за 1995 — 2010 гады. Змешчаны тэксты Канстытуцый Беларусі, прынятых у 1919, 1927, 1978 і 1994 гадах. У дыск увасходзяць таксама канстытуцыйныя акты 1941 — 1945 гадоў: савецкія дакументы і акты фашысцкай Германіі, якія дзейнічалі на акупіраванай тэрыторыі Беларусі.

— Цяпер яны і для гісторыкаў, і для насельніцтва вельмі цікавыя і нават карысныя ў пэўных выпадках, — тлумачыць Валерый Герасімаў. — Напрыклад, калі Германія выплачвала дапамогу грамадзянам — ахвярам вайны, людзі звярталіся не толькі ў афіцыйныя ўстановы, але і да нас, і мы для іх шукалі па старых картах, у склад якой дзяржавы ўваходзіў той ці іншы рэгіён. Да прыкладу, даваенная Беластоцкая вобласць БССР у часе акупацыі адміністрацыйна ўваходзіла ў склад Прусіі — тэрытарыяльнай адзінкі фашысцкага рэйха, а пасля вайны адышла да Польшчы. Адпаведна належала атрымліваць і кампенсацыю.

Канстытуцыйныя дакументы ў экспазіцыі розныя. Да прыкладу, адна з унікальных кніг — "Збор важнейших помнікаў па гісторыі старажытнага рускага права" (Санкт-Пецярбург, 1859 год) — утрымлівае самыя розныя тэксты, так бы мовіць, гістарычна-прававога жанру. У зборнік уключаны дамовы "русаў з грэкамі", датаваныя 911 і 945 гадамі, да заключэння якіх спрычыніліся і дрыгавіцкія ды крывіцкія продкі беларусаў. У дамовах згаданыя нашы князі, акрэсліваецца тагачасная структура ўлады. Не захавалася дакументаў таго часу, напісаных на нашай мове, але ў старажытных грэчаскіх, рымскіх і візантыйскіх хроніках, манускрыптах "Аб готах" Іардана, "Гоцкая вайна" Пракопа Кесарыйскага і іншых крыніцах якраз утрымліваюцца




*Вокладка CD-дыска "Помнікі гісторыі права Беларусі".*

фрагменты, якія сведчаць пра ранейшы лад жыцця славян: у прыватнасці, існавалі веча, князь, княжацкая адміністрацыя і ваенная дружына.

У манаграфіі знакамітага айчыннага гісторыка-этнографа М. Доўнар-Запольскага "Палітычны лад старажытнай Русі. Веча і князь" (Масква, 1906 г., выданне таварыства І. Сыціна ў серыі "Сучасная Бібліятэка") асобныя раздзелы прысвечаны некаторым інстытутам тагачаснай улады. І хаця канстытуцыі ў сучасным разуменні гэтага паняцця тады яшчэ не было, з манаграфіі можна ўявіць, як будавалася сістэма дзяржаўнага кіравання ў летапісныя "часы Баянавы". Дарэчы, асобнік экспанаванага выдання ў Беларусь патрапіў з Ленінграда, пра што сведчаць адпаведныя штампы былых бібліятэк-уладальнікаў.

Сярод рэдкіх экспанатаў — дакументы, з якіх можна даведацца, як Расія ад самадзяржаўя пераходзіла да канстытуцыйнай манархіі. Зборнік "Законодательные акты переходного времени 1904 — 1908 гг." выдадзены ў Санкт-Пецярбургу ў 1909 г. Тут змешчаны ўсе царскія маніфесты, у якіх дазваляліся пэўныя свабоды, у тым ліку і на беларускіх тэрыторыях.

Захоўваюцца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы дакументы, арыгінальныя сваім паліграфічным афармленнем. Гэта найперш канстытуцыі савецкага перыяду, як Канстытуцыя 1927 года, калі ў Беларусі існавалі чатыры дзяржаўныя мовы: беларуская, польская, руская і яўрэйская. Адпаведна і тэкст Канстытуцыі напісаны на чатырох мовах. Гэта выданне трапіла ў Прэзідэнцкую бібліятэку з Азербайджанскай цэнтральнай дзяржаўнай бібліятэкі. Да вайны згодна з палажэннем аб абавязковым экзэмпляры кожны асобнік беларускай друкаванай прадукцыі накіроўваўся ў галоўныя бібліятэкі саюзных рэспублік. Пасля некаторыя з іх, у тым ліку і азербайджанская, падзяліліся з намі захаванымі беларускімі скарбамі.

Яшчэ адна брашура М. Доўнар-Запольскага "Асновы дзяржаўнасці Беларусі" выдадзена ў 1919 годзе ў Горадне (так тады называлі Гродна) акрамя беларускай на ўсіх міжнародных замежных мовах: французскай, англійскай, нямецкай. Цяпер гэта таксама ўжо гістарычны дакумент, у якім адлюстраваны працэсы беларускага дзяржаваўтварэння і яго заканадаўчага замацавання ў прасторы і часе.

У ліку прэзентуемых выданняў "Дневник Люблинского сейма" — збор права Беларусі перыяду Вялікага Княства Літоўскага, у якім дзень за днём адлюстраваны выступленні, спрэчкі, прыезд і ад'езд дэлегатаў, цырымонія падпісання палітычнай уніі ВКЛ і Кароны Польскай і яе тэкст.

Валерый Герасімаў падкрэслівае:

— Галоўная задача праекта — забяспечыць шырокі доступ усім жадаючым да гістарычных матэрыялаў. Улічваючы, што дакументы маюць высокую гістарычную каштоўнасць і патрабуюць пэўных умоў захавання і карыстання, доступ да іх абмежаваны нават вузкаму колу спецыялістаў. Таму бібліятэка ідзе па шляху прадастаўлення спадчыны ў электронным выглядзе.

Навуковымі кансультантамі ў праекце па канстытуцыйным праве выступаюць вядомыя гісторыкі і тэарэтыкі права Р.Васілевіч, М. Чудакоў, А. Літвін, супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Я.Анішчанка і інш.

Праект па пошуку крыніц права Прэзідэнцкая бібліятэка вядзе супольна з Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Цэнтральнай навуковай бібліятэкай НАН Беларусі.

Выстаўка канстытуцыйных дакументаў будзе працаваць на працягу месяца. З адсканіраванымі фрагментамі некаторых матэрыялаў можна азнаёміцца ў віртуальным увасабленні на сайце бібліятэкі, патрымаць у руках арыгіналы ў аддзеле старадрукаў і рэдкіх выданняў.

*Час добрых зносін*

# Што плануеце на выхадныя?

Якім чынам сучасная сям'я бавіць вольны час? Які адпачынак мамы і таты лічаць найбольш карысным і цікавым для сваіх дзяцей? Варыянтаў адказаў, напэўна, нямала: нехта пойдзе ў кіно, хтосьці сустрэнецца з сябрамі. Цудоўна, калі выбар зроблены на карысць спорту. Але большасць усё ж правядзе гэты час дома, каля тэлевізара, за камп'ютарам ці ў хатніх клопатах. Наўрад ці нехта заплануе сямейны паход у бібліятэку, хіба толькі па традыцыйную паслугу — узяць кнігі ды часопісы для чытання. А між тым сучасная бібліятэка прапануе шмат чаго цікавага. І вельмі шкада, што погляд на кніжніцу як на нешта маркотнае, сумнае і афіцыйнае мяняецца вельмі марудна. Паскорыць змену стэрэатыпаў грамадства могуць найперш супрацоўнікі бібліятэк, якія добра ведаюць багатыя магчымасці сваіх устаноў і спрабуюць зацікавіць імі дарослых і дзяцей.

Менавіта з гэтай мэтай Цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма г. Баранавічы разам з Тэрытарыяльным цэнтрам сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва распачала праект "Час добрых зносін". Асноўная яго мэта — арганізацыя вольнага часу бацькоў і дзяцей з выкарыстаннем бібліятэчных рэсурсаў.

Пасля шырокай рэкламнай кампаніі праекта ва ўстановах, якія цесна працуюць з сем'ямі, атрымана 20 заявак на ўдзел у ім. Арганізацыйная сустрэча будучых партнёраў ладзілася 1 сакавіка. Бібліятэкамі прапанаваны шэраг мерапрыемстваў, у якіх на працягу года можна будзе браць удзел. Гэта заняткі ў інтэрнэт-класе, прафарыентацыйныя сустрэчы "Прафесіі, неабходныя майму гораду", нясумныя ўрокі "Не замест вас, а разам з вамі" (дапамога ў падрыхтоўцы хатніх заданняў па англійскай і нямецкай мовах), экскурсіі-знаёмствы з бібліятэкамі горада "Добрыя суседзі", настольныя гульні, агляды сучаснай дзіцячай літаратуры "І што вам у гэтых кнігах?", чытацкі ўголас для дзяцей малодшага ўзросту "Там, на нязведаных сцяжынках…", суботнія кінасеансы і інш. Бацькі, якія выхоўваюць дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі жыццядзейнасці, праінфармаваны пра гатоўнасць кніжніц выконваць іх запыты на бібліятэчныя паслугі непасрэдна па месцы жыхарства. Асвятлялася праца Публічнага цэнтра прававой інфармацыі, які дапаможа ў пошуку неабходных прававых актаў.

На сустрэчу прыйшлі і бацькі, і дзеці. Разам яны выбіралі занятак па душы. У выніку найбольш запатрабаванымі аказаліся інтэрнэт-клас, настольныя гульні, літаратурныя чытанні, суботнія кінапраглядзы.

Гэта толькі пачатак, таму галоўная сённяшняя задача — напоўніцу рэалізаваць патэнцыял праекта. Спадзяёмся, што да яго далучацца новыя сем'і і ў хуткім часе многія жыхары нашага горада на пытанне "Што вы плануеце на выхадныя?" адкажуць: "Мы ідзём у бібліятэку!"

**Наталля СТАНКЕВІЧ,**
**загадчык аддзела культурных праектаў і знешніх сувязей ЦГБ імя В. П. Таўлая, г. Баранавічы**

*Юбілеі*

# Імя абавязвае

Бібліятэка імя Якуба Коласа Наваполацкай ЦБС ненамнога маладзейшая за свой родны горад: у самым канцы мінулага года яна адзначыла 45 год з дня заснавання.

Спачатку бібліятэка займала пакой у адной з кватэрных секцый плошчай 46 кв. метраў, а фонд яе не перавышаў і трох тысяч кніг. Але з цягам часу ён рос, расла і колькасць чытачоў, павялічваліся штаты. Асабліва гэтаму паспрыяў пераезд бібліятэкі ў 1978 г. у новае прасторнае памяшканне, дзе яна знаходзіцца і цяпер. Сёння ў фондзе 52 560 экзэмпляраў кніг, якія прапануюцца 5250 чытачам.

Кніжніцу аформілі ў нацыянальным стылі. Каб дасягнуць адпаведнага каларыту, наваполацкі мастак С. Прывада выкарыстаў у якасці матэрыялу аздаблення дрэва. Яшчэ ў 1970 годзе за актыўную прапаганду кніг беларускіх аўтараў бібліятэцы было прысвоена імя нашага знакамітага песняра — Якуба Коласа.

З гадамі галоўны прынцып работы бібліятэкі не змяніўся, роднае слова пастаянна гучыць у яе сценах. Паўнюткія залы наведвальнікаў звычайна збіраюцца на сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі, паэтамі, бардамі, якія прыязджаюць з Мінска і Віцебска. Часта ладзяцца вечарыны і з мясцовымі літаратарамі. Амаль ні адзін юбілей беларускіх аўтараў не застаецца па-за ўвагай.

Вядома, у бібліятэцы пастаянна ідзе праца з творамі Якуба Коласа і матэрыяламі пра яго жыццё і дзейнасць. Падрыхтавалі шмат выданняў: буклеты "Ад першай сустрэчы…" пра сяброўства Янкі Купалы і Якуба Коласа, "Вобраз Якуба Коласа ў беларускай мастацкай літаратуры", "Якуб Колас і Полаччына", дайджэст "Постаць і палітра", дзе быў раскрыты вобраз паэта ў беларускім выяўленчым мастацтве, і многае іншае. Шмат цікавых мерапрыемстваў намечана і на гэты год у сувязі са 130-годдзем Якуба Коласа і Янкі Купалы.

Вельмі важны кірунак у рабоце бібліятэкі — краязнаўчы. Праект "7 цудаў Наваполацка", буклет "Даніна павагі", відэачасопіс "Наваполацк", артыкулы ў кнізе "Публіцыстыка-2010", рэспубліканскім перыядычным друку — усё гэта здабыткі апошняга часу. Складзены інфармацыйна-бібліяграфічны паказальнік "Полаччына ў Вялікай Айчыннай вайне", у якім сабрана літаратура па тэме за 70 гадоў, з 1941-га па 2011-ы.

За навукова-пошукавую работу бібліятэцы ў 2004 годзе было прысуджана першае месца ў вобласці. У 2007 годзе ўстанова стала пераможцам абласнога тура ў намінацыі "За навацыі ў галіне бібліятэчнай справы".

**Валянціна СОПКАВА,**
**бібліёграф бібліятэкі імя Якуба Коласа Наваполацкай ЦБС**

*Чалавек і яго справа*

# Экзотыка з вёскі Каралёва

**38 гадоў прысвяціла Антаніна Гарлачова бібліятэчнай справе. Ні на хвіліну жанчына не пашкадавала, што сваёй галоўнай спадарожніцай па жыцці абрала кнігу. У кнігах шукала адказы на пытанні, з кнігамі адпачывала, кнігамі лячылася, па кнігах жыла і жыве…**

Вера ЛУКАШЭВІЧ

### Рабінзон Кукуруза — герой яе дзяцінства

Яшчэ школьніцай яна палюбіла кнігу. Не слухаючы настаўленняў маці, шмат чытала, схаваўшыся за печкай.

— Памятаю, неяк у класе трэцім мне трапілася кніга пра рабінзона Кукурузу, — прыгадвае Антаніна Васільеўна. — У ёй распавядалася пра хлопчыка, які заблудзіўся неяк у кукурузе, за што і атрымаў такое прозвішча. Я тады яшчэ падумала, што гэта няправільная кніга, бо сапраўднага рабінзона звалі Круза. Пасля прачытала і раман Д. Дэфо. Затым былі іншыя кнігі, сярод якіх значны след у памяці пакінулі "Всадник без головы" Майн Рыда і вершы Э. Асадава.

Таму калі давялося паступаць, яна, не задумваючыся, падала дакументы ў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум.

### «Вы — першы сапраўдны бібліятэкар, якога я сустрэў…»

Са сцен тэхнікума выйшла маладым спецыялістам бібліятэчнай справы. Працаваць пачынала на Магілёўшчыне, а потым з сям'ёй пераехала ў вёску Каралёва, дзе атрымала дом. Сям'я ўладкавалася на новым месцы, і Антаніна пайшла працаваць бібліятэкарам.

— Бібліятэка тады знаходзілася ў бараку, — расказвае жанчына. — Потым, у 1979 годзе, яе перанеслі ў памяшканне дома культуры.

Новага бібліятэкара палюбілі адразу. Каралёўцы кожны дзень наведвалі кніжны храм, у якім гаспадарыла Антаніна Васільеўна. Яна разумела густы кожнага і заўсёды была гатова прапанаваць самую цікавую кнігу.

— Я на ўсё жыццё запомніла словы аднаго з маіх чытачоў. Праўда, гэтага чалавека



*Антаніна Гарлачова каля экзатычнага лімона.*

даўно ўжо няма. "Антаніна, вы першы сапраўдны бібліятэкар, якога я сустрэў…" І для сябе вырашыла, што буду і надалей імкнуцца быць сапраўдным майстрам сваёй справы.

Сёння яна абслугоўвае каля 500 чалавек. Гэта людзі самых розных узростаў і прафесій.

### Замест лекаў — лімоны, фейхоа і мірт

На базе кожнай бібліятэкі звычайна дзейнічае гурток пэўнага профілю.

— Не ведаю як, але Ганна Міхальчук (у той час начальнік аддзела культуры райвыканкама) даведалася, што дома я захапілася развядзеннем экзатычных раслін. Вось так і з'явілася ідэя стварыць на базе Каралёўскай сельскай бібліятэкі клуб аматараў экзатычных раслін, цяпер ён называецца "Экзотыка".

І аматары экзотыкі знайшліся. Адлік дзейнасці клуба пачаўся з 1995 года. Дапамагалі маладому бібліятэкару дзве жанчыны — Валянціна Ефімовіч і Юзэфа Ксяневіч, яны і цяпер яе галоўныя памочніцы і дарадцы.

Сёння ў невялікім бібліятэчным пакойчыку можна ўбачыць дрэўцы лімонаў розных гатункаў, інжыр, лаўровае і кафейнае дрэвы, мірт, фейхоа, чайны куст…

— За 17 гадоў існавання клуба мы многаму навучыліся самі і навучылі дзяцей, — гаворыць Антаніна Васільеўна. — Мы чаранкавалі, перасаджвалі, змагаліся з такой хваробай, як шчытоўка, і, нягледзячы на ўсе цяжкасці, атрымлівалі нядрэнныя ўраджаі, што дарылі наведвальнікам бібліятэкі.

Антаніна Васільеўна ўпэўнена, што расліны здольны дапамагчы чалавеку ў барацьбе з хваробамі, са стрэсам ці проста падарыць цудоўны настрой, толькі спачатку трэба самім крышку паклапаціцца пра сваіх будучых зялёных лекараў…

### Наказ будучым пакаленням

Улічваючы тое, што 2012-ы ў краіне аб'яўлены Годам кнігі, папрасіла бібліятэкара са стажам даць параду ўсім, што і як чытаць.

— Мае чытачы чытаюць усё: дзеці — казкі, дарослыя — раманы, настаўнікі і людзі пажылога ўзросту — часопісы, класіку. Пытаюцца пра кнігі беларускіх аўтараў, такіх, як І. Мележ, І. Шамякін Г. Далідовіч і інш. Упэўнена, якім бы попытам ні карысталіся сучасныя электронныя кнігі і інтэрнэт, нішто не зможа замяніць звычайную кнігу. У сваёй рабоце я практыкую тэматычныя паліцы, сустрэчы-абмеркаванні з удзелам дзяцей і бацькоў, вiктарыны і г.д. На працягу года хачу сабраць водгукі сваіх чытачоў на тэму "Кніга ў маім жыцці", каб зразумець, якой бачаць кнігу і чаго ад яе чакаюць сучасныя дзеці і дарослыя.

*Штрых-код*

## Што будзе

### Гомельшчына

**З 26 сакавіка па 30 красавіка** ў палацы Румянцавых і Паскевічаў будзе дзейнічаць экспазіцыя прыжыццёвых выданняў замежных аўтараў з калекцыі князёў Паскевічаў на замежных мовах аддзела рэдкай кнігі Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна "Свет класікі".

**6 красавіка** ў Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна пройдзе міждзяржаўны "круглы стол" "Бібліятэка як цэнтр папулярызацыі чытання: сацыяльная значнасць, эфектыўнасць, новыя падыходы" з удзелам спецыялістаў Бранскай, Курскай (Расія), Чарнігаўскай (Украіна) абласцей.

**6 красавіка** ў Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна адбудзецца вечарына "Кніга — спадарожніца эпох", на якой плануецца адкрыццё фотавыстаўкі члена Беларускага саюза мастакоў Алега Ананьева і інсцэніраваны паказ гістарычнага касцюма дызайнера Ларысы Нілавай.

### Гродзеншчына

Упраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама і Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага аб'явілі літаратурны конкурс "Песнярам роднай зямлі…" да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Кожны ўдзельнік можа прапанаваць верш, прысвечаны Янку Купалу і Якубу Коласу; эсэ, прысвечанае жыццю і дзейнасці песняроў; водгук на прачытаны твор аднаго з аўтараў.

Конкурс праходзіць да 1 верасня 2012 г.

**1 красавіка** ў Варнянскай і Быстрыцкай сельскіх бібліятэках Астравецкай ЦБС адбудуцца літаратурныя гадзіны "Не абысціся без душы", прымеркаваныя да 65-годдзя з дня нараджэння Алеся Жука, беларускага пісьменніка, перакладчыка.

**3 красавіка** да Міжнароднага дня дзіцячай кнігі Варанчанская сельская бібліятэка Карэліцкай ЦБС правядзе для дзяцей малодшага школьнага ўзросту літаратурную гадзіну па творчасці К. Чукоўскага "Дзецям — у спадчыну ад дзядулі Карнея".

**4 красавіка** Сольская сельская бібліятэка Смаргонскай ЦБС запросіць вучняў 5 — 6 класаў мясцовай школы на свята дзіцячай кнігі "Путешествие в Книгоград". Да мерапрыемства рыхтуецца кніжная выстаўка-прагляд "Чытаем кнігі — адкрываем свет", пройдзе конкурс на лепшага чытальніка вершаў.

**4 красавіка** ў Залескай СБ Смаргонскай ЦБС пройдзе свята кнігі "У бронзе і на паперы".

### Магілёўшчына

**23 сакавіка** ў гарадской дзіцячай бібліятэцы Асіповіцкай бібліятэчнай сістэмы адбудзецца Дзень Янкі Купалы і Якуба Коласа "Свайму народу — песень дар".

**26—31 сакавіка** Цэнтральная бібліятэка Бабруйскай БС праводзіць акцыю "Чытанне+".

**27 сакавіка** Ельнянская сельская бібліятэка Хоцімскай БС запрашае на імпрэзу "Свет ведаў кніга адчыняе".

**27 сакавіка** дзіцячы філіял № 9 Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых публічных бібліятэк г. Магілёва праводзіць літаратурны конкурс "Зоркі паэтычнага небасхілу" (па творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа).

### Віцебшчына

**1 красавіка** Полацкая цэнтральная раённая бібліятэка запрашае на літаратурную віктарыну, прымеркаваную да Міжнароднага дня дзіцячай кнігі.

**1 красавіка** літаратурна-конкурсная праграма "Свята кнігі не гасне ў нашым доме" чакаецца ў Слабодкаўскай сельскай бібліятэцы Шумілінскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы.

**4 красавіка** гадзіну цікавых паведамленняў "Святая зямля старажытнага горада" (да 445-годдзя з дня нараджэння Л. Сапегі) арганізуе Аршанская гарадская бібліятэка імя М. Горкага.

# Патрэба душы

**У Лунінецкай цэнтральнай раённай бібліятэцы адбылася імпрэза, прысвечаная Году кнігі.**

Таццяна КАНАПАЦКАЯ

Работнікі бібліятэкі запрасілі на сустрэчу, падчас якой прэзентавалася факсімільнае выданне Слуцкага Евангелля, педагогаў і вучняў ліцэя. Для іх гэта стала своеасаблівым урокам літаратуры. Юныя і дарослыя лунінчане віталі ганаровых гасцей і па традыцыі ўручалі ім караваі. Кіраўнік місіянерскага аддзела Пінскай епархіі кандыдат багаслоўя іерэй Іаан Гарбуноў паведаміў пра гісторыю стварэння рукапісу, які выканаў слуцкі князь Юрый Алелькавіч больш як 400 год таму. У Лунінецкім Свята-Крыжаўзвіжанскім храме служыць дыякан Сергій (Плотніцкі), жыхар Пінска, які мае педагагічную адукацыю, а цяпер вучыцца ў духоўнай семінарыі. Ён даў рэкамендацыі па карысным чытанні праваслаўных выданняў.

Розных па ўзросце і адукацыйна-сацыяльным статусе людзей, якія актыўна далучаліся да дыялогу, згуртавала агульная прага новых ведаў і любоў да кнігі. Свае думкі выказалі ўдзельнікі сустрэчы.

**Намеснік дырэктара ліцэя Наталля Бойка:**

— У грамадстве нарэшце матэрыялізавалася ідэя пра пабудову інфармацыйнай прасторы. Кніга аб'яднала памкненні царквы і школы, дзяржавы і асобных людзей у накіраванасці да адзінай мэты. Чалавецтва павінна вярнуцца да нормаў і каштоўнасцей, занатаваных тысячагоддзі таму.

**Загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Таццяна Карпуковіч:**

— Калі чалавеку неабходна аперацыя, да яго не паклічуць суседа — папросяць дапамагчы хірурга. Кніга — патрэба душы, нематэрыяльнай субстанцыі, умяшальніцтва ў якую яшчэ больш адказнае. Чаму ж дапамогі ў чытанні не чакаем ад спецыялістаў?

**Дырэктар раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Надзея Радзіяновіч:**

— Ніякія электронныя навўвядзенні не заменяць жывых зносін са словам. Сёлета запланавана шмат гутарак, выставак, чытацкіх канферэнцый. Гавораць, што пачатак — палова справы. Першая сустрэча ўмацавала ўпэўненасць, што здолеем захапіць чытаннем і моладзь.

*Зачытаныя кнігі*

## Рэйтынг найбольш чытаемых у лютым кніг прапануе Гомельская гарадская бібліятэка № 12 (філіял № 14 ГГЦБС)

### Чытальная зала

1. Гісторыя Беларусі ў 2 частках. — Мінск: Вышэйшая школа, 2006.
2. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 тамах. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1993.
3. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі ў 5 тамах. — Мінск: Беларуская савецкая энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1984.
4. Нарысы гісторыі Беларусі ў 2 частках. — Мінск: Беларусь, 1995.
5. Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя ў 4 тамах. — Мінск: Беларуская навука, 2003.
6. Кодекс Республики Беларусь об административных правонарушениях. — Минск: Тесей, 2010.
7. Беларускі фальклор. Хрэстаматыя. — Мінск: Вышэйшая школа, 1996.
8. Чумаков, Л. С. Охрана природы: пособие для учителя. — Минск: Современная школа, 2008.
9. Путеводитель по городам и районным центрам Республики Беларусь. — Минск: Харвест, 2004.
10. Владимир Мулявин. Нота судьбы. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2004.

### Абанемент

1. Батракова, Н. Н. Территория души: роман в 2 книгах. — Минск: Кавалер, 2008.
2. Батракова, Н. Н. Площадь согласия: роман в 2 книгах. — Минск: Кавалер, 2008.
3. Воронин, А. Н. Слепой. Операция прикрытие: роман. — Минск: Современный литератор, 2008.
4. Правдин, В. А. Танцевальный марафон: детективный роман. — Минск: Книжный дом, 2002.
5. Воронов, И. Фабрика грёз: роман. — Минск: Книжный дом, 2011.
6. Лисицкая, Т. Идиотки: роман. — Минск: ИПА Регистр, 2010.
7. Марчук, Г.В. Цветы провинции: роман. — Минск: Современная школа, 2010.
8. Марчук Г. В. Без ангелов: роман. — Минск: Современная школа, 2010.
9. Тарасов, К. И. Три жизни княгини Рогнеды. — Минск: Коллегиум, 1994.
10. Татаринов, Ю. А. Княгиня Менжинская: трилогия. — Минск: Регистр, 2011.

**Найперш захапіў колер — белы зал нібы прыбралі ў золата. Пасля — самі вырабы: побач з традыцыйнымі саламянымі капелюшамі ды скарбонкамі, павукамі ды лялькамі апынуліся Пегас і нават дыназаўр. Прыгледзеўшыся, заўважаеш дэталі, складаную тэхніку, спрабуеш зразумець, як можна такое стварыць са звычайнай саломкі. І не верыцца, што яшчэ колькі дзесяцігоддзяў таму ці не кожная жанчына магла нешта зрабіць сама, каб аздобіць дом і парадаваць дзіця новай цацкай. Сёння гэта — узнаўленне традыцый ды папулярызацыя свайго, беларускага.**



*"Царква" Анастасіі Кавальчук, г. Жабінка.*

# Золата нашых палёў

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА, фота Кастуся Дробава**

Тамара Сідарэвіч, загадчык аддзела выяўленчай дэкаратыўна-прыкладной творчасці і выставачнай работы Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі, распавядаючы пра выстаўку, нездарма ўжывае словы "папулярызацыя" ды "аднаўленне". А яшчэ — "знаёмства". Бо менавіта знаёміць часам давядзіцца беларусаў з іх спадчынай, народнымі традыцыямі. Такія мэты арганізатары рэспубліканскай выстаўкі-конкурсу дэкаратыўна-прыкладной творчасці "Залатая саломка" перш за ўсё і ставілі перад сабой.

На выстаўцы, якая, дарэчы, рыхтавалася практычна год, можна пабачыць больш як 300 індывідуальных і калектыўных работ — лічы, з усіх раёнаў Беларусі. Ёсць і работы, выкананыя вучнямі народнага майстра Ірыны Лелонг — Насцяй Герасімавай, Валяй Юдзінец, Воляй Мацкевіч, Інгай Гнацюк, Татэвік і Рыпсімэ Кіракасян, Насцяй Губіч і Вікай Кошлач.



*Ірына Лелонг прадстаўляе індыйскую танцоўшчыцу, выкананую яе вучаніцай Валянцінай Юдзінец.*

Сама Ірына, калі з лёгкай рукі і дзякуючы падказцы народнага майстра Веры Салдатавай захапілася саломкай, нібы вярнулася да ранейшага хобі — заўсёды была аматарам рукадзелля. Цяпер яна ўжо больш як дзесяць гадоў вучыць саламапляценню падлеткаў — у майстэрні "Залатыя рукі" пры Цэнтры (азначэнне "гурток" не вельмі любіць, кажа, назва майстэрня больш адпавядае таму, чым займаюцца дзеці і моладзь).

Расказваючы пра сваю майстэрню, Ірына Лелонг зазначае: "Я не маю на мэце выхаваць творцу. Ды гэта і немагчыма — можна навучыцца тэхніцы, але не творчасці. Не абавязкова трэба вырасціць саламаплядельшчыка. Галоўнае — даць чалавеку штуршок у агульным развіцці, прывіць любоў да нашай культуры". Майстар прызнаецца, што са старэйшымі дзецьмі працаваць лягчэй — малым трэба больш тлумачыць, паказваць. Але ж ёсць і выключэнні — да прыкладу, Насця Герасімава. Дзяўчынка займаецца саломапляценнем з шасці гадоў, на выстаўцы можна пабачыць адразу тры яе работы — яны вельмі і вельмі індывідуальныя. Увогуле, усё, што прадстаўлена ў экспазіцыі, практычна на сто працэнтаў — творчасць самастойная. "Магчыма, я крышачку скіроўваю дзяцей, але зусім крышачку. Ідэі, тэхніка… Нешта яны знаходзяць у кнігах, але я арыентую іх на тое, каб рабілі самастойна, прапаноўвалі свае ідэі. Нам неабходна нетрадыцыйнае, нешта новае — без гэтага не будзе развіцця".

> **Даведка ЛіМа:**
> *Выстаўка "Залатая саломка" працуе ў Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі па 30 сакавіка. У межах выстаўкі пройдуць 27 — 28 сакавіка майстар-клас "Саломапластыка" для педагогаў дэкаратыўна-прыкладной творчасці, 28 сакавіка — адкрыты конкурс юных майстроў па саломцы, па выніках якога будуць названы лепшыя работы.*

Увогуле, саломка — працаёмкі матэрыял, работа з ім займае шмат часу і сіл. Вось, да прыкладу, традыцыйны павук. Каб яго зрабіць, тыдні два спатрэбіцца (не час ад часу, а два тыдні штодзённай шматгадзіннай напружанай працы). Гэта вельмі карпатлівая работа — спачатку змайстраваць асобныя дэталі, пасля ніткамі іх злучыць… "А калі часам нешта паломіцца (ён жа такі крохкі) — колькі слёз у дзяцей! — не можа заставацца раўнадушнай Ірына. — Гэта грандыёзная работа! Вось у снежні будзе "Калядная зорка" — дзеці ўжо рыхтуюцца да выстаўкі. Амаль за год".

Але ж не толькі "на выстаўкі" працуюць дзеці, што займаюцца ў майстэрні, іх вырабы становяцца цудоўнымі падарункамі родным і сябрам на самыя розныя святы. І, дарэчы, вельмі цёплымі падарункамі — не толькі з-за таго, што зроблены яны сваімі рукамі, што ў іх укладзена часцінка душы творцы, а і яшчэ таму, што сам матэрыял — сонечны, жывы.

На выстаўцы-конкурсе назавуць лепшыя работы, яны будуць захоўвацца ў фондах Цэнтра, каб экспанавацца на найбольш прэстыжных выставачных пляцоўках, падчас буйных форумаў. І гэта цалкам справядліва, бо вырабы з саломкі даўно сталі візіткай нашай краіны.



*Аплікацыя Лізаветы Кавашэвіч і Сафіі Калачынскай, г. Брэст.*

## Афарызм

*Свая зямля – вось што аснова!*

**Якуб КОЛАС**

*З глыбінкі*

## Паэзія — душы выток

Зусім нядаўна ў Дзяржынску адбылася адметная культурная падзея, якую беспамылкова можна назваць сапраўдным святам паэзіі. У чытальнай зале раённай бібліятэкі прайшла сустрэча паэтаў Уздзенскага літаб'яднання "Нёманец" і Дзяржынскага літаб'яднання "Выток" пад назвай "Вянок творчых здабыткаў".

У складзе дэлегацыі з Узды былі галоўны рэдактар раённай газеты, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Віктар Сакалоўскі, які з'яўляецца аўтарам многіх кніг паэзіі, дырэктар Уздзенскай раённай бібліятэкі імя П.Труса Аксана Драчан і шэсць паэтэс: Зоя Калкоўская, Галіна Нічыпаровіч, Тамара Каляда, Людміла Астравух, Таццяна Цехнябедзіна і Вольга Бокуць-Чабатарова. Трэба адзначыць, што на працягу 20 год існавання літаб'яднання "Нёманец" паэты выдалі больш як 50 зборнікаў. З боку літаб'яднання "Выток" у сустрэчы ўзялі ўдзел такія паэты-аматары, як Рэгіна Рэўтовіч, Людміла Круглік, Уладзімір Шымановіч, Вольга Жыбурт, Тамара Кашчава, Любоў Куртова, Павел Шкель, Антось Анісовіч. Рэй на сустрэчы вяла кіраўнік "Вытоку" Ірына Міхалевіч.

Дырэктар Дзяржынскай раённай бібліятэкі Валянціна Клімовіч і яе калега Аксана Драчан абмяняліся падарункамі — зборнікамі вершаў.

На працягу ўсёй сустрэчы паэты чыталі лепшыя вершы. Многія з іх былі прысвечаны вясне і каханню. Парадавала цудоўным выкананнем сваіх песень і ігрой на баяне Тамара Кашчава. Напрыканцы вечарыны Уладзімір Шымановіч, Рэгіна Рэўтовіч і Людміла Круглік разыгралі сцэнку "Баба і дзед", якую напісала Рэгіна Рэўтовіч. Бурныя апладысменты і смех выклікалі вострыя вершаваныя фельетоны, прачытаныя аўтарамі Віктарам Сабалеўскім, Антосем Анісовічам і іншымі. Жарты, песні, смех гучалі на працягу ўсёй сустрэчы, і амаль чатыры гадзіны гэтага цудоўнага свята паэзіі прамільгнулі незаўважна.

**Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск**

## Конкурс патрыётыкі

У Дзятлаўскім раённым доме культуры адбыўся конкурс "Мая песня ў маім сэрцы", удзельнікі якога — дваццаць чатыры канкурсанты — мусілі прадставіць на суд журы песню патрыятычнага зместу.

Для конкурсу было вылучана пяць намінацый: "Дарослы саліст", "Саліст 14 — 17 гадоў", "Вакальная група", "Аўтарская песня", "Харавы калектыў". Лепшай сярод юных выканаўцаў стала вучаніца Казлоўшчынскай сярэдняй школы Лізавета Яблачкіна. З дарослых вакалістаў найбольшая колькасць галасоў дасталася Аляксандру Пігульскаму. Лепшай вакальнай групай прызналі Наваельнянскую школьную. Дыпломам адзначаны харавы калектыў Дзятлаўскай сярэдняй школы № 3. Дыплом за выкананне аўтарскай песні атрымаў Валерый Макарчык.

**Іосіф ЗАЯЦ, Дзятлаўскі раён**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:** 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2835
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 22.03.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1273
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686